

Прысвячаю ўсім,
хто далучыў свой голас
і дзеянне да кампаніі
«Вяртанне Гавязны»

хто смела ўзняў пратэст
супраць знішчальнай
меліярацыі ў пойме
рэчкі Гавязнянкі

Дранчук В. А.
Гавязна і Гавязнянка

Радкі аўтара поўныя неспакою і шчырых пачуццяў да бацькаўшчыны-Айчыны, трывогі за яе сённяшні дзень і будучыню. У кнізе шмат дакументаў, якія пазначаюць напружаную хроніку часу і аўтарскага клопату-змагання: вярнуць забраную адвечную назву мястэчка, адрадзіць амаль сцёртую з улонкаў зямлі, асушаную і каналізаваную рэчку дзяцінства.

Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца культурнай і біялагічнай спадчынай роднага краю.





# 1

*Я люблю сваё гуменца,*
*Крытае саломай...*

Якуб Колас.
*Наша гуменца.*

## Ад аўтара

ШАНОЎНЫ ЧЫТАЧ! Гэтую сціплую кніжку я назваў х р о н і к а й. Хронікай красы і змагання. Можа, крыху загучна, пафасна? Разважым разам.

У слова «краса» я ўкладваю шырокі сэнс. Найперш асяродак, дзе ты жывеш, - твой дом. Дагледжаны, ўтульны, прыгожы. На радасць вачам. Сёння, заўтра. Пасля цябе.

І дом далёка за «сценамі»: хмарнае неба, сіні гарызонт, поўная красы, неаглядная вабная далеч.

Тое, што побач і што навокал: лес або рэчка, сажалка ці крыніца, дарога ў прысадах, пагорак, гай.

Бадай, усё, што я згадаў, мае свае назовы, імёны. Нават ставок, крыху большы за лужыну, можа мець сваю назву. І ніхто, здавалася б, не паквапіцца, каб назву тую сцерці, а ставок заараць, не пакінуўшы следу.

У маім жыцці акурат так і здарылася – назву старажытнага мястэчка (ты здагадаўся, гэта Гавязна) змянілі на іншую, быццам ранейшай і не было, а маляўнічую рачулку Гавязнянку спусцілі ў глыбокі канал, ператварылі ў сцёкавы ручай, пустку.

Адбылося адно і другое ледзь не ў адзін час. У 1964 годзе скралі назву, а следам прыйшла спусташальная «меліярацыя».

Хіба можна было сцярпець гэта моўчкі? Даравець і забыцца? Я не змог. Калі хадзіў яшчэ ў шосты клас, напісаў свой пратэст супраць гвалту Гавязнянкі ў папулярны беларускі часопіс. Мінула паўвеку - і ў 2016 на берагах ачунялай рачулкі зноў з"явіліся тыя жудасныя жалезныя павукі-каналакапальнікі, каб канчаткова дабіць цуд прыроды і ў рэшце рэшт заараць саму рэчку... Свой пратэст і петыцыю я размясціў на інтэрнет-платформе «Change», іншых рэсурсах і распачаў перапіску з ведамствамі, каб спыніць тэрор супраць непаўторных краявідаў Радзімы. Лісты ў інстанцыі напоўнены болем і клопатам: што застанецца нашчадкам? Нярэдка новыя пакаленні нават не здагадваюцца, што было да іх і хто вінаваты ў стратах.

А вярнуць былую назву? Хіба не клопат усіх, хто разумее, што адбылося? На пачатку 90-х гадоў (ужо мінулага стагоддзя) я далучыўся да пратэставых настрояў землякоў, пачаў каардынаваць мясцовы рух за Гавязну. Ёсць немалыя вынікі. Аднак назва на ранейшае месца пакуль не вярнулася. Хроніка адстойвання забранага імя як гістарычнай каштоўнасці працягваецца.

Вось такая хроніка - красы і змагання. З акцэнтам на барацьбу, на супрацьстаянне злу, спусташэнню і невуцтву. Чытач мае шанец дэталёва пазнаёміцца, што і як адбывалася. Убачыць і пачуць. Задумацца разам з аўтарам і ягонымі героямі - простымі местачкоўцамі, вясковымі настаўнікамі, навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі, прадстаўнікамі ўлады. Гэты раз я аддаю перавагу надзвычай «займальнай» тапаніміцы з перспектывай вяртання Гавязны, правам карэннай меншасці на сваю адвечную красу і знак памяці, якімі ніколі і нікому не дадзена пагарджаць.



## «У гэтым мястэчку...»

**«Тут я сумна спаткнуся» - Што падумаў Янка Брыль? - Коласаў шлях праз Гавязну - «Партрэт старэйшага таварыша» - Свае ці чужыя?**

ХОЧАЦЦА ПАЧАЦЬ з Янкі Брыля. Ягонай невялічкай, амаль дзённікавай нататкі. Радкоў, якімі знаны беларускі пісьменнік так шчыра і чула, з ноткай балючага разумення ўважыў і чужы боль, мабыць, сам не ведаючы, што гэты боль існуе. Зусім побач, рэальны. І зусім не абстрактны, зусім не прыдуманы, не ўяўны, зусім не… *"Тут я сумна спаткнуся,* - напіша Янка Брыль пасля наведання маіх родных мясцін на Стаўпеччыне*. – *У гэтым мястэчку на шляху са Стоўпцаў у Нясвіж, які калісьці пешкі перамераў семінарыст Костусь Міцкевіч, у старадаўняй Гавязне, што мудрасцю нядаўніх уладаў немаведама навошта перайменавана ў нейкі Вішнявец…".*

Здзіўлюся: як многа закладзена ў слове! І "сумна спаткнуся", і "ў старадаўняй Гавязне", і "мудрасцю ўладаў", і, асабліва, "немаведама навошта"… Напісаў, пэўна, з уласнага досведу, сваёй пісьменніцкай чуласці да такіх звыкла будзённых вычварэнстваў улады, якія нясуць людзям і шмат пакутаў, і неспакою, і недарэчных наступстваў.

Ведаю, што ў сваё Беражна-Крынічнае** пісьменнік даязджаў нярэдка праз Стоўпцы, дзе на аўтобуснай станцыі шмат чаго наслухаешся ды нагледзішся. Мо, і чуў калі пра гэткі нованазоў на блізкай яму Коласавай Стаўпеччыне: была Гавязна, а тут раптам стала "нейкі Вішнявец". Ды дзе! На гасцінцы, па якім хадзіў вялікі нацыянальны класік у гады свайго навучэнства…

"Тут я сумна спаткнуся…". Варта крыху больш праясніць гэты незвычайны брылёўскі выраз. Прыгадваючы традыцыйныя "каласавіны" – штогадовае шанаванне песняра ў яго родных мясцінах, а гэта, як піша Янка Брыль, найперш сама Мікалаеўшчына, таксама Стоўпцы, Стары і Новы Свержані, Гавязна, - аўтар і робіць на апошняй свой сумны акцэнт… Памятаючы мястэчка "старадаўняй Гавязною", а цяпер - убачаным пераназваным калгасным цэнтрам Вішняўцом, куды і завіталі вядомыя літаратары на сустрэчу ў мясцовым Доме культуры, аўтар не мог не спаткнуцца. Бо Гавязна, да ўсяго, яшчэ і радзіма Рафаіла Сяржанта – героя аднаго з ранніх нарысаў Янкі Брыля ("Партрэт старэйшага таварыша", Маладосць, 1958), які чэрпаў сілы, набіраўся незалежнага духу для барацьбы за волю менавіта тут, у бацькаўскай Гавязне. Праўда, была яшчэ адна падстава азірнуцца (сумна азірнуцца) тым днём 1996 года: сюды, на старасвецкі тракт, па якім пралеглі раннія шляхі будучага песняра, пісьменнікі ўпершыню наведаліся без сына Якуба Коласа, ветла-прысутнага і нязменна заўважнага на ўсіх "каласавінах" - Данілы Міцкевіча…

Вось такая памятная "паўза", дзве сумныя згадкі, адна з якіх, выкажу думку, магла быць актуальна прадоўжана і ў культасяродку, дзе на вечарыну сабралася нямала людзей, у тым ліку і карэнных гавязлянаў-гавязенцаў. Паважна абаяльнаму Івану Антонавічу хапала і аўтарытэту, і пісьменніцкай славы, і разумна крытычнай грамадзянскай шчырасці, каб пашкадаваць ды па-харошаму прысароміць жыхароў, а па сутнасці сваіх землякоў за тое, што змірыліся, прынялі незаслужаны здзек, аддалі Гавязну. На жаль, не ведаю, не прысутнічаў. Але ўпэўнены: не абышлося…

Вядома ж, ёсць тысяча іншых месцаў, дзе аўтар трапнай зацемкі мог вось гэтак жа "сумна спаткнуцца", спыніцца ды поклічна азірнуцца, каб з пазіцый гістарычнай справядлівасці (і чалавечай таксама!) асягнуць маштаб тае жудаснай тапанімічнай рэвалюцыі 60-х, што разгарнулася на ўсю Беларусь. Але асабліва балюча і сумна гэта бачыць геаграфічна ў тым асяроддзі, дзе ты сам, дзе тваё, дзе ты блізка. Дзе крыжы тваіх продкаў.



Бо чужак не закрычыць, не пашкадуе і не спаткнецца. Зрэшты, я разумею: чужым і адстаронена далёкім можна быць і на сваім падворку, пры магільных крыжах сваіх крэўных суродзічаў.

Мая гісторыя акурат пра гэта. Пра сваіх, якія сталі чужымі, і пра чужых, якія не саступілі "сваім", гэта значыць, тутэйшым, карэнным, мясцовым.

Пра Гавязну, адным словам.



*Фота 2008: Гавязнянская Іаана-Прадцечанская царква ў сучасным Вішняўцы да рамонту. Колькі гадоў таму на вежах змянілі купалы - шэра-блакітныя на бліскуча пазалочаныя, а таксама крыжы (на старых быў паўмесячык, цяпер не стала).*

Увагі аўтара

* *Стоўпцы*, *Стаўпеччына*, а не *Стоўбцы*, *Стаўбцоўшчына*. Пішу так з увагі на адзін адметны факт: у пашпарце Якуба Коласа было запісана менавіта «Стаўпецкі раён». Абодва варыянты аднолькава ўжывальныя.

** Вёска *Беражна*, Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці. На беразе Нёмана. *Крынічна* - мясціна непадалёку, дзе прыкладна з 80-х гадоў летаваў Янка Брыль.

# Як мур, як родная сцяна

**На добрай славе і памяці - Ганарыцеся, людцы Божыя! - Без крыві, але вельмі балюча - Як жыць з абразай? - Маёнтак Гавязна - Сляды мінулага - Што хавае культурны пласт?**

ДЛЯ ЖЫХАРОЎ не толькі самога мястэчка, але і далёкіх тэрытарыяльна-адміністрацыйных ваколіц назва Гавязна была як мур і родная сцяна, заўжды ганаровай ці, як сёння кажам, рэспектабельнай.

У кожнай літары, у кожным гуку-паўгуку чуліся да ніткі свойскія ноткі павагі і самапавагі: калі прамаўлялася ў людзях або калі пісалася ў дакументах, сведчаннях асобы.

Было гэта вельмі натуральна, бо назва – не дзіва ж! - канцэнтравалася на добрай славе і памяці, на гісторыі, на боскай веры, на людзкасці маралі, гаспадаркі і побыту.

Яшчэ на тым, што з даўняе даўніны была тут царква, спачатку драўляная, затым мураванка. Што Гавязнянская гміна збірала шмат ваколічных земляў з яе рупліўцамі-гаспадарамі, шматлікімі паселішчамі – вёскамі, хутарамі, засценкамі, фальваркамі, асадамі, леснічоўкамі. Скажам больш – з багатымі на дары лясамі, лугамі ды чыстай, шчодрай на рыбу рэчкай Гавязнянкай, што надавала краявіду-малюнку яшчэ большай, адметнай красы.

У рэшце рэшт, назва не для таго, каб ёй захапляцца. Яна ж – Богам дадзеная. Карыстайцеся, людцы божыя! Ганарыцеся тым, што маеце ад дзядоў-прадзедаў. Ушаноўвайце справамі ды ўчынкамі на далейшую славу.

Не! Закарцела назву прыбраць. Гэта ж так проста – некалькі хітрых маніпуляцый з дзяржаўнай падачы. Дзеля "светлае" будучыні, на новы "лепшы" лад. Каб справа ішла рухава – адпаведны указ Вярхоўнага савета... Калі



хто не ведае, што такое бальшавізм, ведайце: гэта не толькі фелікс дзяржынскі, крывавы тэрор, Курапаты, гулаг, саветы, але і змена гістарычных адвечных назваў на "лепшыя", больш "мілагучныя". Хай без крыві, без кулі ў патыліцу, але бяздушна і вельмі балюча.

Местачковая кабета аднойчы пасведчыла мне, што сама, на свае вушы чула, як старшыня Гавязнянскага сельсавета ("Вы ж ведаеце, хто гэта..." ), чалавек нетутэйшы, казаў  на "нашу Гавязну" : *"Да какое это название – Говнизна!.. Село всё в вишнях , а не ў г…не, пусть и будет Вишневец…"*

З гэтай абразай трэба было жыць, трываць. 60-я гады, куды ж рыпнешся? "Толькі вы мне прабачце, Аркадзьевіч… Я гэта не прыдумала, – засаромелася жанчына. – Паўвека мінула, а помню ўсё як учора".



## ***Змена шыльдаў. Цвікі, малаток, драбіны. Магазін, сельсавет, пошта. Мая васьмігодка пачала называцца… Не, яна і пасёння для мяне Гавязнянская***

Адным словам, у 1964 годзе – я хадзіў тады ў шосты клас Гавязнянскай (!) васьмігодкі - назвы Гавязна не стала, яе змяніла іншая, чужая і банальна бяздушная - Вішнявец. Памятаю: змена шыльдаў. Цвікі, малаток, драбіны. Магазін, сельсавет, пошта. Мая школа пачала называцца… Не, прамаўляць не буду, не выпадае. Хоць правучыўся тут яшчэ два гады, а пасёння лічу, што закончыў *Гавязнянскую васьмігодку* - іншай у мяне не было.

ЗАГАДКАВА-ТАЯМНІЧАЯ назва Гавязна губляецца ў тоўшчы прамінулага тысячагоддзя. Упершыню яе чароўны суплёт з сямі літар засведчаны ў інвентары 1592 года – менавіта ў гэты час назва належала сядзібе (місіянерскаму асяродку) *Нясвіжскага езуіцкага калегіума.* Не адзін раз скажам і не раз паўторымся, што на гэтай падставе цалкам справядліва лічыць: Гавязна – спадарожнік Нясвіжа, частка ягонай вялікай гісторыі і гісторыі ордэна езуітаў у Беларусі і Нясвіжы. Насамрэч так.

Нагадаю, што *езуіты* (ад лац. *Jesus* – Езус, Ісус) – манахі мужчынскага каталіцкага ордэна-таварыства, самага ўплывовага ў заходняй цывілізацыі: на тэрыторыі Літвы-Беларусі стварылі шырокую сетку навучальных устаноў і, бадай, цалкам засяродзілі ў сваіх руках сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Езуіцкія школы слылі як лепшыя ў Еўропе. З іх класаў выйшла шмат знакамітых вучоных, грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў (Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ігнат Дамейка, інш.). Пры езуіцкім касцёле Божага Цела ў Нясвіжы (неўзабаве пасля яго будаўніцтва, 1587-1593) амаль адразу паўстаў і езуіцкі калегіум на 250-300 вучняў, трэці пасля Віленскага і Полацкага. Рэлігійная і асветніцкая дзейнасць місіі доўжылася да скасавання ордэна (1773).



## *Дзякуючы Нясвіжу, назва трапляла ў кантэкст шырокай культурна-рэлігійнай еўрапейскай традыцыі*

Чаму нясвіжскія езуіты, маючы шырокі выбар, абралі гэты паўночны вектар *Нясвіж – Гавязна – Новы Свержань* і замацаваліся тут, – застаецца пакуль цікавым пытаннем. Зусім верагодна, што *сядзіба Гавязна* (магчыма, у іншай форме і выглядзе) існавала і да прыходу езуітаў, нават задоўга да іх. Ці гэта было сталае паселішча, ці проста вабная мясціна (засценак або ўрочышча, напрыклад), сказаць цяжка. Верагодна і тое, што сядзіба-маёнтак (калі гэта адно і тое, паводле архіваў) прыдалася манахам дзякуючы ўдаламу размяшчэнню: між лясоў, побач жывога тракта, на беразе ракі Гавязнянкі. І была ўжо на той час выкупленай магнацкім Нясвіжам у слуцкага князя Яна Сямёна Алелькавіча (1582, у іншых крыніцах 1588).

Найбольш істотная тут, бадай, сама назва *Гавязна* ў кантэксце еўрапейскай гісторыі, адукацыі, культурна-рэлігійнай традыцыі, у рэшце рэшт, і самога Радзівілаўскага Нясвіжа. Не абы-якая разыначка ў тоўшчы часу!

Як жа выглядаў той даўні асяродак Гавязна на час гаспадарання тут езуітаў? Вось што падае кніга "Памяць. Стаўбцоўскі раён" паводле той жа інвентарнай крыніцы 1592 года. Сядзіба мела цэлы комплекс пабудоў самага







PLAN
gruntów folwarku prywatnego
HOWEZNA
w gminie howezniańskiej, powiecie nieświeskim
województwie nowogródzkiem






*Фота 2018: 1. Панарама былога фальварка (маёнтка?) Гавязна; 2. План земляў фальварка з пячаткай Нясвіжскага павета Наваградскага ваяводства, 1936; 3. Скляпеністы падвал 15-16 ст.; 4. Графічны знак стаўпецкага Панямоння (аўтар В. Дранчук).*





## *«Дзіўна тое, што мы, простыя людзі, разумеем духоўную значнасць гістарычнай назвы і ўжо колькі гадоў спрабуем пераканаць у гэтым уладу, а дыпламаваныя чыноўнікі трымаюць пытанне “пад сукном”, быццам не чуюць нашага крыку душы”.*

***З ліста Платун Я.М. да старшыні Мінскага аблвыканкама Дамашкевіча Ф.М. 16 жніўня 2001 года.***

*Фота 2017: Касцёл у суседнім Новым Свержані (1588, архітэктар Ян Бернардоні); унізе - старонка кнігі «Памяць. Стаўбцоўскі раён», 2002, з артыкулам «Старадаўнія сядзібы Стаўбцоўшчыны»: «Найстарэйшай лічыцца сядзіба Гавязна...».*




Старадаўнія сядзібы Стаўбцоўшчыны



markdownрознага кшталту, іх лёгка было падзяліць на дзве галоўныя часткі: *гумнішча* і *двор*. Двор быў абнесены шчыльным парканам з дубовых і сасновых бярвёнаў, меў браму, за якой размяшчаліся тры жылыя дамы, за імі былі кампазіцыйна расстаўленыя будынкі адпаведнага прызначэння – лазня, бровар, саладзільня, свіран і стайня. Асобную тэрыторыю, таксама абгароджаную, як і двор, займала гумнішча, дзе сушылі ды абмалочвалі прывезеныя з поля снапы, захоўвалі салому, збожжа і сена. Гумнішча лёгка было пазнаць здалёку па характэрных сілуэтах і вобразах: вось гэта гумно, там амбар і адрына, а збоку, ніжэй, азярод і за ім 12 абарогаў. Праз 14 гадоў інвентары сведчаць пра значнае развіццё сядзібы. У адным з дамоў абсталяваны камін, на двары з’явіліся паграбы, пякарня, сырніца, двухпавярховы свіран, дом аканома. Сядзіба набывала рысы вялікіх, па-гаспадарску ўладкаваных двароў таго часу.

Сёння, праз сотні гадоў, наўрад ці хто скажа-пакажа, дзе дакладна знаходзіўся двор Гавязна, дзе стаялі шматлікія немалыя будынкі. Час не захаваў выразных, відавочных абрысаў ні самога двара, ні пабудаванага пазней вінаробнага завода, ні камянёў-падмуркаў - усё, верагодна, схавана пад груваcткім покрывам культурных напластаванняў. Толькі месяцы напружанай архіўнай працы ды інтуіцыя ўяўлення маглі б зарыентаваць сучасніка на гістарычнай мапе мясцовасці. На жаль, да гэтага справа пакуль не дайшла.

Аднак, не ўсё безнадзейна. Сённяшняе рэальнарэчаіснае ўяўленне факусуецца на кучаравых ваколіцах колішняй гміны (1921 – 1939), дзе да прыходу саветаў паспяхова трываў *фальварак Гавязна* (раблю акцэнт перш-наперш на назве). Яшчэ сёння знойдуцца людзі, памяць якіх не сцерла і прозвішчы апошніх гаспадароўуладальнікаў *Максіма Карсекі* ды *Яна Рымашэўскага* (маю гонар быць яго ўнукам).

Ці не гэтая тэрыторыя і з’яўляецца спадкаемцам былога аднайменнага двара? Ёсць некалькі прычын меркаваць менавіта так. Доўгі час, калі фальварак Гавязна ўжо быў хутарам, тут працягвала бытаваць слова *гумнішча*; паводле ўспамінаў старэйшых, крыху воддаль стаяла

гумно і да самай калектывізацыі працавала конная малатарня. За пабудовамі хутара, на сутыку поля і лугу з сажалкай стаіць сцяна старасвецкіх ліпаў – гэтае месца Ян Рымашэўскі называў вінакурняй. Сярод пабудоў, побач з домам захаваўся дасканала складзены скляпеністы падвал, які без ваганняў адносіш у тыя далёкія ад нас стагоддзі. Нарэшце, сярод дрэў вылучаеш рарытэты, асабліва ліпу і клён, узрост якіх даўно перасягнуў тры стагоддзі. І чаму тут, побач з фальваркам , а не ў іншым месцы, асталяваўся своеасаблівы адміністрацыйны цэнтр – народная вучэльня, гміна, а пазней і бальніца?

Само мястэчка Гавязна і ўзнікла дзякуючы заможнаму шляхетнаму маёнтку. Мікалай Радзівіл Сіротка меў гэтую асаду – з маёнткам і навакольнымі вёскамі – на асаблівы, не шараговы выпадак. Нясвіжскія бенедыктынкі, як і езуіты, атрымалі ад Сіроткі Гавязнянскую фундацыю і неўзабаве сваімі стараннямі – згодна дэвізу “Маліся і працуй!” – заснавалі тут уніяцкую царкву (1640), што несумненна абяцала вузлавыя функцыі асяродка. Урэшце, што атрымалася? Яшчэ адзін каталіцкі ордэн з вядомым кляштарам у Нясвіжы (цяпер тут педкаледж) быў з рукі Радзівілаў замацаваны вакол Гавязны дзеля гаспадарчых і місіянерскіх мэтаў. Ці не бліскучая старонка духоўнай гісторыі краю!

Нягледзячы на тое, што з такой назвай існавала ўжо вёска, дый сядзібная назва нікуды не дзелася, – мястэчка таксама, як і яе старэйшыя суседзі, пачало называцца Гавязною. Склаўся па-свойму адметны, надзвычай кампактны адміністрацыйны трохкутнік: *маёнтак – сяло – мястэчка.* З адной кодавай назвай. Варта жалю, што ў савецкі час такая адміністрацыйная адзінка як мястэчка была скрозь скасаваная, і мястэчка Гавязна афіцыйна (і выключна ў напісанні) сталася Гавязною-2, а вёска Гавязна – Гавязною-1. Мясцовая традыцыя, аднак, брала верх: Гавязну-2 называлі, як і раней, *Мястэчкам*, а суседнюю вёску па-ранейшаму *Гавязною*. Пакуль на старажытнай, абжытай шматлікімі пакаленнямі мясцовасці не з’явіліся чужыя нялюдскія пераназовы.



# Няхай ваша вернецца да вас!

**«Давай ратаваць Гавязну! Назву ўкралі!» - Як даць ход вяртанню? - Адкрыты ліст да землякоў - Дзяды 1992 - Пляма на белых кашулях - Збор подпісаў - «Як памру...»**

ЯКОЕ ШЧАСЦЕ, што настаўнікі застаюцца *настаўнікамі!* Кажу гэта як *вучань*, якім і сам застаўся для сваіх настаўнікаў, для тых, хто вучыў цябе шанаваць радзіму, любіць родную мову, берагчы гонар і памяць продкаў. Хто паверыў у свайго *вучня*. Неяк вяртаўся дадому, а з лаўкі каля сваёй хаты голасна кліча мяне былы школьны дырэктар **Іван Міхайлавіч Аніфер.** Павіталіся. "Валера, давай ратаваць Гавязну". "Ад каго?", – пытаю ды прыязна ўсміхаюся, бо ведаю, што настаўнік-пенсіянер моцна захапіўся краязнаўствам. "Як ад каго? Ад злодзеяў. Назву ўкралі!..".

Мне доўга тлумачыць не трэба, шаноўны мой настаўнік, я не самы горшы Ваш вучань, усё разумею і падзяляю душэўны ваш клопат, кожнай літарай "старой назвы" трымаю тую ж пазіцыю, што і Вы,- мы аднадумцы. А вось як адкруціць тую стрэлку назад, каб новую назву змяніць на "старую", даць ход вяртанню? *Закон – працэдура – аднадушнасць.* У трохзвённым ланцужку самае цяжкае звяно апошняе: ці будзе жаданне большасці жыхароў аддаць свой голас за Гавязну? Калі ў выпадку перайменавання была дырэктыва ўлады, якую на месцах спяшаліся выканаць прыўладныя энтузіясты, у нашым выпадку – усё амаль наадварот…

Праз колькі месяцаў я адвёз у рэдакцыю раённай газеты "Прамень" свой адкрыты ліст да землякоў. Быў

кастрычнік, пярэдадзень Дзядоў, я свядома падгадаў гэты момант. Мой ліст не адкладваючы надрукавалі.

**НЯХАЙ ВАША ВЕРНЕЦЦА ДА ВАС!**

**Адкрыты ліст да жыхароў вёскі Вішнявец і ўсіх землякоў.**

Восеньскія Дзяды, 1992

*Шаноўныя землякі, землякі-местачкоўцы!*

Надышлі асяніны – вялікія восеньскія дзяды, дні, поўныя смутку ў прыродзе і ў чалавечых пачуццях. Хто не страціў душы, гэтым часам звяртаецца да спрадвечнага клопату-сэнсу ўшанаваць сваіх продкаў, азірнуцца на магільныя крыжы, пад якімі схаваны родныя, паклікаць нябожчыкаў да сямейных застолляў, параіцца разам, як жыць далей.

*Паміж гаманы вашай, мо, няхай перакінецца і такое пытанне: ці не здрадзілі вы дзядам сваім крэўным, што аддалі назву мястэчка чорт ведае каму? Няўжо сябе пераскочыць схацелі?*

Была ж цудоўная назва, што спадчынай засталася. Вам, вашым дзецям і ўнукам. Разважце ды памяркуйце: ці не гвалт быў учынены, ці не вынеслі з вашае хаты, вашага дворышча, вашай сялібы штосьці адметна каштоўнае? Задумайцеся, дзе тут ваша віна, дзе не ваша.

*(...)*

*Ззвяртаюся да вас, бо карані мае - паміж вашых, пераплецены адным лёсам. Я сню свой родны кут, сваю родную хату, што ля Раманавай гары, і маю шчасце час ад часу вяртацца ў яе. Заношуся ў думках да вокнаў драўлянае школы-васьмігодкі пасярод мястэчка, дзе нас вучылі любіць нашу бацькаўшчыну, шанаваць яе каштоўнасці і шмат чаму яшчэ, добраму і вечнаму. На местачковых могілках*



*вечным сном спачываюць мой дзед, мае сваякі і суседзі, мае землякі. Зямля ім пухам і нізкі асенні паклон наш.*

**А звон ад барочных муроў Гавязнянскай царквы кожны раз мне нагадвае, што ў родным краі жыло, жыве і жыць будзе Божае слова, і ўсё, што ні дзеецца вакол нас, робіцца па-хрысціянску, паводле добрых звычаяў і разумнага сэнсу.**

*Вось не ведаю, праўда, які "бог" падказаў адрачыся былога імя – назвы слыннага мейсца. Хутчэй, пасланнік д'ябла. Бо ніводная ўлада, якой бы ні выпадала панаваць на працягу чатырох стагоддзяў (!), не насмельвалася падступіцца да кораня – назвы тутэйшай, каб вырваць яго, парушыць повязь часоў. Ні палякі, якія хіба націск перакінулі на другі склад, ні расейцы, ні першапраходцы-бальшавікі, ні нават нямецкія захопнікі.*

**Не ведаю, чый далікатны слых дачуўся брыдкасці ў адвечнай назве, "немілагучнасці" ў яе складах, чый розум адважыўся замахнуцца на глыб гісторыі, кінуць камень у яе гулкія сховы. Дый жадання шукаць вінаватых няма. Ведаю толькі, што гэта была прыкрая памылка, пляма на нашых белых кашулях. З гэтай нязмытаю плямай мы сядзем і за сённяшні стол, і дзяды нас спытаюць з дакорам.**

*Назва Гавязна – мала што спаконвечная, самабытная, ад дзядоў-прадзедаў. Яна яшчэ і мілагучная. Як хочаш кліч – Гавязн**а**, Гавэзна або Г**о**вязна – гучыць, быццам рэха, поўная ладу і сэнсу. У ёй і мяккабеларускае, наскае "га", і перастук жорнаў з пахам свежага млiва, і рыпенне падводы на вязкай дарозе, і пошум вязаў, і рыканне гавядкі з роднага дворышча. А калі на тое (скрайні выпадак!), дык і салодкі водар гною, якога, як і лёсу, не годна выра-*

*кацца ні мужыку-селяніну, ні яго нашчадку, нават калі той ухапіў з неба зорку. А якія назвы навокал, паблізу – услухайцеся! – вёска Вязавец, урочышча Вінішча (біблейнае слова), лес Госцімна...*

**Ведаю з апошніх сустрэч, што дасціпнейшыя з вас год таму паспрабавалі вярнуць каштоўную згубу. Звярнуліся ў Вярхоўны Савет. І пакаціўся камень-чык з гары. Просьбу спусцілі ў раён, адтуль у сельскі савет. На вёсцы вырашылі ўключыць "дэмакратыю", адказаць падворным абходам: каму што падабаецца?**

*Мелі ж рацыю людзі, калі казалі прыслухацца да голасу карэнных, сталых жыхароў, а не ўсіх пагалоўна, па складзеным спісе. Напраўду, хапіла б і пяці мудрых айцоў-местачкоўцаў, каб спытацца іх думкі. Яны скажуць! «А ці ведае хто, адкуль гэтая назва ўзялася, каб яе было мяняць? Ня ведае. То вярніце назад, дзе ўзялі не спытаўшы!».*

**Але заўладаў "рэферэндум". Падворны. З адпаведнай агітацыяй. І справаздача пайшла наверх, закрыла пытанне па вертыкалі... Хіба так робіцца? Дзе ж справядлівасць? Не вас пытаюся, а сябе. Бо не веру ў тую, д'яблаву справядлівасць.**

*Сёння, падчас вялікіх асенніх дзядоў, жаданай малітвай нашай хай будуць і гэткія словы: «Жыццё кароткае - Радзіма вечная» Памяркуйце кожны за сваім сталом, спытайце ў святых дзядоў, як звацца далей, каб радзіма была сапраўды вечнай. Яны ж свабодныя, падкажуць.*

**Прабачце, калі нешта не так. Не прыміце за павучанне. Я прамаўляю разам з вамі: "Жыве Гавязна!" І няхай в а ш а вернецца да вас.**



Здарылася прыемная нечаканасць. Газетную публікацыю заўважыў настаяцель мясцовай царквы бацюшка Серафім, і прыканцы нядзельнай службы цалкам зачытаў Адкрыты ліст. Забраная родная назва ўсхвалявала людзей. Гвалт, учынены ўладамі дваццаць восем гадоў таму, быў успрыняты як наноў. Хто быў у царкве, пачалі дружна ставіць подпісы з патрабаваннем вярнуць Гавязну. Мне пераказвалі, і не раз, што ініцыятыву ўзяў на сябе светлай памяці Віктар Сасноўскі з суседніх Ахрэмавіч, калгасны шафёр, чалавек аўтарытэтны, якога ўсе ведалі і паважалі. Ніхто не пакінуў у той дзень царкву, пакуль не падпісаўся, а хто не быў на службе, дапытваліся, як можна гэта яшчэ зрабіць. Іншыя не пытаючы ішлі ў царкву ставіць свой подпіс…



***Мне пераказвалі, і не раз: хто быў у царкве, пачалі дружна ставіць подпісы з патрабаваннем вярнуць назву***

Першы грамадскі водгук, рашучы і бескампрамісны, увачавідкі паказаў: забранне Гавязны – не перагорнутая старонка ў летапісе мястэчка і яго ваколіц.

Менавіта "і ваколіц". Гэта быў і застаецца як адзін з прынцыповых момантаў. Памятаю яшчэ з тых жа, 60-х, як абураліся адменай Гавязны жыхары навакольных прылеглых вёсак – Ахрэмавіч, Вязаўца, Зарэчча, Крамца, Перакопаўшчыны, Падзерычаў, нават вёсак суседняга Нясвіжскага раёна Петухоўшчыны ды Новых Навасёлак, канфесійна прылеглых да мястэчка. Скасавалі – як адрэзалі. Чаму і навошта? – настроі неўразумеласці і справядлівага абурэння запанавалі далёка за межамі самой Гавязны. Нягледзячы на паўстагоддзя, і па сёння там трывае пакаленне, якое перажыло тапанімічны вандалізм на сваім двары. І я рады пасведчыць, што зрэдчас сустрэнеш чалавека, які скажа пра той "бальшавіцкі"гвалт: "Ат, басата гэта цёмная… Праз гадоў дзесяць, хай дваццаць ці пяцьдзясят Гавязна абавязкова вернецца. Бо ёсць такі закон: вярні тое, што гвалтам забраў!"

Успамінаючы сваіх настаўнікаў, хачу ўдзячнае слова сказаць яшчэ пра каго-кольвек з самых адданых і разумных прыхільнікаў гістарычнай Гавязны. Самаперш, светлай памяці, **Яўгенія Мікалаеўна Платун** (у дзявоцтве Крывель), Мікалаеўка, як казалі ў мястэчку. І не толькі таму, што бацьку звалі Мікалаем, а хутчэй таму, што родам з недалёкай ды слыннай Мікалаеўшчыны. Часам адно, што мне заставалася, – падрэдагаваць напісанае Яўгеніяй Мікалаеўнай, каб пераслаць ці завезці чарговы ліст у адпаведную інстанцыю. Гэтая прыгожая статная жанчына ўсёй душою прыгарнулася да агульнай справы, не адступалася да апошняга, была заўсёды рашучай і смелай. *"Мо, камунякі адумаюцца..."* – любіла казаць.

Я заўсёды з радасцю наведваў яе дом, дзе сустракала не толькі сама гаспадыня, але разам з ёй заўжды ветлівы і жартаўлівы гаспадар, калгасны механізатар, вясковы ўмелец і пчаляр Сяргей Іванавіч. Абое былі апантаныя вяртаннем назвы мястэчка. Абмяркоўвалі тэму з усіх бакоў, мне імпанавала іх няўрымслівая пазіцыя, абазнаная арыентацыя на мясцовасці, гатовасць ісці да канца, да перамогі. Адно, што нас засмучала і разам з тым прымушала спяшацца, - адыход у лепшы свет патрыярхаў мястэчка, якія не раз казалі: *"Як памру, хто тут скажа за Гавязну. Нас мала ўжо, вельмі мала, хто памрэ з Гавязною..."*. Гэта былі вельмі цвярозыя і балючыя словы, я не раз зазіраў у іх святую праўду, як у люстэрка жыццёвай мудрасці.

Сярод інтэлігенцыі, пераважна той жа, настаўніцкай, дзякаваць Богу, знаходзіліся яшчэ не менш адданыя і дзейныя змагары за Гавязну, якія ўмелі замовіць і разумнае публічнае слова, і не хавацца там, дзе патрэбны рэальны подпіс пад калектыўным зваротам. Такімі былі **Іван Нарановіч, Надзея Аніфер, Іван і Вольга Баранавы, Сабіна Бельская, Галіна Карсека,** цяперашнія педагогі **Ірына Клочка, Марына Белік, Ядвіга Ліпай, Вячаслаў ды Ірына Саракавікі.**



АДУМАЦЦА, прызнаць памылкай тое, што дырэктыўна і стратэгічна, вераломна і ўсвядомлена скасавана, улада яўна не хацела. І чакаць такога развароту (ад "камунякаў") было, у рэшце рэшт, празмерным аптымізмам. Замест аднаго росчырку пяра на рашэнні вярнуць гістарычную назву аўтары зваротаў атрымлівалі здзеклівыя спасылкі на закон, на "дэмакратычны"(!!!) падыход, маўляў, гэта ўжо *не* вяртанне назвы, *а* "перайменаванне населенага пункта... " большасцю галасоў.



## *«Як памру, хто тут скажа за Гавязну. Нас мала ўжо, вельмі мала, хто памрэ з Гавязною...»*

Адбівацца ад фальшывых абыякавых адпісак, ад бяздушнага кручкатворства, пустых завучаных бюракратычных фармулёвак было псіхалагічна і маральна цяжка; фальсіфікацыі, падмена паняццяў ставілі ў тупік, тапілі грамадскую ініцыятыву. З сельсавета і калгаснай канторы мне перадалі неафіцыйнае застрашэнне (нібыта сумеснае): калі не спыню "падрыўныя дзеянні" на тэрыторыі сельскага савета, не перастану "бударажыць народ" і адцягваць яго ад вытворчых задач, мяне спыніць міліцыя і чакаюць адміністрацыйныя санкцыі. На гэты час я акурат сабраў подпісы пад чарговым Зваротам старэйшых жыхароў мястэчка. І напярэдадні з паплечнікамі зацвердзілі яго апошнюю рэдакцыю – *не больш як на старонку, сціслa і зразумела.* Назаўтра, калі пачуў пра пагрозу, наведаўся ў сельсавет. "Не, мы нічога не чулі, каб вас хто… Ды не, такога не было", - адказалі мне жанчыны. Параілі падняцца на другі паверх, дзе "праўленне калгаса". Але там было зусім бязлюдна – канец дня – і спытаць не было ў каго. Не стаў траціць час на пустое. Бо добра ведаў, адкуль той звон і ў каго не згас камсамольскі запал.

У апошняй рэдакцыі Зварот выглядаў так (тут варта заўважыць, што тэкст "сабраны" ад розных людзей падчас сустрэч і гутарак; я запісваў найбольш трапныя выразы,

каб пасля скарыстаць у калектыўнай петыцыі): падаецца, гэта атрымалася.

**ВЯРНІЦЕ ТОЕ, ШТО Ў НАС ЗАБРАЛІ!**

**Зварот старэйшых жыхароў мястэчка Гавязна (вёскі Вішнявец)**

Красавік 2003

*Што праўда, была ў нас адвеку свая назва вёскі. І ніводная ўлада, якая прыходзіла, не давала яе мяняць. Брала і карысталася.*

*А ў 1964 годзе знайшлася такая нагода – змяніць назву.*

*Гадаваная вякамі наша Гавязна апынулася на сметніку, а заўладала новая, нікім не чутая – Вішнявец.*

**Мы засталіся як без роду. Бо што такое назва? Гэта корань мясцовасці. Як кажуць, ад Бога. Пачатак нашых пачаткаў. Гавязна ўпамінаецца з незапомнага часу. Яшчэ на свеце не было ні Пятра I, ні Івана Жахлівага, ні цара Гароха. А Гавязна ўжо была! З ёю і Радзівілы лічыліся: з веку ў век Гавязна пісалася Гавязною.**

*Па нашым гасцінцы ехала шмат народу. І ўсе бачылі Гавязну. Дык што, мо наш мястэчак перарадзіўся або сышоў з гасцінца?*

*Не. Стаіць як стаяў.*

*Глянем у бок Стоўбцаў. Зірнем навокал. Свержань застаўся Свержанем. Кісялёўшчына, Халаімаўшчына, Мархачоўшчына – былі і ёсць. Кнотаўшчына, Любкаўшчына, Жыгалкі… Дзе хто змяніў сваю назву, старую на "лепшую"? Блізка нас – аніхто! Толькі мы даліся на кручок.*

*Цяпер нам радзяць пісьмовае апытанне: хто як скажа, за што распішацца. На наш розум, што тут казаць. Калі ёсць адна праўдзівая назва – Гавязна, дык няхай і застаецца. Калі хтосьці ўчыніў гвалт, змяніў старадаўнюю назву на прыдуманы Вішнявец – дык папраўце, вярніце нам тое, што ў нас забралі.*

***Звяртаемся да раённай улады:*** *вярніце, калі*



*ласка, наша права на гістарычную назву нашай бацькаўшчыны.*

***Звяртаемся да мясцовай адміністрацыі, да старшыняў – сельсавета і калгаса:** зрабіце ўсё, што залежыць ад вас, каб вярнуць Гавязну.*

***Заклікаем і просім усіх аднавяскоўцаў:** будзем разам і заадно, будзем шанаваць наша Мястэчка і называць яго так, як яно сотні гадоў называлася.*

Адаміцкі Уладзімір Аляксандравіч, 1927 г.н.;
Адаміцкая Вольга Аляксандраўна, 1932;
Аніфер Надзея Іосіфаўна, 1926;
Баранаў Іван Мацвеевіч, 1921;
Баранава Вольга Антонаўна, 1927;
Бельская Сабіна Іосіфаўна, 1931;
Бурновіч Валянцін Іванавіч, 1934;
Бурновіч Ігнат Канстанцінавіч, 1913;
Бурновіч Марфа Аляксандраўна, 1922;
Бурновіч Софія Адамаўна, 1931;
Бурновіч Яўгенія Аляксандраўна, 1932;
Казлоўская Леаніда Васільеўна, 1923;
Качура Іван Мікалаевіч, 1937;
Кійка Міхаіл Міхайлавіч, 1923;
Кійка Франя Вікенцьеўна, 1926;
Платун Сяргей Іванавіч, 1930;
Платун Яўгенія Мікалаеўна, 1933;
Рамановіч Алена Іванаўна, 1937;
Рамановіч Яўген Міхайлавіч, 1933;
Рачок Вольга Паўлаўна, 1927;
Рачок Іван Антонавіч, 1923;
Сяржант Алена Канстанцінаўна, 1931;
Сяржант Кацярына Мікалаеўна, 1926;
Сяржант Кацярына Аляксандраўна, 1927

Тут я дазволю сабе невялікае адступленне. На сённяшні дзень, калі за вокнамі не 2003, а 2018, з тых падпісантаў засталося ўсяго двое: Кацярына Сяржант і Вольга Баранава. Размянялі апошні дзясятак. **Вольга Антонаўна Баранава –** педагог, мая настаўніца. Выкладчыца геаграфіі, бліскучы прафесіянал. Як сёння бачу яе перад класам. Чую голас. Міжволі перахопліваю строгі, але заўсёды ласкавы разумны позірк. У сваёй улюбёнай бялюткай блузцы пад сінім, ладна скроеным касцюмам.

Адухоўлены твар, чысцюткая родная мова. Калі пачынаў кампанію "за Гавязну", завітаў і да яе, Вольгі Антонаўны. Яна ўхваліла намеры і выказала падтрымку, аднак пафіласофску заўважыла: "Ведаеш, раней, мо, і я б так рабіла, і шкадавала б, і бедавала. А цяпер не тое, неяк не так. Не, не таму, што не шкада. Усё таму, што не толькі ж назву згубілі. Дух не той! Клімат інакшы. І ўсё інакшае. Не табе казаць, якая ў нас была рэчка - Гавязнянка наша. Дзе тыя крыніцы, дзе тая вада, дзе ўсё тое хараство?.. Таму і апускаюцца рукі, што не беражом, не шануем. І ўлада разумець не хоча, што багацце там, дзе душа і памяць…".

Дапілі гарбату, развіталіся з добрымі пажаданнямі. "Дай Бог Вам здароўя, Вольга Антонаўна! – кажу і сёння. – Жывіце доўга і Вы, Кацярына Мікалаеўна!"

А перад *Янам* – храмавым, самым чаканым святам мястэчка – з букетам валошак выправіўся на местачковыя могілкі, каб пакласці па кветачцы да магільных крыжоў колішніх падпісантаў. Рассыпаныя па трох кладах – "старых" і "новых", трапілася на вочы не больш за дзясятак магілак. "Якія ж вы мне дарагія. Дзякуй Вам!" - - толькі і сказаў на развітанне… Пэўна ж, мусіў сказаць больш. Адклаў на пазней. Яшчэ пазмагаемся!



***"Апускаюцца рукі, што не беражом, не шануем. І ўлада разумець не хоча, што багацце там, дзе душа і памяць…"***

ТРЭБА АДДАЦЬ належнае мясцовым масмедыям – раённай газеце і раённаму радыё, якія знаходзілі час ад часу інфармацыйную нагоду дзеля грамадскага клопату – вярнуць забраную каштоўнасць у адвечны гістарычны кантэкст. Публікацыі і перадачы рабіліся выключна з прафесійнага ды чалавечага чынніку аўтараў – журналістаў Святланы Жыбуль, Таццяны Пяткевіч, Лёнгіна Ваяводскага, адказнага сакратара Хведара Бандаровіча, фотакарэспандэнта Васіля Зянько, рэдактараў Сяргея Галоўкі ды Івана Багаткі. Балазе, выходзіла старонка



*"Панямонь"* пераважна гістарычна-краязнаўчага зместу. Кожная публікацыя, прысвечаная мінуламу Гавязны, цешыла не толькі адных "гавязенцаў", але адгукалася і далёка за межамі ў ваколіцах, саладзіла слых і вярэдзіла памяць тых, хто не менш адчуваў і перажываў страту.

**«ЯК СОН ЯКІ - ПРА ГАВЯЗНУ ЗАГАМАНІЛІ!»**

**Маналог 72-гадовай Леаніды Казлоўскай.**

З дыктафона аўтара. 2003

- Няўжо ж такі Гавязна вернецца, га? От радасьці будзе, хто прычакае. Бо нават людзі, каму гэта не абыходзіла, перасталі ўжо думаць, зусім паняверыліся. Пачнеш гаварыць – і як няма пра што: ані ўжо ніхто ні на кога не спадзяваўся. А тут, во, як сон які - зноў пра Гавязну загаманілі, ды гэтак разумна, хораша, слушна. Па раённым радыё ўспомнілі, сама чула. У "Прамені" пісалі. Канешне ж, ня ўсім падабаецца наша Гавязна. Бо яны пра Гавязну, мо, ці чулі. Прыехалі – хто з-пад Чарнобылю, хто з-за Смаленскай вобласці, хто адкуль. Дык што ім тут – бацькаўшчына? Разумнейшыя хоць маўчаць, ня ўмешваюцца. А ёсць жа зацятыя, працівяцца, хочуць нам рот заткнуць сваім Вішняўцом.

**АДМЕТНАЯ КВЕТКА БЕЛАРУСКАЙ ТАПАНІМІКІ**

**Валер Дранчук.**
**«Святаяннік». Газета Летняй школы экалагічнай журналістыкі.**
Хутар Гавязна. 2003

(...) Вішнявец – вялікі пустазёл на нашай зямлі. Сціранне гістарычнай памяці беларусаў дала яму глебу, і ён забуяў. Гавязна пахілілася й змерла. Гэтую кветку нацыянальнай тапанімікі чым далей, тым цяжэй адшукаць у свядомасці сучаснікаў.

Нават мясцовая школа не вядзе сістэмнай краязнаўчай работы, усё часцей і часцей ігнаруе ці не самае галоўнае ў рэестры духоўных каштоўнасцяў беларускамоўнай установы – родную мову навучання і выхавання.

Урокі патрыётыкі заменены фармальнай "палітасветай" паводле ўказанняў зверху. Аднак, хоць і вісіць ідэалагічная дубінка, асоба настаўніка застаецца вызначальнай у штодзённай педагагічнай практыцы. Вяртанне Гавязны актыўна і не хаваючыся падтрымалі дырэктар школы Іван Нарановіч, завучы Ірына Клочка і Марына Белік, настаўнікі Вячаслаў і Ірына Саракавікі, педагагічная грамадскасць Стаўбцоўшчыны.

Варта жалю і належнага стаўлення факт, што супраць пазіцыі школы, а таксама шырокай культурнай грамадскасці раёна і рэспублікі (пазіцыі, засведчанай цэлым спектрам задакументаванага волевыяўлення), выступіла адміністрацыя мястэчка з пэўнай падтрымкі кіраўніцтва раёна. Гэта пляма на рэпутацыі мясцовай улады, найперш старшыні сельсавета *Ядвігі Дзмітрэнкі*, якая не захацела пачуць голас продкаў, не зрабіла захадаў аб'яднаць жыхароў вакол гісторыі свайго паселішча (...)

Пытанне, празрыстае па сваёй сутнасці і гатовае для адпаведнага рашэння на ўзроўні раённай улады (як найперш дастатковага, паводле закона), набыло недарэчную вастрыню і ступень зацятасці на месцы, міжлюдскага варагавання і палітыканскага прастарэкання. На сельскім сходзе, дыскутуючы з "ворагамі Вішняўца", дзядзька з суседняй вёскі, прыцягнуты сельсаветам у якасці "цяжкай артылерыі", каб адбіць атакі "іншадумцаў", пераважна мясцовых настаўнікаў, біў як у хворым запале, прыплёў да пытання ці не ўвесь агітпропаўскі зبرودны дабор, дапяў аж да расійскіх палітыкаў Нямцова і Хакамады, якіх, маўляў, "з Беларусі дэпартавалі" - і добра, а мы тут за нашага прэзідэнта і Гавязна нам непатрэбная, бо ёсць Вішнявец...

Хіба не красамоўны прыклад пакалечанай свядомасці?

(...) Што зменіцца, калі вернецца Гавязна? *Што гэта нам дасць?* Такія пытанні раз-пораз пачуеш на вуліцы, ў краме, калгаснай канторы, сельскім савеце. Паслухайце! Што дасць, калі глухі пачынае чуць або сляпы становіцца відушчым? Што каму дае малітва, пост або споведзь?



Што, у рэшце рэшт, дае чалавеку пачуццё паўнавартасці? Або здольнасць разумець, бачыць здзек і адчуваць няпраўду?..

(...) Знаёмы гаспадарнік, зацята не падзяляючы поглядаў “за вяртанне”, абгрунтаваў сваю пазіцыю так: “Не гэтым цяпер трэба жыць”. У яго тым часам трое дзетак, двое вучацца ў школе. Я падумаў, як было б дзіўна, калі б ён, бацька, прыйшоў вечарам дадому і сказаў сыну-старшакласніку: “Не тым ты, Янка, займаешся. Не тым жывеш. У калгасе, вунь, запчастак няма, гаручае скончылася, на ферме праблем дачорта, а ты тут сядзіш, геаграфію вывучаеш”...

Такое, між іншым, не ў навіну. Гаспадарчыя праблемы – на першы план. Знаёмы лозунг. Культура людзей, асвечанасць і самастойнасць, гісторыка-нацыянальныя вартасці, рэлігійная духоўнасць былі ў вачах уладных стаўленікаў не больш як дзіцячай забаўкай, трэцяразраднай і чужой справай. Таму і перасыхалі крынічкі духоўнасці, традыцыйнай маралі. Збяднялася наша культура, перараджалася ў духу партыйна-савецкіх лозунгаў. (...)



## *Што зменіцца, калі вернецца Гавязна? Што гэта нам дасць? Такія пытанні раз-пораз пачуеш на вуліцы, ў краме, калгаснай канторы, сельскім савеце*

Назва Гавязна – перш-наперш дакумент. Які хочаш: дакумент часу, мясцовасці, родавых кустоў, дакумент навакольнага краявіду. Замена гэтага дакумента не ёсць бытавым эпізодам. Калі рэчы называць паводле іх сутнасці, гэта ўчынены акт вандалізму, геаграфічная “зачыстка”, праява этнацыду, выклік устойліваму грамадству.

Зрэшты, замена старых, спаконвечных назваў паселішчам і мясцінам, наогул, з’ява заўважаная ў свеце. Аднак заўважана і не менш істотнае: памылкі з часам выпраўляюцца, зменены назвы вяртаюцца на свае годныя месцы.

**ІСЦІ АД ГОДНАСЦІ, АБО ГАРТАЮЧЫ ТОМІК ВЫСЛОЎЯЎ**

**Валер Дранчук.**

Газета "Прамень". Стоўпцы, 2004

(...) Паўстала яшчэ адна версія, чаму Гавязна Гавязною завецца. Тое, што такая версія з'явілася, сведчыць, па-першае, пра загадкавасць і адвечную арыгінальнасць старажытнай назвы. Па-другое, абачліва перасцерагае: нельга пагарджаць тым, што табе мала вядома, нельга зрушваць, чаго не вывучыў, не зразумеў як след.

Паходжанне назвы Гавязна вельмі слушна і сімвалічна звязвалі з царкоўна-хрысціянскім словам "*гавець*" або з аднакарэннымі словамі раслінна-батанічнага слоўніка ды назвай рэчкі Гавязьнянкі (*гавяза, гавезнік*). Аднак усе версіі, на мой погляд, выглядалі крыху абстрактна, не хапала больш цвёрдага грунту.

І вось, гартаючы томік беларускіх выслоўяў, сустракаю сакавітае, казанае-пераказанае, але прызабыта нязбытнае, нязводна народнае: *"Быў гевезен, ды ўвесь выйшаў".* Агаломшаны нечаканасцю, я ўзнімаюся з крэсла. Слова *гевезен* ударыла бліскавіцай. Значыць,

*Фота 2012: Крыж-абярэг наля вёскі Ахрэмавічы (стаўпецка-нясвіжскае памежжа, скрыжаванне пры дарозе Стоўпцы-Нясвіж).*





было ды прапала. *Гевезен* – з яўрэйскай мовы – тое ж, што *быў*, ад нямецкага слова *gewesen* – *было, былы.*

Моцна ўражаны кніжнай знаходкай, перамовіўся з сябрамі, знаёмымі мовазнаўцамі. Этымалагічная сувязь бачылася наскрозь, насычала ўяўленне тагачаснымі, далёкімі ад нас варункамі – гаспадарчымі, геаграфічнымі... Трэба ўлічыць, што мястэчка налічвае не адно стагоддзе, а ўсе пяць. Вядома ж, адбылася пэўная трансфармацыя, асіміляцыя слова ў назве, аднак, і лінгвістычная, і гістарычная блізкасць не выклікаюць сумненняў, хоць і яны не лішнія, бо маем справу з глыбокім гістарычным мінулым свайго краю.

"Былым" месцам магло быць і ўрочышча пад Нясвіжам, дзе бярэ пачатак рэчка Гавязьнянка (тут яшчэ трэба задумацца: а хто даў каму назву, - мястэчка рэчцы ці рэчка мястэчку?), і колішні маёнтак Гавязна на яе левым беразе, і шмат чаго яшчэ нязведанага, таямнічага, схаванага ў смузе часу.

Як бачым, адна назва, а цягне на цэлае даследванне, можа, нават на цэлы прыгодніцкі раман!

Я ўжо аднойчы казаў, але паўтаруся: трэба ісці ад годнасці, а не наадварот. Наша зямля прыгожая і глыбокая – кожны каменьчык на ёй шанаваць трэба. Не тое што назву, якой сотні ці тысяча год.



## *Навука называцца: як звалі жыхароў Гавязны – мястэчка і суседняй вёскі: гавязляне ці гавязенцы?*

ЁСЦЬ адмысловая навука: як зваць-называць жыхароў той або іншай вёскі, горада, месца, - *анамастыка.* Сама назва не заўсёды дае гатовыя варыянты, іх стварае народ: каб зручна прамаўляліся ды як найлепш гучалі. Называлася супольнасць, калі казалі на ўсіх разам, цэлай вёскай. Вядома ж, былі індывідуальныя назвы, асобна жаночая і мужчынская. Памяншальна-ласкавыя - пра дзяцей. Гэткія назвы, апроч асабістага імя ды прозвішча роду, рабілі чалавека прыналежным да пэўнай супольнасці-групы, традыцый, прыродных умоў, былі часткай яго пэўнага вобраза, як цяпер кажуць, іміджу.

Маецца і навуковы тэрмін гэткіх слоў-называнняў – *катайконімы.* У маім блізкім наваколлі жылі *заранчане* (вёска Зарэчча), *крамчане* (Крамец), *вязаўляне* (Вязавец), *халаімаўцы* (Халаімаўшчына), *любкаўцы* (Любкаўшчына), *перакопаўцы* (Перакопаўшчына) ды інш.

Як жа звалі жыхароў Гавязны – мястэчка і суседняй вёскі? Усіх разам – пераважна *гавязляне*. У друку праскоквае назва *гавязняне*, але ад людзей я такога ніколі не чуў, казалі зрэдку *гавязнянцы*. Што цікава, жаночая назва выключае літару "л": толькі *гавязнянка.* Успомнім і рэчку, якую скрозь завуць Гавязнянкай і якую гэтак жа пазначалі на старых мапах. Але была яшчэ адна назва – *гавязенцы.* У вёсках, куды нявесты ішлі замуж, нярэдка казалі пра жанчыну *Гавязенка* (*Гавязенчына* хата, *Гавязенчын* сад-агарод ды інш).

*Фота 2018: Вёска Гавязна (сёння в. Навапольцы). Усходні бок.*



**«ЗА ГАВЯЗНУ: АДНУ І ДРУГУЮ»**

**Ядвіга Ліпай, настаўніца мясцовай школы.**
**Інфармацыйны выпуск "За Гавязну", 2003**

З цікавасцю сачу за палемікай вакол назвы Гавязна. Радуе, што наша духоўна-культурная спадчына знайшла сваіх шчырых заступнікаў. Але ў мяне заўвага: чаму гаворка ідзе толькі пра Вішнявец?

Гістарычная праўда як на баку былога *мястэчка* Гавязна (сёння Вішнявец), так і на баку *вёскі* Гавязна (сёння Навапольцы). Спакон веку склалася так, што мястэчка і вёска існавалі з адным імем, розніца была ў тым, што адна Гавязна была мястэчкам, а другая -- вёскай. І ніякай блытаніны не было. Я палавіну жыцця пражыла менавіта ў вёсцы Гавязна і лічу сябе паранейшаму *гавязнянкай і гавязенкай* (і так, і так называлі жанчын з нашай вёскі).

Адным словам, я за Гавязну - адну і другую.



## Радаводны прыярытэт

**«Круглы стол» у Вішняўцы – Зварот старэйшых – М. Пархімовіч: развaжаць разважаў, а зрабіць пабаяўся? – Чым мог дапамагчы гавязлянам Леанід Крупец?**

2003 ГОД быў самы напружаны і самы плённы. Менавіта зараз, цяпер Гавязна змагла падсумаваць і на поўны голас агучыць свае патрабаванні. Цесны кантакт быў наладжаны з урадавай Тапанімічнай камісіяй, акадэміяй навук, знанымі землякамі. Хваля салідарнай падтрымкі давала надзею, натхняла, пашырала і разгортвала перспектывы. Звароты старэйшых жыхароў мястэчка былі накіраваны ў выканкамы раёна і Мінскай вобласці.

З раённай газетай "Прамень" пачалі падрыхтоўку Круглага стала па пытаннях Гавязны. Прыхільна, з сімпатыяй і разуменнем да ідэі паставіліся рэдактар газеты Іван Багатка і адказны сакратар Хведар Бандаровіч. На лепшы вынік, з творчым імпэтам працавала над тэмай журналістка **Святлана Жыбуль.**

Другі год я рэгулярна наведваў Вішнявецкую школу, вёў краязнаўчыя і экалагічныя заняткі, выпускаў з дзецьмі газету "Сьвятаяньнік", ладзіў таксама інфармацыйныя выпускі кампаніі "За Гавязну".

**НЕЛЬГА АДДАВАЦЬ ПЕРАВАГУ ПРЫЕЗДЖЫМ ЛЮДЗЯМ!**

**Выязны Круглы стол газеты "Прамень".**

Канец траўня. Сонечны цёплы дзень. Да будынка дома культуры хто раней, хто пазней, але з запасам часу, не спазняючыся, падыходзяць вяскоўцы, знаёмыя і незнаёмыя мне, пераважна немаладыя, падымаюцца на другі паверх, рассаджваюцца. Памятаючы пра ўзрост, каго сустракаем, праводзім у залу. Вельмі рады тым, каго ведаю даўно, - гэта пакаленне маіх бацькоў, сярод іх

шмат настаўнікаў, у якіх вучыўся ажно трыццаць сем гадоў таму назад. Шкадую, што ўжо не завітае на сённяшні сход Іван Міхайлавіч Аніфер, ці не першы, хто паклікаў ратаваць Гавязну.

Прыехалі на сход і карэспандэнты з рэспубліканскіх газет – *“Звязды”* і *“Краязнаўчай газеты”,* з *“Мінскай праўды”.* Былі і госці з раёна – загадчык аддзела культуры райвыканкама светлай памяці *Анатоль Грэкаў*, загадчыца аддзела інфармацыі *Марыя Станкевіч*, публіцыст, краязнавец, даследчык гісторыі Стаўпецкага краю *Сяргей Галоўка.* На запрашэнне арганізатараў Круглага стала прыйшла старшыня сельсавета *Ядвіга Дзмітрэнка.*

Да ўвагі прысутных я давёў думку прафесара Лемцюговай, што назва Гавязна, якая ў 1964 была названая “немілагучнай” і стала ахвярай тапанімічных рэпрэсій, абавязкова вернецца і паўстане як гісторыка-культурны помнік і непаўторны рэлікт. Менавіта такія высновы, якія чуем ад аўтарытэтнай даследчыцы, сёння ставяць мяжу перад абразлівымі меркаваннямі.

Я нагадаў, што барацьба за вяртанне Гавязны распачата ў 1991 годзе і доўжыцца па сёння. Ёсць вялікая падтрымка гістарычнай назвы як з боку навуковай, так і культурнай, педагагічнай грамадскасці. Іншая справа, што сабраны матэрыял, шырокая публічная падтрымка ініцыяванага вяртання пакуль не пачутыя ў раёне і сельскім савеце, каб даць ход прапановам, не тармазіць годную справу. На жаль, мясцовая бюракратыя, найперш у асобе такой вядомай усім нам інстанцыі – сельскага савета, якая называе сябе народнай уладай, замест таго, каб аб’яднаць людзей вакол гісторыі вёскі, стварыць умовы для разумнага волевыяўлення і годнай перспектывы, выступае супраць і ўсяляк прапагандуе Вішнявец.

Але гэта ўсё вельмі марна, сведчу перад сходам, людзі пры ўладзе толькі дыскрэдытуюць сябе, бо альтэрнатывы вяртанню Гавязны няма. Хто не зразумеў гэта, тых па-чалавечы вельмі шкада. Яны і самі яшчэ пашкадуюць, раскаюцца ў сваіх паводзінах. Не пашкадуюць тыя, хто сёння стаіць за назву бацькаўшчыны, хто выхаваў павагу і любоў да яе ў сваіх нашчадкаў, -- яны таксама не пашкадуюць і будуць ганарыцца сваімі бацькамі або дзядамі. Памятайма: застаецца не толькі напісанае, але і падпісанае – тое, дзе ты паставіў свой





***“Мясцовая бюракратыя, найперш у асобе сельскага савета, замест таго, каб аб’яднаць людзей вакол гісторыі вёскі, стварыць умовы для разумнага волевыяўлення і годнай перспектывы, выступае супраць і ўсяляк прапагандуе Вішнявец. Хачу пакланіцца ўсім тым, хто бараніў свой знак, свой радавод, сваю Беларусь”***

подпіс, пад чым падпісаўся. Такіх сярод местачкоўцаў дзясяткі. Я хачу пакланіцца ўсім тым, хто бараніў свой знак, свой радавод, сваю Беларусь, хто ставіў подпіс, хто не хаваўся. Вось, бачу тут Яўгенію Мікалаеўну Платун. Памятаю словы, якія аднойчы ад яе пачуў: “Назва Гавязна – сама па сабе каштоўная. Але справа не толькі ў самой геаграфічнай назве. Гэта ж наша бацькаўшчына, наша Беларусь”. Сказана было, калі ініцыятыва “За Гавязну” толькі-толькі пачынала разгортвацца...

Яўгенія Платун, пенсіянерка, школьны педагог:

**«Маглі абысціся без апытання. Не, пайшлі па дамах. Заходзілі і адразу агітаваць: пішыце за Вішнявец!»**

- Якія ж мы ўсё-такі беларусы, што ўсё нам брыдка: брыдка гаварыць сваёй моваю, брыдка карыстацца назвай сваёй вёскі Гавязна. Дзе ж у нас, у беларусаў, якая годнасць? У пачатку 90-х мы пісалі ў абласную тапанімічную камісію, якую ўзначальваў Стрыжэвіч. Ён прыехаў на сесію сельскага савета, паслухаў, затым выступіў сам. Не агітаваў, а выказаў думку абласной камісіі. Прасіў дэпутатаў не спяшацца, добра падумаць – мо, і праўда, варта вярнуць Гавязну. Маглі абысціся без апытання. Не, пайшлі па дамах. Заходзілі і адразу агітаваць: пішыце за Вішнявец, Касабуцкі не хоча варочаць Гавязну (Касабуцкі, старшыня гаспадаркі – *Аўт.*). Вось і набралася болей. Дык дзіва што! Старыя ж людзі, местачкоўцы, паўміралі, засталося самых старэйшых пару дзясяткаў. А колькі новых, прыезджых!.. Вось і выйшла, што быццам людзі супраць. Хіба ж гэта

праўда... Я адыходжу з дому на гэтае пасяджэнне, а мой мужык гаворыць: "Слухай, Жэня, ну я ж нарадзіўся ў Гавязне, пражыў 30 гадоў – апынуўся ў Вішняўцы. Дык хто ж мяне туды перакінуў, чаму так зрабілася?" Сама я родам з Мікалаеўшчыны. Але ўжо паўвека тут, у Гавязне. І назва мястэчка прыгожая, усе кругом ведаюць. Як можна было даць ёй ганьбу, змяніць? Лічу гэта непаразуменнем, вялікай памылкай. Таму падтрымліваю патрабаванні вярнуць Гавязну, не даць сцерці яе з памяці пакаленняў.

Алена Сяржант: пенсіянерка, былая загадчыца мясцовай крамы:

**"Калі нашы дзеці пішуць у газеце "Сьвятаяньнік" пра Гавязну, не перадаць, як радасна на душы!"**

- Улады закрэслілі нашу Гавязну, пахавалі назву, але людзі яе не пахавалі. Я часта бываю ў Вязаўцы. Прыйду, пытаюцца: што там у вашым мястэчку? На днях была ў магазіне ў Зарэччы. Чую, гавораць: гэта ж вашы местачковыя людзі бульбу ў нас садзяць… Мястэчак, гавязляне - заўсёды так. Я не чула, каб вёску Навапольцы называлі Навапольцамі – «гавязляне прыйшлі». Жыхароў усіх навакольных вёсак называюць вязаўляне, ахрэмаўцы, зарачане. А Вішнявец не прыжыўся. Назва ўзялася як з паветра. І нашто, дайце рады? Калі нашы дзеці пішуць у газеце "Сьвятаяньнік" пра Гавязну, не перадаць, як радасна на душы. Але заўсёды баліць: чаму забралі ў нас гэту назву?

Іван Баранаў, пенсіянер, школьны настаўнік:

**"Адкуль гэтая назва ўзялася – Вішнявец... Вішні ж па ўсёй Беларусі растуць. Якая тут гісторыя?"**

- Мы не ведаем, адкуль гэтая назва ўзялася – Вішнявец. Гавязна ж і не брыдкая, і з вялікай гісторыяй. Быў я на тым сходзе, як прыязджаў з раёна старшыня Плахатнюк. Сабралі інтэлігенцыю, там ніводнага старога жыхара не было. Хто са школы прыйшоў, хто з пошты, хто з сельсавета. Сказалі пра новую назву Вішнявец… Вішні ж па ўсёй Беларусі растуць. Якая тут гісторыя? Таму прасіў бы вярнуць Гавязну. Праўду гавораць, што гісторыю і прыроду не мяняюць. А як пачалі вучоныя, і невучоныя, і звышвучоныя мяняць прыроду, дык і на свеце жыць стала нядобра. Тое самае і з назвамі. І з Гавязною.



Вольга Баранава: пенсіянерка, школьная настаўніца:

**“Было б вялікім шчасцем, каб вярнулі мястэчка Гавязна. І ўнукі з часам палюбяць гэтую назву, яна ж гістарычная, яны зразумеюць гэта, пасталеюць і даражыць ёю будуць”**

- Камусьці захацелася змяніць назву – так і зрабілі. Было ж, начальству не запярэчыш: што сказалі, тое і рабі, падчыняйся. Я ведаю гэта па сабе. Бо так табе нагадзяць, што не будзеш ведаць, як жыць. Ды і час такі – старое ламалі, новае стваралі. Вось надумалі, і Гавязну нашу зламалі. Ці ведалі, што рабілі? На той час адно тры мястэчкі былі: Гавязна, Гарадзея і Новы Свержань. Астатнія называліся вёскі. Мы ганарыліся, што жылі ў мястэчку. Гэта нешта такое аўтарытэтнае было. Як прачытала ў “Прамені” надрукаванае слова Гавязна, дык так радасна на душы стала. Было б вялікім шчасцем, каб нам вярнулі мястэчка Гавязна. І ўнукі з часам палюбяць гэтую назву, яна ж гістарычная, яны зразумеюць гэта, пасталеюць і даражыць ёю будуць.

Міхаіл Кійка: пенсіянер:

**“Як забралі, так і вярніце. І ўся прамудрасць”**

- Назву нашу забралі не папытаўшы. Ніякага сходу не рабілі, людзей пабаяліся. Сабралі пяць чалавек, каб гладка было на “бумагах”. Хто там мог чым запярэчыць? А вярнуць цяпер цяжка – рэферэндумы, апытанкі. Як забралі, так і вярніце. І ўся прамудрасць. Вельмі шкада нашу Гавязну… (спадар Міхаіл дастаў з кішэні хустачку, каб выцерці слёзы…).

Ільля Ясенка: пенсіянер, 90 гадоў:

**“Пытаюць: “Адкуль вы?” “З Навапольцаў” “А дзе тыя Навапольцы?..” Думаюць, мо, з другога раёну. Гавязну дык усе ведалі!”**

- Дзед мой тут жыў і бацька жыў. Потым забралі нашу назву, далі Навапольцы. Пытаюцца: “Адкуль вы?” “З Навапольцаў” “А дзе тыя Навапольцы?..” Думаюць, мо, з другога раёну. Гавязну дык усе ведалі. І мястэчка, і вёску. Бывала, пры Польшчы пытаюць: “Цо пан едзе?” “У Гавэзну”. “О-о-о! Дзе рэчка Гавэзнянка?..” Любілі во так слоўкам перакінуцца, каб кожны сваё месца помніў. А цяпер… Бог яго знае, што тут нарабілася. Каму ў галаву стукнула назвы старыя мяняць. Ніхто ў нас не пытаў.

Ніна Яцэвіч, старшыня прафсаюзнага камітэта калгаса:

**"Па мне – хай будзе Вішнявец..."**

- Я прыйшла па даручэнні старшыні нашага калгаса (Бычко У.У. – *Аўт.*). Я маладая, не памятаю вёску Гавязна. Маё жыццё звязана з Вішняўцом, па мне – няхай Вішнявец і застаецца.

(Тут я мушу зрабіць невялікі каментар. Спадарыня Ніна родам з суседніх Ахрэмавіч. З дому Сасноўскіх. Акурат дачка таго самага Віктара Сасноўскага, які ў 1992 годзе горача адгукнуўся на мой Адкрыты ліст і падчас службы ў царкве арганізаваў збор подпісаў за Гавязну (гл. старонку 19).

Міхаіл Камёнка, настаўнік мясцовай школы:

**"Варыянтаў было некалькі – Іванаўка, Вішнёўка, Малінаўка, галасавалі за Вішнявец"**

- Я таксама быў на тым сходзе, калі мянялі назву. Варыянтаў было некалькі – Іванаўка, Вішнёўка, Малінаўка, можна было ўзяць рознае. Галасавалі за Вішнявец. Усе былі вельмі задаволены – Вішнявец, Навапольцы. Рэчка ж Гавязнянка засталася. Сёння тут прысутнічаюць пераважна, хто за Гавязну. А чаму няма тых, хто за Вішнявец? Нейкае зборышчааднабокае.

Іван Нарановіч, дырэктар мясцовай школы:

**"Ёсць версія, што назва Гавязна ад слова "гавець". З гэткай назвай гавязляне – асаблівыя людзі"**

- Чытаў я пратакол таго сходу. Напісаны абы-як, неахайна, разабрацца там цяжка. Такі быў час. Але ж цяпер іншы час – выказвай сваю думку, прымай рашэнне. Я гляджу вось на пажылых людзей, якія прыйшлі сюды. Ім па 70, 80, а каторым і больш. Маглі не прыйсці, але яны зараз тут. Прыйшлі, каб выказаць сваю волю і сваё права – вярнуць назву той зямлі, дзе ляжаць іх дзяды; тут тры вялікія могілкі і на ўсіх ляжаць гавязляне – не адно і не два пакаленні. Сам я з вёскі Халаімаўшчына. Таксама ж можна выслухаць назву на "мілагучнасць". Але яна мне блізкая да сэрца, я ганаруся, што я халаімавец. Гавязна, як сцвярджаюць навукоўцы, адзіная на тапанімічнай карце Беларусі. А Вішняўцоў колькі хочаш. Нават рынак у Гродне. Ёсць версія, што назва Гавязна пайшла ад слова "гавець". Гэта святы стан душы. З гэткай назвай гавязляне – асаблівыя людзі. Калі паўсюль



разбуралі цэрквы і бульдозеры прыехалі пад капліцу Святога Яна, нашы бабкі клаліся пад колы, як маглі баранілі і не далі разбурыць святыню. Сёння час выбірае нас, таксама як абаронцаў. Мы павінны выправіць памылку. Будзе прыкра, калі пакінем гэты абавязак нашым нашчадкам – дарабляць тое, чаго мы не дарабілі самі. Тут прагучала, што гэта зборышча. Мой калега памыляецца. Хто ж забараняў прыйсці тым, хто за Вішнявец? Таму што паважаныя пенсіянеры, старажылы тут па волі сэрца, ім баліць гэта. Дзякуй Вам, дарагія, за вашы словы, за тое, што бароніце родны дом!

Анатоль Грэкаў, загадчык аддзела культуры райвыканкама:

**"У архіўных дакументах назвы Новы Сверждань, Гавязна сустракаюцца часцей, чым Стоўпцы!.. Даў табе Гасподзь імя, – насі яго, даражы ім"**

– Сёння мы завіталі да вас з цудоўным праектам, які павінен усіх нас аб'яднаць вакол назвы даўняга паселішча Гавязна. Мне пашчасціла бываць у розных рэгіёнах Беларусі і за яе межамі. Бачыў, назіраў, як у кожнай вёсачцы памятаюць, шануюць свае карані. Гавязна – гэта вялікая гісторыя і частка гісторыі стаўпецкага краю. Мы стараемся захоўваць яе ў назвах мастацкіх калектываў, у іншых мастацкіх фарміраваннях. Агітбрыгада "Гавязнянка" адной з першых атрымала званне народнага калектыву. У свой час я быў членам Беларускага фонду культуры. Добра памятаю, як там, на рэспубліканскім узроўні падымалася пытанне аб вяртанні Вішняўцу старой назвы. Спецыялісты сведчылі: у архіўных дакументах назвы Новы Сверждань, Гавязна праходзяць часцей, чым Стоўпцы! Вось так: ведай нашых! І адмаўляцца ад такога скарбу недаравальна. Прыйдзе час, зразумеюць гэта не толькі сталыя людзі, але і моладзь: калі даў табе Гасподзь імя, - насі яго. Даражы ім. І царква захавалася, якую да 1964 года ведалі паўсюль як Гавязнянскую. Вось і Янка Брыль, наш слынны пісьменнік, далучае сваё недаўменне: "Я не разумею, чаму Гавязну назвалі Вішняўцом". Добра, што Валер Дранчук абудзіў нас да гэтай памяці. Мы самі шмат вінаватыя ў тым, што нашы дзеці не гатовы да ўспрыняцця гістарычнай спадчыны. Мала ў якой сям'і дзеці ведаюць свой радавод. А з гэтага ўсё пачынаецца.

Генрых Далідовіч, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі:

**"Землякі дарагія, падумайце ўзважана, не спрачайцеся, не перабівайце адзін аднаго, прыміце правільнае рашэнне"**

- Я не хачу вас агітаваць. Вам трэба падумаць над гэтым пытаннем стала, без амбіцый. Што тут казаць. З назвамі сапраўды абыходзяцца неахайна. Паглядзіце, на маёй радзіме Налібокі, а ў газетах пішуць Налібакі. Янковічы - пішуць Янкавічы. Дзераўное – пішуць Дзераўная. Я гляджу на Вас, дзядзька мілы, як Вы хораша выглядаеце ў 90 гадоў і як мудра думаеце. Землякі дарагія, падумайце ўзважана, не спрачайцеся, не перабівайце адзін аднаго, прыміце правільнае рашэнне.

Ірына Саракавік, настаўніца беларускай мовы і літаратуры:

**"Хто прыехаў сюды, будзь ласкавы, шануй людзей і гісторыю"**

- Ніхто не мае права мяняць гісторыю на свой лад і густ. Наша бяда, што моладзь сёння далёкая ад гістарычных каранёў. Іх яшчэ не зачапіла, яны яшчэ не падышлі да адчування балючай страты. Але ж калі я задаю вучням напісаць сачыненне пра гісторыю вёскі, яны не пішуць пра Вішнявец, вяртаюцца ў XV стагоддзе, калі мястэчка ўпершыню ўпамінаецца ў архіўных дакументах. Я сёння бачу, як балюча карэнным жыхарам, местачкоўцам. Мы "чужыя", прыехалі на гэтую зямлю і пачынаем вырашаць, добрая ці кепская назва Гавязна, вяртаць або не вяртаць. Думаю, мы не маем маральнага права выступаць супраць гістарычнага знака мясцовасці. Хто прыехаў сюды, будзь ласкавы, шануй людзей і гісторыю. Лічу, што назву Гавязна трэба вярнуць.

Вячаслаў Саракавік, настаўнік замежнай мовы:

**"Варта ўсвядоміць адно: гісторыя месца пачынаецца не ў 1964 годзе, а ў далёкім XV стагоддзі і раней"**

- Спачатку трэба падрыхтаваць дзяцей, навучыць іх розуму, а не задаваць ім правакацыйныя пытанні. Трэба навучыць іх – адкуль родам, хто яны на гэтай зямлі і што павінны рабіць. Часам тое, да чаго мы дакранаемся, патрабуе нашых адказных адносін, далікатнасці ў абыходжанні. Каб потым тым людзям, што прыйдуць за



намі, было не агідна, не сорамна сесці у тое самае крэсла пасля нас. Я пераглядаў гістарычныя карты XV, XVI, XVII стагоддзяў і не бачыў, на жаль, назвы мястэчка, адкуль родам сам, затое вельмі прыемна было бачыць назву Гавязна. Да якога б гістарычнага перыяду ні адносіліся карты, усюды на іх была пазначана Гавязна. Нам усім – і хто за Гавязну, і хто за Вішнявец, і хто яшчэ не вызначыўся – варта ўсвядоміць адно: гісторыя месца пачынаецца не ў 1964 годзе, а ў далёкім XV стагоддзі і раней. Гэта і ёсць самыя дакладныя каардынаты нашага выбару.

Марына Белік, намеснік дырэктара школы:

**"Трэба ганарыцца людзьмі, якім дарагая свая спадчына і хто рупіцца яе захаваць. Я б ганарылася гавязлянамі, калі б назва была адноўлена"**

- На шчасце, маю Нясвіжчыну мінуў сумны лёс перайменаванняў. Хоць небяспека не абышла і сам Нясвіж ("нясвежы мядзведзь", як памятаеце). А нядаўна мы пабывалі ў Вуздзенскім раёне, дзе вёска Магільна. Там вельмі ганарацца, што вярнулі былую скасаваную назву. Так, мы арыентуемся на галасы маладзейшых, але ў такіх пытаннях, як сёння, часцей рызыкуем. Маральны выбар – аддаць даніну гістарычнай справядлівасці – патрабуе свядомасці, кругагляду, дасведчанасці. Не варта забывацца на той код, які маем у спадчыну ад бацькоў, дзядоў-прадзедаў; такі ж код ёсць і ў кожнага гістарычнага месца, вёскі або мястэчка. Ад нашай бязглуздзіцы і бяспамяцтва можам пацярпець не толькі самі, але і нашчадкі. Успомнім трагедыю на Нямізе, дзе было ўстроена п'янае гульбішча. Паралеляў такіх нямала. Я згадваю іх таму, што за ўчыненую памылку, за безадказнасць даводзіцца калі-небудзь плаціць.І яшчэ. Калі гаворым пра ініцыятыву вяртання, недаравальна расцэньваць гэта як антыдзейнасць. Трэба ганарыцца людзьмі, якім дарагая свая спадчына і хто рупіцца яе захаваць. Я б ганарылася гавязлянамі, калі б назва была адноўлена. Разумею і тых, хто супраць, хто нарадзіўся ў Вішняўцы. Але ж ці будзе лепш спісаць з вагаў гісторыі стагоддзі, калі жыла Гавязна? Лёс бязродных, як і бяздомных, куды цяжэйшы, чым мы думаем.

Сяргей Галоўка, журналіст, краязнавец:

**“Нельга аддаваць прыярытэт прыезджым людзям”**

– Прыемна ўсцешаны тым, што сёння пачуў. Гэта глыбокія развагі пра лёс і гісторыю Гавязны. І пра нашу адказнасць. Як адзін з сумных прыкладаў, як тут прагучала ўжо, – у вёсцы дагэтуль няма вуліцы, якая б насіла імя знакамітага земляка Рафаіла Сяржанта. Няма і мемарыяльнага знака, які б захаваў памяць аб ім для нашчадкаў. Не трэба ўскладняць справу: маўляў, шмат работы з перайменаваннем. Яўнае перабольшанне! Навошта перарабляць пашпарты, грошы на вецер пускаць?.. Наогул, як бы каму падабалася ці не падабалася вярнуць Гавязну, – а зрабіць гэта трэба. Нельга аддаваць прыярытэты прыезджым людзям. Яны зрадніліся з гэтай зямлёй, прыжыліся – усё зразумела. Аднак перавагу ўсё ж трэба аддаць карэнным жыхарам. Чым яны горшыя: тут нарадзіліся, тут жылі іх дзяды-прадзеды, тут старыя іхнія могілкі. Лічу, мясцовыя людзі маюць большае права на вяртанне назвы, чым прыезджыя, якія патрабуюць пакінуць Вішнявец. Ініцыятыва вартая ўвагі. Добра, што ўспомнілі гісторыю!

*Інфармацыйны выпуск “За Гавязну”, №2, 2005.*


№2 грамадская ініцыятыва
За Гавязну
спецвыпуск газеты «Сьвятаяньнік»
Жыццё кароткае - радзіма вечная

**Без права на гісторыю?**

**Сёння маладое пакаленне мястэчка можа не адшукаць свайго месца на мапе сярод іншых, суседніх паселішчаў -- Новай Вёскі, Гарадзеі, Нясвіжа...** Працяг тэмы: ст.3

Слова для інфармацыйных паведамленняў бралі *Я. Дзмітрэнка* (сельскі савет) і *М. Станкевіч* (аддзел інфармацыі райвыканкама). Першая давяла, што не бачыць мэтазгоднасці аднаўлення Гавязны, што Вішнявец заста-





**«Вяртанню Гавязны альтэрнатывы няма. Хто не зразумеў гэта, тых пачалавечы шкада. Прыйдзе час, магчыма, пашкадуюць і яны»**

нецца як назва, за якую прагаласавала большасць жыхароў. Неўзабаве яна пакінула пасяджэнне Круглага стала, як падалося, гэта быў нервовы зрыў. Марыя Станкевіч суха паінфармавала прысутных, што Круглы слол не вырашае пытання Гавязны. Паводле закона, толькі сельскі савет можа накіроўваць свае прапановы ў раённы савет дэпутатаў, якому нададзены правамоцтвы для прыняцця рашэння. Марыя Іванаўна паспрабавала заступіцца за большасць, якая выступае супраць Гавязны: "Няхай сабе прыезджыя. Але гэта людзі, якія ствараюць наш дабрабыт, матэрыяльныя каштоўнасці. Іх меркаванне павінна ўлічвацца, як бы каму не хацелася".

У маіх нататніках засталіся шматлікія запісы нашых сустрэч з "галоўным інфарматарам" раёна. "Людзі плачуць па страчанай назве. Каму не зразумець іх пачуцці?" – даводзіў я. Марыя Іванаўна парыравала: "А іншыя, хто прыехаў сюды, - што, не людзі?" Я таксама не саступаў: "Гэта, прабачце, дэмагагічнае пытанне. Бо, па-першае, калі яны людзі, то павінны шанаваць месца, дзе яны прыжыліся-прыпыніліся, а па-другое, ніхто не забірае ў іх права людзьмі называцца – гаворка ідзе пра назоў мястэчка, які забралі ў карэнных жыхароў. Гэта іх абразілі і абабралі. І менавіта яны, местачкоўцы адстойваюць сваю годнасць". Аднак адна прапанова спадарыні Станкевіч мне падалася слушнай: усталяваць на пад'ездах да Вішняўца – паўднёвага (нясвіжскага) і паўночнага (стаўпецкага) – мемарыяльны знак "за Гавязну". Праўда, ініцыятыву знака я мусіў бы ўзяць на сябе, ведаючы наперад, хто першым дабяжыць пераняць мне дарогу. Ведала гэта і Марыя Іванаўна.

ПАСЛЯ КРУГЛАГА СТАЛА Савет старэйшын мястэчка на адрас райвыканкама адправіў сваё Асаблівае меркаванне, якое падпісалі дзесяць чалавек: *Адаміцкі У.А., Аніфер Н.І., Баранаў І.М., Бурновіч В.І., Казлоўская Л.В.,*

*Кійка М.М., Платун Я.М., Рачок І.А., Сяржант А.К., Сяржант К.А.*

**«РЭФЕРЭНДУМ НЕ АДПАВЯДАЕ СПРАВЯДЛІВАСЦІ І ДУХУ ЗАКОНА»**

**Асаблівае меркаванне Савета старэйшын.**

9 чэрвеня 2003

Гэтым складам нашага Савета выказваем меркаванне, што "вывучэнне грамадскай думкі" наконт назвы нашага мястэчка і далейшае прыняцце рашэння па гэтым пытанні павінна абапірацца на законнае права карэнных жыхароў вярнуць сваёй бацькаўшчыне тую назву, якая існавала да 1964 года. Лічым, што рэферэндум не прадугледжаны законам і не паможа выпраўленню памылкі. Найперш павінны быць улічаны *агульнадзяржаўныя інтарэсы, гістарычныя, геаграфічныя, нацыянальныя і іншыя ўмовы,* як гэтага і патрабуе Закон аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні (1998 г., артыкул 15), а таксама думка шырокай культурнай і навуковай грамадскасці рэспублікі і раёна (...).

Але найперш на імя старшыні райвыканкама М.В.Пархімовіча былі перададзены дакументы, якія можна было назваць банкам довадаў і базай аргументаў для прыняцця рашэння.

**ДА ПЫТАННЯ ВЯРТАННЯ НАЗВЫ ГАВЯЗНА**

Шаноўны Мікалай Віктаравіч!

Для прыняцця рашэння ў адпаведнасці з законам і агульнапрынятай працэдурай перадаём на разгляд выканкама наступныя дакументы:

1. Зварот старэйшых жыхароў вёскі Вішнявец (28 подпісаў);
2. Склад Савета старэйшын вёскі Вішнявец па пытаннях вяртання назвы Гавязна і Асаблівае меркаванне Савета, якое належыць разглядаць як Заяву;
3. Ліст-зварот да педагагічнай грамадскасці Стаўбцоўскага раёна і 43 подпісы ў падтрымку;
4. Ліст-зварот да культурнай грамадскасці Стаўбцоўскага раёна і рашэнне-выпіска Савета аддзела культуры;
5. Рашэнне сходу педагагічнага калектыву Вішнявецкай школы;
6. Адносіна Беларускага фонда культуры;
7. Адносіна ЗБС "Бацькаўшчына";



**8.** Меркаванне старшыні Тапанімічнай камісіі пры АН Беларусі В.П.Лемцюговай;

**9.** Меркаванні аўтарытэтных людзей краіны, выказаныя на адрас Круглага стала газеты "Прамень" (Стоўбцы);

**10.** Інфармацыйная даведка аб праведзенай рабоце па вывучэнні і давядзенні грамадскай думкі да раённага выканаўчага камітэта, іншых зацікаўленых устаноў і арганізацый у сувязі з ініцыяваннем вяртання вёсцы Вішнявец (былому мястэчку) гістарычнай назвы Гавязна.

Усё сабранае я "падмацаваў" справаздачай.

**СПРАВАЗДАЧА АБ ЗРОБЛЕНЫМ (ПАПЯРЭДНЯЙ РАБОЦЕ)**

**Інфармацыйная даведка.**

Складзена 10 ліпеня 2003 і перададзена ў Стаўбцоўскі райвыканкам (райсавет дэпутатаў).

"Пытанне ініцыяванае,– гаварылася ў справаздачы, – мясцовымі жыхарамі пераважна сталага і пенсійнага ўзросту з адной мэтай і жаданнем узнавіць справядлівасць, вярнуць на сваю бацькаўшчыну страчаную ў 1964 годзе духоўную вартасць – адвечную гістарычную назву. З пункту гледжання Закона аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні (1998 г.) патрабаванні жыхароў не выклікаюць сумненняў, выглядаюць як цалкам слушныя і мэтазгодныя, калі мець на ўвазе гарантаваны гэтым жа законам клопат пра агульнадзяржаўныя інтарэсы, гістарычныя, геаграфічныя і іншыя ўмовы захавання тапанімічнай спадчыны народа.

Гэта яскрава засведчыла і надзвычай зацікаўленая падтрымка ініцыятывы з боку шырокай грамадскасці. За вяртанне страчанай назвы аднадушна выказаліся *члены Савета аддзела культуры райвыканкама, кіраўнікі адукацыйных устаноў раёна, педкалектыў мясцовай Вішнявецкай школы (усе матэрыялы прыкладаюцца). Свае адносіны да праблемы выказалі аўтарытэтныя рэспубліканскія арганізацыі, асобныя вучоныя-мовазнаўцы, гісторыкі і краязнаўцы, журналісты.* Раённая газета "Прамень" пасля анонсу ў адным з нумароў сабрала ў Вішнеўцы надзвычай прадстаўнічы Круглы стол для ўсіх зацікаўленых, прысвечаны пытанню назвы вёскі, а выказванні ўдзельнікаў шырока падала на сваіх старонках. Да гэтай публічнай акцыі далучылася і раённае радыё, жывыя

фрагменты адкрытай дыскусіі прагучалі ў эфіры. На сустрэчу былі запрошаны старшыня сельскага Савета Я.Дзмітрэнка, старшыня калгаса дэпутат райсавета У.Бычко (адсутнічаў), адказныя работнікі раённага звяна.

Падчас Круглага стала былі агучаны шматлікія артыкулы згаданага Закона, якія датычаць перайменавання паселішчаў, характэрныя прыклады з кнігі *"Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінская вобласць" (пад рэдакцыяй В.Лемцюговай),* гістарычныя факты і сведчанні.

Звяртаем асаблівую ўвагу на **аргументы нязгоднага боку.** У пераважнай большасці выпадкаў яны пачынаюцца і заканчваюцца прэтэнзіямі асабістага густу: падабаецца – не падабаецца.Тыповы прыклад: падабаецца Вішнявец, бо пра Гавязну я не чула (не чуў). Зрэдку выказваецца сувязь гістарычнай назвы з нібыта «немілагучным» словам. На што шматлікія ўдзельнікі сустрэчы слушна запярэчылі:"Трэба ісці ад годнасці назвы, а не шукаць тое, чаго няма"; "У роднай назве кожны гук мілы"; "Нельга зневажаць тое, чаго не ведаеш" і г.д. Назва Гавязна, як лічаць эксперты, глыбока старажытная і патрабуе адпаведных даследаванняў, шырокага лінгвістычнага досведу. Шукаць брыдкасці можа чалавек неглыбокіх ведаў і дрэннага выхавання.

Таму для жыхароў, пераважна тых, хто нарадзіўся пасля 1964-га і за "родную" мае назву, з якой прыйшоў у свет, рэкамендаваны адзін "антыстрэсавы" аргумент: аднаўляецца гістарычная справядлівасць, тапонім Гавязна адзіны і паўнапраўны паводле сваёй гістарычнай і культурнай сутнасці.

Хто не абыякавы да мінулага свайго краю, хто шануе памяць продкаў, хоча зберагчы для нашчадкаў культурна-гістарычную спадчыну свайго народа, той абавязкова гэта ў рэшце рэшт зразумее".



***«Тыповы прыклад нязгодных або т. зв. «большасці»: падабаецца Вішнявец, бо пра Гавязну я не чула (не чуў)»***



**«ТРЭБА ЯК МАГА АКУЛЬТУРВАЦЦА!..»**

**Вядомыя людзі – за Гавязну**

Наспела пільная неабходнасць пытацца думкі вядомых людзей. Між радкоў сабе думаю-разважаю: навошта?.. гэткая простая, здавалася б, ісціна для ўразумення, з якога хочаш боку – маральна-этычнага, гістарычнага, філалагічнага, лінгвістычнага, краязнаўчага, – што каму можа быць тут няясна, не зразумела? Аднак мусіш даводзіць гэта сваім апанентам, нібыта адэкватным людзям з нібыта нармальным развіццём, адукацыяй, інтэлектам… Ды яшчэ – пісаць у інстанцыі, дзе гэтыя нібыта адукаваныя людзі чытаюць твой усебакова аргументаваны ліст і ўжо думаюць, не дачытаўшы, як бы гэта ад яго адбіцца, а праз месяц паведамляюць, што "принято решение о нецелесообразности…" І гэтыя людзі атрымліваюць аклады з дзяржаўнай казны! – дзівоса! Каб іх не пакінуць без "дзяржаўнага клопату" пра ўладкаванне нашага жыцця, я мушу рыхтаваць яшчэ больш "усебакова аргументаваны" ліст. Але і гэты раз атрымліваю адказ з канторы, у якім – на мае звышаргументы – аргументаў наогул ніякіх: "нецелесообразно" – і ўсё.

У сваім слове "за Гавязну" мяне вельмі парадавала прафесарка з Гомеля: *"Нам трэба як мага акультурвацца".* Ваша рацыя, спадарыня Казлова! Разумовага развіцця відавочна замала, калі бракуе культуры. У непрацяглай тэлефоннай размове (гэта было адзінае тэлефоннае інтэрв'ю) мая суразмоўніца не ўдакладніла, каму найперш трэба "падцягвацца" да належнага ўзроўню. Але скажу за яе: столаначальнікам, бюракрататычнай вертыкалі, чыноўнаму люду, дзяржаўцам. Па прыклады хадзіць не трэба: хроніка вяртання Гавязны яскрава пасведчыла: куды больш культурна "падцягнутымі" выглядаюць тыя простыя людзі, якія ў сваіх патрабаваннях напісалі: *"Мы засталіся як без роду. Бо што такое назва? Гэта корань мясцовасці. Пачатак нашых пачаткаў"*. Гісторыю, якая "абагачае культурна", акурат і забралі ў іх малакультурныя бюракраты. І яны ж, праз некалькі пакаленняў, не спяшаюцца яе вярнуць. Яны ўсяляк намагаюцца пакінуць тую фэйкавую замену!

Разам з тым гэта моцны доказны грунт на далейшую працу. Арыенцір, якога сёння не бачаць, але заўтра ён, можа стацца, будзе пільна запатрабаваны.

Тое, што выказалі мае суразмоўцы (у гранічна сцісłым выглядзе), не можа не цешыць выразнасцю пераканання, шчырай сімпатыяй і таксама будзе перададзена ў інстанцыі дзяржаўнай сістэмы для прыняцця рашэння. Ці пераканае гэта чыноўнікаў? Ці дачытаюць да канца, ці ўдумаюцца? – зноў жа задаю пытанні.

К л а ў д з і я Шышыгіна-Патоцкая,
жыхарка Нясвіжа, пісьменніца, аўтарка шматлікіх краязнаўчых кніг пра Нясвіж

*— Далучаю свой голас да краязнаўчай ініцыятывы "За Гавязну". Добра ведаю гэтае мястэчка і лічу, што жыхары толькі знойдуць, калі вернуць сабе і нашчадкам самабытную назву. Гавязна – гістарычны спадарожнік Нясвіжа, мае глыбокія карані. Гэтым можна і трэба ганарыцца.*

А л я к с е й Мікуліч,
доктар медыцыны, лаурэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, Мінск

*— Як народжаны ў Баранавіцкам павеце яшчэ за польскім часам, я багавейліва захоўваю старыя назвы нашых навакольных вёсак, урочышчаў і рэчак. Толькі праз іх імёны можна ўзнавіць повязь мінулага з будучыняй. Таму Гавязна павінна вярнуцца для будучых пакаленняў.*

*Х в е д а р* Крыванос,
былы супрацоўнік выдавецкага аддзела экзархата, святар Кафедральнага Сабора, Менск

*— Калі будзе дакладна пацверджаны факт, што Гавязна – адзінкавая ў Беларусі назва, гэта бяспрэчна вяртае яе на сваё ранейшае месца. А па маіх звестках Гавязна нідзе не паўтараецца.*

В а л я н ц і н а Лемцюгова,
доктар філалагічных навук, прафесар, Менск

*— Жыхары вёскі Вішнявец і Вы асабіста цалкам правамерна ўзнімаеце пытанне аб вяртанні скасаванай назвы Гавязна. Гэта адна з тых шматлікіх беларускіх гістарычных назваў, якія напаткаў несправядлівы лёс. А тое, што вёска знаходзіцца ў Нясвіжскай турыстычнай зоне, робіць*






*Фота 12 чэрвеня 2017: Крыж Апакроўны на месцы прыбранай смеццезвалкі ва ўрочышчы Старая бальніца (да 1939 былая польская гміна, пасля вайны медустанова з бальніцай, клінічным аддзяленнем і зубным кабінетам). Унізе выразаныя словы: "Тут нараджаліся і паміралі".*

*аднаўленне гістарычнай справядлівасці справай дзяржаўнай важнасці. Рэспубліканская тапанімічная камісія пры АН Беларусі падтрымлівае хадайніцтва жыхароў вёскі Вішнявец аб вяртанні Гавязны.*

Р а і с а Казлова,
доктар філалагічных навук, прафесар, Гомель

*— З вялікай надзеяй і радасцю далучаю свой голас на карысць адвечнай назвы Гавязна. Мяркую, што нічога ў гісторыі мяняць не трэба; гэта наогул грэшная справа. У кожнай назве след часу, вопыт народа, яго памяць. Нам трэба як мага акультурваца. А гістарычнае асяроддзе абагачае культурна.*

Тут дарэчы і думка-раскаянне Івана Плахатнюка, старшыні Стаўпецкага райвыканкама, 1962 – 1976, аднаго з арганізатараў тапанімічных зачыстак - з ягонай кнігі "Даследуем шляхі свае", 1999:

*«Признаюсь, мы, наверное, излишне много на себя взяли, когда стали переименовывать "неблагозвучные" названия некоторых деревень. Точнее, по нашей низовой подаче решение принимал Президиум Верховного совета Беларуси. Так исчезли названия Брухачи, Супаросная Слобода, Говезна. Вторгаться в этот исторический пласт было непозволительной блажью».*

Свае важкія довады агучылі аўтарытэтныя грамадскія арганізацыі *«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»* (зварот да старшыні Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў) і *Беларускі фонд культуры* (ліст у Стаўпецкі райсавет дэпутатаў):

«Міжнароднае грамадскае аб'яднанне **"Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"** азнаёмілася з праблемай, звязанай з вяртаннем гістарычнай назвы Гавязна сённяшняй вёсцы Вішнявец Стаўбцоўскага раёна.

На вялікі жаль, прыклад "Гавязны—Вішняўца" як нядбайнага абыходжання з нашай тапанімічнай спадчынай – досыць тыповы для Беларусі. З другога боку, гэта яскравае сведчанне, што навукова-культурная грамадскасць, маючы адпаведны патэнцыял, сёння магла б, не губляючы час, больш актыўна дамагацца вяртання назваў населеных пунктаў, якія былі скасаваныя і пераназваныя ў 1960-я гады.

У гэтым звязку ініцыятыва за вяртанне Гавязны не толькі выклікае павагу як справа неабходная і цалкам справядлівая, але сведчыць пра высокі арганізацыйна-мабілізацыйны пачатак: адназначная пазіцыя мясцовай школы за вяртанне гістарычнай назвы, падтрымка культурна-педагагічнай грамадскасці Стаўбцоўшчыны, меркаванні вучоных і выбітных асоб краіны, адносіны Тапанімічнай камісіі НАН Беларусі і Беларускага Фонда культуры, публікацыі ў мясцовай і рэспубліканскай прэсе.

Усё гэта сведчыць за тое, што пытанне вяртання гістарычнай назвы Гавязна трэба вырашаць станоўча.

Са свайго боку, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" падтрымлівае вяртанне гістарычнай назвы, найперш, з прычыны яе ўнікальнасці і выключна важнага значэння для захавання больш моцных сувязяў суайчыннікаў са сваёй радзімай. Змена тапанімічнай назвы, як сведчыць прак-





## «Ініцыятыва за вяртанне Гавязны выклікае не толькі павагу, але сведчыць пра высокі арганізацыйна-мабілізацыйны пачатак»

тыка, несумненна адбіваецца на гэтых стасунках у мностве праяў, у тым ліку, на вырашэнні магчымых спадчынных пытанняў.

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" звяртаецца з хадайніцтвам задаволіць просьбу старэйшых жыхароў былога мястэчка Гавязна, а таксама тых, хто іх падтрымаў.

**Алена Маркоўская,**
Старшыня Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

«Як вядома, у 1964 годзе згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР пачалося перайменаванне "немілагучных" назваў населеных пунктаў па ўсёй рэспубліцы. У лік "немілагучных" трапіла і назва старажытнай, вядомай з XV стагоддзя, стаўбцоўскай вёскі Гавязна, якая стала Вішняўцом, - адзначаў у лісце **Беларускі фонд культуры.**

У апошняе дзесяцігоддзе жыхарамі Вішняўца неаднаразова падымалася пытанне наконт былой і новай назвы вёскі. Сёлета ў Вішняўцы адбыўся выязны "круглы стол", на які запрашаліся ўсе жыхары, каб нарэшце вызначыцца: аддаць перавагу гісторыі ці "сучаснасці"? На сходзе зноў падкрэслівалася, што рашэнне аб перайменаванні ў 1964 годзе прымалася кулуарна, пакампанейску, за зачыненымі дзвярыма. У абмене думкамі за "круглым сталом" браў удзел намеснік галоўнага рэдактара "Краязнаўчай газеты" Беларускага фонду культуры, ураджэнец Стаўбцоўшчыны, пісьменнік Генрых Далідовіч. (...)

Беларускі фонд культуры, рэдакцыя "Краязнаўчай газеты" лічаць неабходным падтрымаць думку тых, хто клапоціцца пра вяртанне нашай гістарычнай памяці,

ушанаванне продкаў, іх поглядаў, у тым ліку і на свае назвы, бо ў назвах заўжды былі свае сімвалы і сэнс, розум і душа.

**Уладзімір Гілеп,**
Старшыня Грамадскага аб'яднання
"Беларускі фонд культуры", галоўны рэдактар
"Краязнаўчай газеты"

ПАКЕТ ДАКУМЕНТАЎ я папрасіў адвезці ў раён Яўгенію Мікалаеўну Платун, сябра Савета старэйшын. Мне было вельма важна, каб гэта зрабіў хто-небудзь, але не я. Каб там, у кабінетах, не думалі, што ўсім верхаводзіць Дранчук, што ўся ініцыятыва – гэта ён сам. І Яўгенія Мікалаеўна, меркаваў я, сваім з'яўленнем хоць крыху змяніць такія ўяўленні: за кожным прозвішчам нашых зваротаў стаялі рэальныя месцічы-гавязенцы. Іх боль і крыўда. Іх волевыяўленне… Спадарыня Платун з ахвотай згадзілася: "Завязу!" Старшыня выканкама, як пасля распавяла Яўгенія Мікалаеўна, прыняў вельмі ветла, чула, з увагай, выказаў асабістую падтрымку, падзякаваў, аднак… нічога канкрэтнага не паабяцаў.



## ***Мікалай Пархімовіч: разважаць разважаў, а зрабіць пабаяўся, хоць магчымасці ўсе былі***

Ці залежала ад старшыні Пархімовіча М.В. прыняцце рашэння на карысць Гавязны і "гавязлянаў"? Мяркую, так. Залежала цалкам!

Гэта быў не горшы час для прыняцця станоўчага рашэння, і ён, кіраўнік раёна з вялікім стажам, мог узяць на сябе выпраўленне грубай памылкі і відавочнай неахайнасці камуна-савецкага часу.

А найперш – мусіў убачыць і зразумець людзей, іх стан, іх пачуцці – не самыя ж горшыя людскія пачуцці, праўда? Няўжо не бачыў гэткай болькі, гэткага нарыву? Выходзіць, бачыў, але не прымаў ніякіх дзеянняў? "Якая, аднак, глухата і жорсткасць!.." – так і хочацца сказаць.

Гісторык па адукацыі, сам не аднойчы выказваўся за вяртанне згубленых гістарычных назваў у раёне, асабіста шкадаваў аб дапушчаным. Аднойчыі мне казаў,



крыху з усмешкай (запіс у нататніку-1995): *"Для мясцовага карэннага люду гэта ж не гонар – Вішнявец. Сын, унук, праўнук… -- жыццё не стаіць на месцы! Твой дзед у Гавязне, а ты нейкі вішнявецкі".* І ўжо зусім цвёрда, без усмешкі, як адрэзаў: *"Трэба назву вярнуць валявым чынам! І не разводзіць гэтай цяганіны".*

Добрым словам успомніў свайго папярэдніка Плахатнюка, пры якім адбыліся тыя сумныя пераназовы: *"…Але чалавек прызнаў грэх, пакаяўся, напісаў пра гэта ў сваёй кнізе ўспамінаў".*

Што загадкава дзіўна, Пархімовіч казаў гэта, быццам даўно сышоў на пенсію і ад яго, старшыні райвыканкама Мікалая Віктаравіча Пархімовіча нічога ўжо не залежала. Чаму ён чакаў, не пераходзіў да дзеяння? Маючы ўсе магчымыя ўплывы, трымаўся воддаль, нібы назіраючы? І па-ранейшаму дазваляў сабе разважаць (слушна разважаць!): *"Гістарычныя карані назвы мястэчка Гавязна аднекуль жа пайшлі. Гэтак жа, як і назвы Залужжа, Слабодка, Засулле… Ці Супаросная Слабада. Нічога абражальнага ў гэтай назве няма, верагодна, яна звязана з нейкімі мясцовымі традыцыямі, заняткамі, асаблівасцямі. У свой час таксама думалі: Ленінград ці ўсё ж Санкт-Пецярбург? Тым, хто нарадзіўся пасля 1917 года, лепш было чуць Ленінград, а для гісторыі, для Расіі, у сусветным маштабе – чый уклад большы, Леніна ці Пятра І? Тое ж і з Гавязною. Далі продкі такую назву мястэчку – няхай яна і застаецца. Чаму па волі чыноўнікаў, як тое здарылася ў 1964 годзе, павінны мяняцца адвечныя назвы, перакройвацца гісторыя? Гэта катэгарычна супярэчыць майму светаўспрыманню. Прыйшлі новыя людзі, прыехалі новыя начальнікі, яны абжыліся тут, зрадніліся з вёскай, многія нарадзіліся ў Вішняўцы – канешне, яны будуць стаяць за назву Вішнявец. Іх таксама няцяжка зразумець. Мне здаецца, што ў гэтай сітуацыі можна знайсці кампраміс. Напрыклад, вярнуць вёсцы спрадвечную назву Гавязна, а новы пасёлак, дзе пражываюць маладыя сем'і, хай будзе мікрараёнам з назвай Вішнявец…".* (Інтэрв'ю газеце "Прамень", запіс С.Жыбуль).

На той час – чэрвень 2003 - Мікалай Віктаравіч яшчэ ў страі, кіраўнік нумар адзін у раёне. І каму ж як не яму было сабраць усю моц падначаленага звяна, якое б





*Фота 22 кастрычніка 2018: Вёска Гавязна (сёння Навапольцы). Адзін з найрэдкіх у наваколлі будынкаў. Не толькі ўзорам забудовы (пагонным), але і смольным да чырвані дрэвам у зрубе. Гавязеначкі сёстры Валянціна і Зіна Карсекі, якім ні 88, ні 85 не дасі, радасна пасведчылі, што хату будаваў іхні прадзед.*

рэалізавала слушныя думкі ў рэальныя дзеянні. З яго ў тым ліку бяздзеяння і патурання вішнявецкі тандэм Бычко – Дзмітрэнка чыніў самаўпраўства пад прыкрыццём нібыта закона, здзекуючыся насамрэч з карэннай меншасці, якая праз усе магчымыя і немагчымыя інстанцыі дамагалася справядлівасці. Сітуацыя Гавязны патрабавала (і вельмі слушна!) як найменей звальнення старшыні сельсавета. (Забягаючы наперад, скажу, што Дзмітрэнку чакае іншае выпрабаванне, якога не пажадаеш, як кажуць, і ворагу…)

На жаль, мы не сталі сведкамі такіх падзей, у якіх Мікалай Віктаравіч выглядаў бы па-рыцарску мужным і валявым кіраўніком, тым больш у пытанні, далёкім ад гаспадаркі і блізкім яму па духу, дзе ён быў – без іроніі - - “на кані” і ў рыцарскіх даспехах. Магчыма, “светаўспрыманне” саступала ўжо больш празаічным рэчам – праз



год сп.Пархімовіч выправіцца на пенсію… Прыйшоў час заслужанага адпачынку, яго адпачынку. Час Гавязны пачакае.

Калі б сёння давялося абмяркоўваць тэму, Мікалай Віктаравіч, магчыма, сказаў бы прыкладна так: *"Вы мелі поўную рацыю, але не ўсё рабілі правільна…"* Або: *"Не ўсё залежала ад мяне… А душою быў з вамі, за Гавязну".*

Разам з тым Мікалай Пархімовіч заслугоўвае і ўдзячнага слова за дыпламатычную падтрымку, што надавала ініцыятарам больш надзеі ды ўпэўненасці дамагацца свайго.

ТЫПОВАЯ КАРЦІНКА - як раённая і сельская ўлада (Вішнявецкі сельсавет) "дапамагаюць" грамадству вырашыць складаную праблему і як мясцовае "начальства" спрашчае і сцірае грамадскую думку, прадстаўленую пакетам матэрыялаў рэспубліканскага спектру. Не пакідаючы сабе ні клопату, ні думання: схема ёсць - навошта розум?



## *Корань паселішча, яго адвечная назва маюць сваю гуманітарную выключнасць і недатыкальнасць. І пагалоўнасць апытаных тут зусім недарэчы, а часам на шкоду*

Зрабіць лепш для нацыі, культуры, асветы гэтая схема не здольная, у ёй не закладзены адпаведны зваротны водгук. Але яна трымае верх, аб яе разбіваюцца пытанні кшталту "Вішнявец ці Гавязна".

Ніводзін з выступоўцаў-дэпутатаў не спаслаўся на матэрыялы з прапановамі – быццам іх, матэрыялаў, не было ў прыродзе. Ніхто не ведаў нават пра іх існаванне. Не сказала пра іх і старшыня сельсавета Я. Дзмітрэнка, якая вяла паседжанне і мусіла гэта зрабіць хоць бы "неяк так" – назваць, пералічыць, сцісла давесці сутнасць.

Я чакаў, што гэта абавязкова зробіць старшыня раённага Савета А. Угольнік, які дзеля гэтага і прыехаў на сесію з райцэнтра. Напрыклад, скажа пра тое, чаму мясцовая школа, педагагічная грамадскасць раёна (!) чакаюць ад дэпутатаў станоўчага рашэння і чаму вяртанне старажытнай назвы звязваюць з духоўнай спадчынай.

Не быў зачытаны і Зварот старэйшых жыхароў – адпраўны дакумент, пад якім падпісаліся дзясяткі аднавяскоўцаў, ветэранаў мястэчка.

**«НІЯКАЙ ДРУГОЙ ДЗЯРЭЎНІ ЗНАЦЬ НЕ ХАЧУ!"**

**"За Гавязну", інфармацыйны выпуск, N2,** жнівень 2005

Міхаіл Грышан, кіраўнік вытворчасці, сельскі дэпутат

- Дваццаць тры гады я тут адпрацаваў. Тут выраслі мае дочкі. Цяпер вучацца, прыязджаюць. Куды яны прыязджаюць? У Вішнявец... З 1982 года пачалі будавацца кватэры, наехала шмат людзей. Выраслі дзеці. Для іх ужо Вішнявец як нешта роднае.

Людміла Клімовіч, кіраўнік вытворчасці, сельскі дэпутат

- Ніякай другой дзярэўні я знаць не хачу, бо прыехала ў гэты калгас у 1986 годзе, тады ўжо быў Вішнявец, і хачу застацца ў гэтай дзярэўні.

Іван Столяр, мясцовы доктар, сельскі дэпутат

- Людзям цяжка было выбіраць паміж «за» і «супраць», не хапала графы «устрымаўся»... Пытанне вельмі далікатнае. Сам я «чужы», не мясцовы, і сёння не асмелюся ісці супраць думкі карэнных жыхароў. Прыходзяць да мяне на прыём старыя людзі. Пытаешся, адкуль. З Гавязны. А прайшло ўжо сорак гадоў. Трэба ведаць гісторыю... Вазьміце суседку Расію. Пецярбург вярнуўся, Самара вярнулася, Екацярынбург вярнуўся.

Аляксандр Угольнік, старшыня райсавета

- Такіх асобых, гістарычных і ўсіх такіх вартасцяў па гэтай вёсцы, мы паглядзелі, няма. Не знайшлі. Напрыклад, я пакуль не знайшоў, не ўбачыў. Мы спусцілі гэта менавіта на рашэнне сельскіх саветаў. Я прасіў Ядвігу Іванаўну, каб усіх абышлі, даведаліся і прынялі рашэнне з улікам насельніцтва. Абход паказаў, што большасць за Вішнявец. І раённаму савету будзе правільна прыслухацца да меркавання большасці...

Валер Дранчук, дарадца ініцыятывы «За Гавязну»

- Яшчэ раз хачу пацвердзіць пазіцыю, што ініцыятыва цалкам слушная, чалавечная, дзеля захавання нацыянальных каштоўнасцяў. Гэта акцыя не па перайменаванні



назвы ў невядома якую (як гэта цяпер нам навязваюць), а зусім іншае – акцыя справядлівасці, вяртанне той гістарычнай назвы, якую гвалтоўна забралі.

Зададзеная схема разгляду была, бадай, універсальнай – сёння пра тапанімічны рарытэт, заўтра пра барацьбу з баршчэўнікам. Можна толькі парадавацца за дэпутата *Столяра*, які адрозна ад іншых, паглядзеў на пытанне шырэй, выказаў самастойную думку, успомніў і нядаўні "рэферэндум": у ім, зазначыў дэпутат, не хапала вельмі істотнай графы...

Ад гэтай, адсутнай, графы – "устрымаўся" - можна ж пайсці і далей: а ці кожны з тых 400 жыхароў меў права голасу наогул? Корань паселішча, яго адвечная назва маюць сваю гуманітарную выключнасць і недатыкальнасць. І пагалоўнасць апытаных тут зусім недарэчы, а часам на шкоду. Каму гэта трэба даводзіць? Круглы стол (2003) яскрава засведчыў радаводны прыярытэт, пра яго, напрыклад, рашуча выказаўся краязнаўца Сяргей Галоўка.

Я добра ведаю дэпутата М. Грышана, які прагаласаваў за Вішнявец. Працаўнік аграрнага сектару, ветэран вытворчасці. А я памятаю, як ён, малады брыгадзір, пачынаў з вершаў пра вёску. Добрых вершаў на роднай мове. Няўжо ў ім скончыўся паэт і лірык, мудрэц і даследчык, што ён так па-дылетанцку плоска і аднабока выказаў разуменне гісторыі і людзей, у якіх забралі знак бацькаўшчыны. Я гэтак не думаю. Спадар Грышан, як падаецца, абачліва схаваў сваю праўду. Побач, праз два сядзенні ад яго, знаходзіўся У. Бычко, кіраўнік гаспадаркі. Дарэчы, яму першаму і далі слова, і было яно за Вішнявец: *"Только Вишневец! Название, которое всем нравится"...*

Старшыня райсавета А. Угольнік выглядаў нічым не лепш за жанчыну, якая быццам адрэзала, што «ніякай другой дзярэўні і знаць не хоча». Як нечакана зблізіліся светапогляды двух далёкіх і розных людзей! Але калі спадарыні Клімовіч я неяк мог дараваць гэты грэх і вялікае глупства, то за Угольніка было сорамна, я адчуваў да яго поўную агіду. Ці браў ён у рукі матэрыялы? Ці глядзеў Зварот старэйшых жыхароў? Няўжо не бачыў адносін-заяў педагогаў, Фонда культуры, Акадэміі навук? Усё - міма? "І гэта ён рыхтуе сесію райсавета па Гавязне! Чаго і ад каго чакаць?.. " – падумалася міжволі і роспачна.



## *«Сёння на баку Гавязны шырокая зацікаўленая грамадскасць. Гэта ўжо не меншасць, а перавага і большасць»*

Вынік: сельскія дэпутаты «супраць» Гавязны. Адзін «устрымаўся» (Іван Столяр).

Дзмітрэнка нечакана дае мне слова. Маўляў, чаго яшчэ хацець, самі бачыце…

"Шаноўныя прысутныя, - раздумваючы, звяртаюся да землякоў. – Вось вы прагаласавалі, і быццам задаволеныя сабой. Нібыта ўсё справядліва і чыста. Але я так не думаю. Сельскі савет згуляў у фальсіфікацыю, бо праўда тут не ўся. Вы мяне запрасілі, каб я пераканаўся, што інакш пакуль не атрымліваецца. Не атрымліваецца – і ўсё. Я вось думаю, чаму гэта так, а не інакш. Убаку застаецца школа, культура, навуковая экспертыза. Дарэчы, пяцьдзесят галасоў падчас апытання, альбо 18 адсоткаў, – таксама паказнік, і зусім немалы, з ім трэба лічыцца! Гэта карэнная меншасць і тыя, хто далучыўся.А далучыліся не толькі аднавяскоўцы, сёння на баку Гавязны шырокая грамадскасць. Таму гэта ўжо зусім не меншасць, а перавага і большасць. Праўдзівая большасць! Усім добра відаць, як працуе ўладны механізм "за Вішнявец". Кіраўнік гаспадаркі, старшыня сельсавета, а сёння і спадар Угольнік падаюць не лепшы прыклад, у іх пазіцыі я не бачу ніякіх сумненняў, ніякіх разваг альбо кампрамісаў. Усё галаслоўна. Мне хочацца сказаць: **«Людзі, спыніцеся, не распальвайце варожасці, адкіньце крыўды і амбіцыі, давайце пачуем карэнных, мясцовых людзей, у якіх забралі родавы знак, гістарычную назву, пачуем голас продкаў, якіх няма, якія ляжаць у сотні метраў ад нас. Хто мясцовы, хто прыезджы – давайце паразумеемся. Сёння мы ўсе землякі, бо на адной зямлі. Няхай Гавязна, адна і другая, згуртуюць нас: школу і ўладу, малых і дарослых, жывых і спачылых. Няхай запануе згода, а не сварка і варажнеча. Я звяртаюся да Вас, старшыня райсавета спадар Угольнік: ваша інстанцыя можа быць вырашальнай, памылку трэба выправіць – вярнуць Гавязну. Праявіце высакароднасць!».** Дзякуй усім за ўвагу!"





*Фота 2005: Рэшткі брукаванкі за вёскай Ахрэмавічы ў напрамку чыгуначнай станцыі Гарадзея. Старая дарога наўпрост вяла ад гасцінца Стоўпцы - Нясвіж праз Ахрэмавічы і ўтрая скарачала шлях да чыгункі для многіх вёсак Гавязнянскай воласці (гміны) і яе ваколіц. Захаваліся фрагменты брукаванага пакрыцця..*

ПРА СПРАВЯДЛІВЫЯ дамаганні жыхароў былога мястэчка ведалі і ў вобласці. Адзіная і апошняя спроба разабрацца, даць разумную раду з боку Мінска была зроблена на пачатку 90-х. Тагачасны старшыня абласной тапанімічнай камісіі сп.Стрыжэвіч прыехаў да самага местачковага пляца. Кажуць, і ў царкву заходзіў, і старых людзей параспытваў. Нікога не ўгаворваў, бачыў настрой улады, аднак не раіў дэпутатам спяшацца з “рэферэндумам”, а добра падумаць. Захаваўся і ягоны адказ Яўгеніі Платун: ніякіх абяцанняў, але жаданне дапамагчы выразна прачытвалася, хоць і выглядала маласуцяшальным. Напраўду, сёння лёгка пагадзіцца: калі б не было “рэферэндума” з яго нялюдскімі падыходамі, а мясцовыя князькі-напалеончыкі замест кавалерыйскіх наскокаў дачуліся розуму й сэрца, падышлі да вырашэння праблемы гістарычна і памяркоўна, усё было б інакш.

Стрыжэвіч меў рацыю, калі напісаў, што справа вяртання Гавязны патрабуе працы, разважлівай мудрасці.

Прайшло часу, ініцыятары кампаніі “за Гавязну” зноў звярнуліся ў вобласць. Сюды, у Мінскі аблвыканкам намеснікам старшыні прыйшоў ці не “свой” чалавек, лічы, зямляк, Леанід Крупец – родам з вёскі Макашы, што побач Гарадзеі Нясвіжскага раёна. Вёска вядомая як радзіма рэпрэсаванага паэта Уладзіміра Жылкі.

Менавіта яму, Леаніду Фёдаравічу, адрасаваліся недаўменні жыхароў што да вяртання Гавязны. *“Мы, простыя людзі, разумеем духоўную значнасць гістарычнай назвы і ўжо колькі гадоў спрабуем пераканаць у гэтым уладу, а дыпламаваныя чыноўнікі трымаюць пытанне “пад сукном”, быццам не чуюць нашага крыку душы”.*

Крыху ведаючы сп.Крупца, я папрасіў яго паставіць пытанне на асабісты кантроль або зрабіць адпаведнае даручэнне свайму памочніку Гурыновічу. На жаль, гэта не спрацавала. Разгляд звароту, пад якім падпісалася за дзясятак мястачкоўцаў, быў брутальна забюракратызаваны. Адпіскі, што я атрымаў з раёна за подпісам намесніка старшыні райвыканкама спн.Лапко, шакавалі халоднымі калькамі абыякавасці - канстатацыяй вынікаў “рэферэндума” і “меншасці” тых, хто прасіў справядлівасці. Гэта былі адказы без адказу. Яны ж, паводле працэдуры, адначасна з’яўляліся і адказам з аблвыканкама, куды накіроўваліся копіі са Стоўпцаў…

Сёння ў мяне шмат падстаў думаць, што менавіта ён, Крупец, трымаў пазіцыю пакінуць Вішнявец, не ісці супраць фармальных падыходаў. Магчыма, папросту не ўчытаўся, паверыў дарадцам, не зразумеў драматызму абставін. Як сказаў бы ягоны паэт-зямляк, не здолеў узяць “старадаўні тон”. Што заставалася мне? Ісці да Крупца на прыём – усё патлумачыць, выказацца, пераканаць? Найперш перамовіўся з памочнікам. “Пытанне вырашае раён, у Вас ёсць афіцыйныя адказы… людзі супраць, – кажа той і дадае: – Леанід Фёдаравіч вельмі заняты”. Цікаўлюся пазіцыяй абласной тапанімічнай камісіі. Высветляецца, што я туды “не звяртаўся...” Добра, няхай. Звязваюся з камісіяй. “Грамадскую нагрузку” нясе старшыня камітэта па архітэктуры Яўген Кавалеўскі. На





***Адпіскі за подпісам спн. Лапко шакавалі халоднымі калькамі абыякавасці. Гэта былі адказы без адказу. Яны ж, паводле бюракратычнай працэдуры, адначасна з'яўляліся і адказам з аблвыканкама***

змену Вішняўца адгукнуўся чула, з бадзёрым разуменнем. Паабяцаў дзейную падтрымку. Але праз два месяцы я атрымаў звычайны суконны адказ, падпісаны ім, Кавалеўскім. Тэлефаную. Размова непрыязна сухая. Пытаюся, ці памятае нашу размову. "Так, добра памятаю" – адказвае Яўген Міхайлавіч. "У такім разе Вы нягоднік" - кажу я і кладу слухаўку.

Зразумела, такі ход справы быў узгоднены Кавалеўскім калі не з Крупцом, то з ягонай бюракратычнай абслугай. Ці не тое самае было ў мяне і з самім Крупцом. Напачатку зліберальнічаў, паабяцаў, а затым даў задні ход. Разам з тым, я мусіў засяродзіцца, зразумець, што стаяла за адказам Кавалеўскага. А вось што. Абласная камісія склала свае грамадскія абавязкі, ухіліўшыся ад галоўнай сваёй ролі – кампетэнтнага і зацікаўленага пасярэдніка. Палажэннем прадугледжаны кансультацыі і праца на месцы, асабліва з тымі, хто прыкрываецца большасцю і па сутнасці ігнаруе не толькі людзей (так званую «меншасць»), але і закон, на які спасылаецца. Дый быў гэта ўжо не пачатак 90-х, а самы пачатак нулявых - пытанне рабілася рэжымна палітычным; да ўсяго, што тычылася савецкай спадчыны, нават самай гідкай і бесчалавечнай, ставіліся ўсё больш паблажліва-стрымана, без належнага энтузіазму нешта выпраўляць.

ЧЭРВЕНЬ 2004. Пытанне аб вяртанні Гавязны ўпершыню пастаўлена на сесію дэпутатаў райсавета.

Загадзя, за тыдні два я звярнуўся да народных абраннікаў з кароткім словам свайго разумення праблемы ад імя землякоў.

"На сваёй чарговай сесіі, - пісаў я, - вы ўпершыню маеце магчымасць выправіць памылку мінулага, дапушчаную ў 60-я гады, калі Стаўбцоўшчына згубіла

адну з самых адметных назваў на карце - назву старадаўняга паселішча Гавязна. Лішне даводзіць, што ў назвах нашых паселішчаў закладзены код народа, нашых далёкіх продкаў і папярэднікаў, які трэба ашчаджаць і перахоўваць. Менавіта гэтую ісціну пацвердзілі шматлікія ўстановы і грамадскія арганізацыі, якія надалі ўвагу пытанню і дэлегавалі свае меркаванні за вяртанне Гавязны. Але найперш, - адзначыў я, - гэта мясцовая школа, педагагічная і культурная грамадскасць раёна".

*"Хацелася б*, - звярнуўся я перад пачаткам абмеркавання, - *каб вы, народныя абраннікі, сёння прынялі рашэнне ад імя сваіх выбаршчыкаў. Бываючы на раёне, я пакуль не сустрэў ніводнага чалавека, які б адобрыў акт забрання старой назвы Гавязна ці ўхваліў новую. Людзі расцэньваюць гэта як свавольства ўлады і вялікую нялюдскасць. Яшчэ хачу асабліва падкрэсліць, што ваша станоўчае рашэнне не пацягне "рэвалюцыйнай" змены шыльдаў, усё пойдзе ў рэчышчы памяркоўнай мэтазгоднасці, свайго часу і сваіх магчымасцяў".*

Аднак развязваць зацягнуты вузел стомленыя чарадой іншых пытанняў, без перапынку на абед, дэпутаты ўзяліся неахвотна, шумна падняліся за прыняцце рашэння адразу, галасаваннем. Папярэдне матэрыялаў ніхто не чытаў, пра мой зварот не чулі, знаёмства з праблемай для большасці пачалося ў зале. І хоць дыскусія завязалася, хутка стала відавочна: дэпутатам не патрэбныя спрэчкі. Старшыня сельсавета Я. Дзмітрэнка, не дабіраючы разумнага сэнсу, згадала аж пра «два пакаленні», што нарадзіліся ў Вішняўцы. Гэта быў яе ўлюбёны аргумент. Ёй тут жа справядліва запярэчылі: маўляў, ці палічыла, колькі пакаленняў гавязлян спачывае на могілках? Шкада, пытанні маралі і сумлення на сесіі не планаваліся... У выніку за вяртанне Гавязны прагаласаваў толькі адзін дэпутат – рэдактар раённай газеты «Прамень» *Іван Мікалаевіч Багатка.* Яшчэ адзін — "устрымаўся".

Пасля сесіі я спытаў думку тых, хто чакаў ад дэпутатаў іншага выніку.

Іван Нарановіч, дырэктар Вішнявецкай школы:

*- Дэпутаты, лічу, зрабілі нядобрую справу. Гэта памылка. Яе давядзецца раней ці пазней папраўляць. У*





*На бацькаўшыне. Пасадка бульбы. Малюнак В. Дранчука. 1995.*

*мяне застаецца пытанне: чаму наша мясцовая сельская ўлада ў асобе старшыні сельсавета і старшыні аграфірмы пайшла супраць школы, супраць цэлага педкалектыву, супраць педагагічнай грамадскасці ўсяго раёна? Ні Бычко, ні Дзмітрэнка, ні тыя, хто паверыў ім і падтрымаў іх, не ўсвядомілі маральнай вартасці гістарычнай назвы. Урэшце – супрацьпаставілі сябе школе, справе выхавання.*

Л е а н і л а Сняжко, пенсіянерка, в. Новы Свержань:

*- Я сачыла за публікацыямі ў "Прамені", спадзявалася, што Гавязна гэты раз вернецца. Была і застаюся на баку тых, хто гэтага дамагаецца. А за нашага дэпутата (Жданко Е.М. – Аўт.) мне вельмі сорамна. Яна, відаць, ніколі гэтым не цікавілася, хоць працуе ў школе. Прагаласавала ці на свой розум, ці так, як сказала начальства. А хто яе выбраў, у тых не спытала. Ведаеце, тут у Новым Свержані многія за Гавязну.*

М а р ' я н Карніцкі, дэпутат райсавета, ААТ "Агракамбінат "Жацерава":

*- Чаму так прагаласаваў?.. Разумееце, для іншага рашэння не хапала «арганікі». Не спрацаваў нейкі механізм. Рэферэндум - гэта не механізм, тут я згодны. Вы сказалі добра, я пагадзіўся: вярніце, што забралі. Але седзячы ў зале, так адразу не змог зарыентавацца, паглыбіцца ў сутнасць пытання. Выступіў Бычко, выступіла Дзмітрэнка. Ім чамусьці паверылі, і я ім паверыў. Цяпер гэта на іхнім сумленні.*



## *«Скажыце, як можна пытацца, вяртаць назву або не вяртаць, у чалавека, у якога нічога не забіралі?»*

А л е н а Сяржант, пенсіянерка, в. Вішнявец:

*- Скажыце, гэты рэферэндум, падворнае апытанне... Я не магу зразумець, што да чаго. У законе напісана: "з улікам грамадскай думкі". Пра які рэферэндум ідзе там гаворка? Быў "круглы стол", праводзіла рэдакцыя раённай газеты. Гэта я разумею: сабраліся хто хацеў, каму баліць, прыехалі кампетэнтныя людзі, усё як след абмеркавалі, газета надрукавала шырокую справаздачу. І Пархімовіч выказаўся за Гавязну. Калі разумна, дык яно ж і зразумела ўсё. Не, гэтага мала. Давай рэферэндум! Ну, як можна пытацца, вяртаць назву або не вяртаць, у чалавека, у якога нічога не забіралі? Людзі прыехалі сюды жыць, ім далі працу, дах над галавой. Дык няхай шчасліва жывуць. Навошта цягнуць іх у гэтыя выбары? Лічу такія дзеянні ўлады шкоднымі і незаконнымі.*



# Вердыкт, які звароту не мае

**Рашэннае Тапанімічнай камісіі – Слова эксперта Валянціны Лемцюговай – Гісторыя ад... Бычко - Лінія лёсу Ядвігі Дзмітрэнкі - Другая сесія райсавета - Зарука 12-ці**

БЫЛО ВІДАВОЧНА, што пытанне ўсім сваім ходам і логікай дзеянняў рушыць у кампетэнцыю Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў. Было на што азірнуцца. Чаму парадавацца. Рады за пазіцыю людзей і арганізацый, якія падтрымалі "гавязенцаў". Выказалі цвёрдыя аргументы. Выклалі поўны карт-бланш: не цягні, бюракрат! парупіся, чыноўнік!.. У Камісіі – урадавай! - людзі з імёнамі і, галоўнае, з разуменнем. Культурнікі, законнікі, дзяржаўнікі. З кім завочна, з кім непасрэдна знаёмы, меў нагоду перамаўляцца. З прафесаркай, доктарам навук Валянцінай Лемцюговай трымаю даўні плённы кантакт, больш за тое – захапляюся яе ахвярнай працай на карысць нацыянальнай тапанімічнай спадчыны. Менавіта тут, у Тапанімічнай камісіі мусіць быць пастаўлена аўтарытэтная кропка.

**Старшыні Тапанімічнай камісіі**
**пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**Кузняцову Георгію Іванавічу**
9 жніўня 2005

**АБ ВЯРТАННІ НАСЕЛЕНЫМ ПУНКТАМ ВІШНЯВЕЦ І НАВАПОЛЬЦЫ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА ІХ ГІСТАРЫЧНАЙ НАЗВЫ ГАВЯЗНА**

На падставе пададзеных матэрыялаў і дакументаў, а таксама дакументаў, якія на працягу 2004 года былі перададзены ў Стаўбцоўскі выканаўчы камітэт для прыняцця рашэння, прашу паставіць на парадак дня Камісіі пытанне аб вяртанні гістарычнай назвы Гавязна двум

населеным пунктам Стаўбцоўскага раёна (вёсцы Вішнявец і вёсцы Навапольцы) , як было да 1964 года.

Мая просьба грунтуецца на калектыўных лістах і меркаваннях сельскіх жыхароў, а таксама на шырокай грамадска-культурнай думцы, якая адпавядае агульнапрынятым дэмакратычным нормам і міжнародным прынцыпам, а таксама гістарычнай справядлівасці, згодна з якой тапонім Гавязна некалькі стагоддзяў належаў адзначаным паселішчам без спробаў яго змяніць на іншы.

НА ПЯТЫ МЕСЯЦ я атрымаў адказ, на які спадзяваўся. Гэта быў жаданы вынік, хоць і з вялікім спазненнем (калі тэлефанаваў, спрабуючы прыспешыць разгляд, мне тлумачылі, што пытанне рыхтуецца і патрабуе пэўнага часу, дый сабраць паседжанне Камісіі ў поўным складзе не ўраз удаецца).

Падаю галоўнае:

" *… геаграфічныя назвы, у тым ліку назвы паселішчаў, з'яўляюцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю і вартыя таго, каб іх берагчы і ставіцца з вялікай увагай.*

*Гавязна – надзвычай старажытная і адзіная на тэрыторыі краіны геаграфічная назва. На карце "Беларусь у канцы XVI ст." яна, як сведчаць эксперты, знаходзіцца ў коле такіх шматвяковых назваў як Нясвіж, Клецк, Мір, Ляхавічы, Капыль, Сноў і інш.*

*Тапанімічная камісія адзначае, што рэліктавая назва Гавязна мае вялікае значэнне для турыстычнай перспектывы гэтага рэгіёна. Населеныя пункты Вішнявец і Навапольцы знаходзяцца на старым гасцінцы Стоўпцы – Нясвіж, які звязаны з творчасцю класікаў літаратуры Якуба Коласа і Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлі).*

*Улічваючы Вашы аргументы, думку навуковай і культурнай грамадскасці, экспертныя высновы спецыялістаў Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ад 23 снежня 2005 №108-601), Тапанімічная камісія падтрымлівае Вашу прапанову аб ВЯРТАННІ ГІСТАРЫЧНАЙ НАЗВЫ ГАВЯЗНА населеным пунктам Вішнявец і Навапольцы Вішнявецкага сельсавета*



*Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці (пратакол паседжання ад 14 снежня 2005 № 16)(...)"*

Старшыня Тапанімічнай
камісіі пры Савеце Міністраў
Рэспублікі Беларусь
*Г.І.Кузняцоў*

**ВЫПІСКА З ПРАТАКОЛА N 16**

**паседжання Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 снежня 2005**

"ВЫРАШЫЛІ:

*Падтрымаць прапанову Дранчука В.А. аб вяртанні гістарычнай назвы Гавязна населеным пунктам Вішнявец і Навапольцы Вішнявецкага сельсавета Стаўбцоўскага раёна ў рамках заканадаўства Рэспублікі Беларусь.*

Інфармаваць аб прынятым рашэнні Савет дэпутатаў і выканаўчы камітэт Стаўбцоўскага раёна, на тэрыторыі якога знаходзяцца названыя населеныя пункты".

Старшыня Тапанімічнай
камісіі пры Савеце Міністраў
Рэспублікі Беларусь
*Г.І.Кузняцоў*

**ЭКСПЕРТНАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ**

**старшыні Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на назву Гавязна Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці**

*Гавязна – вельмі старажытная і адзіная на тэрыторыі Беларусі геаграфічная назва. На карце "Беларусь у канцы XVI ст." яна знаходзіцца ў суседстве з такімі шматвекавымі назвамі, як Нясвіж, Клецк, Красны Стаў, Ляхавічы, Мір, Капыль, Сноў.*

*Але XVI ст. – не мяжа старажытнасці. Звычайна на карту і ў пісьмовыя крыніцы назва трапляе значна пазней, чым яна з'явілася на свет. З гэтага вынікае, што мы маем справу з рарытэтам, рэліктам, з назвай, якая адносіцца да нацыянальнай культурнай спадчыны і павінна ахоўвацца законам. Яна ніяк не падпадала пад перайменаванне. Але, калі такое здарылася, то трэба думаць, як выправіць памылку. Тым больш, што населены пункт Гавязна знаходзіцца ў зоне перспектыўнага турызму. І*

*дэманстраваць старажытнасці матэрыяльнай культуры на фоне сцёртых помнікаў духоўнай культуры нікуды не варта. Для турыстычнай перспектывы мае істотнае значэнне і той факт, што Гавязна знаходзіцца ў межах унікальнага літаратурнага запаведніка, які ўключае некалькі мемарыялаў (з духоўным цэнтрам у Мікалаеўшчыне), звязаным з жыццём і творчасцю народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.*

*Экспертнае заключэнне накіроўваецца ў Тапанімічную камісію пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.*

Старшыня Рэспубліканскай тапанімічнай
камісіі пры НАН Беларусі,
доктар філалагічных навук, прафесар
*В.П.Лемцюгова*

ВЫНІК, аднак, не расхалоджваў мяне. Я добра ведаў, які супраціў чакае прыняты вердыкт у раённым звяне і асабліва на месцы – сельскім савеце, калгаснай адміністрацыі, персанальна з боку кіраўніка гаспадаркі, дэпутата райсавета Бычко. Ідэя вяртання гістарычнай назвы была для яго не проста чужой - выклікала фанатычнае непрыняцце.

**ДАСЛОЎНА**

**Уладзімір Бычко, старшыня мясцовай гаспадаркі (сёння ААТ "Вішнявецкі" – аўт.).**

Інтэрв'ю радыё "Свабода", 14 жніўня 2003

*«Моя личная позиция – конечно, Вишневец останется. Говезна есть история, ну пускай и остается историей. Вишневец — это тоже история, в нем живет уже не одно поколение. И название нам пока нравится».*

Вось такая, па-камсамольску бадзёрая, гісторыя ад... Бычко Уладзіміра Уладзіміравіча. Не ведаю яго сённяшняй думкі, ён даўно не старшыня, але па-ранейшаму працуе, праўда, на другім баку раёна, бліжэй сваіх родных мясцін. Вішнявец не пакідаў, застаўся тут. Думаю, не пакрыўдзіцца на мяне, калі я скажу, што гэта ён СКРАЙНІ - той самы найпершы скрайні, хто не даў вярнуцца Гавязне ў спрыяльны 2006. Гэта ён, махаючы шабелькай мясцовага князька, першым перагарадзіў дарогу рашэнням Тапанімічнай камісіі. Праз колькі часу я ўбачу паспешны непрычасаны ліст "знізу", адрасаваны ўрадавай





## ***Дарма - гісторыю не пераскочыш! Сёння ты напалеончык гэтакі, а заўтра будзеш ляжаць каля яе падножжа пабітай нікчэмнай ахвярай***

Камісіі, пад якім падпісаўся не толькі Бычко, але і старшыня райсавета Угольнік. Было зразумела, хто з кім і за што. Дэ-факта аўтары ліста ўжо рыхтаваліся да сесіі (чэрвень 2006), на якую планавалася пытанне Гавязны.

Тут я хачу спыніцца ў спагадлівым задуменні і скрусе (разумеючы несамавітую да непрыстойнасці зацятасць супрацьстаяння з боку вішнявецкай адміністрацыі, найперш іх, Бычко і Дзмітрэнкі, а пасля ўжо Угольніка).

Хіба не магло быць інакш? Вядома ж, магло – перадаць "правы і абавязкі" сельскаму савету ды кардынальна, як тое радзіла-рэкамендавала Тапанімічная камісія краіны, змяніць арыенцір на гістарычную каштоўнасць, на разумнае-вечнае, на ВЕРДЫКТ як вырашальны кампраміс і спасланы шанец, з якім трэба лічыцца і які ЗВАРОТНАЙ СІЛЫ НЕ МАЕ. Ды азірнуцца на мясцовыя могілкі, што моўчкі галасавалі за сваю, "старую" назву і не маглі даўмецца сэнсу новай.

Аргументы "за Гавязну" не задавальнялі Бычко, больш за тое – не давалі спакою. Адмовіцца ад сваёй, вынашанай дзесьці глыбока ў патаёмах свядомасці, высновы было цяжка... да немагчымасці цяжка. Хай сабе там, у тых вучоных камісіях усе разумныя, але ж – ясна! – не разумнейшыя. *"Вишневец останется. Говезна есть история, ну пускай и остается историей..."* - аргументы "за Вішнявец" прыемна прыспешвалі яго хаду, атрымлівалася нават з падскокам. Але дарма, усё дарма – гісторыю, братка, не пераскочыш! Сёння ты напалеончык гэтакі, а заўтра будзеш ляжаць каля яе падножжа пабітай нікчэмнай ахвярай.

І ўжо зусім сумнае слова пра старшыню сельсавета Дзмітрэнку Ядвігу Іванаўну... Запас назіранняў дае мне права на сумныя высновы, расчараванні і... спачуванні. Што кіравала ёю? Што запыняла годную перспектыву да зменаў? Быў момант, і не адзін, калі яна магла зрабіць

належную паўзу, раздумацца. Каму як не ёй было рушыць за Гавязною: нарадзілася ў зарэчнай вёсцы, скончыла мясцовую школу, тут Ядзю ведалі як сваю. У яе родным Зарэччы я сустрэў багата людзей, якія віталі вяртанне Гавязны, казалі, жывучы адвеку ў Зарэччы, што Гавязна – ім як родная, з якой зжыліся пакаленнямі.

"Чаму мясцовая ўлада, самая народная, не чуе карэнную меншасць? – пытаўся я ў Дзмітрэнкі на адной з сесій сельсавета, на якую быў запрошаны. – Не ідзе шляхам больш мудрым і справядлівым, а ўсяляк і толькі насуперак меншасці?.." У мяне былі падставы задавацца пытаннямі – адным, другім, трэцім. Так зв. "рэферэндумы ад Дзмітрэнкі" – падворныя апытанні жыхароў з двойчы засведчанымі "меншасцю" і "большасцю" – гэта найпершы дакор старшыні сельсавета, яе параза і ганьба. Яна што, глухая – не чула? Сляпая – не бачыла? І чула, і бачыла.

Змахлявалася, казалі. А сітуацыя патрабавала сумлення.

І закон даваў такую магчымасць, і правы мясцовай дэмакратыі, зыходзячы з умоў, падказвалі шмат кампрамісных варыянтаў. І пракансультавацца было дзе, у райвыканкаме знайшліся б ахвотныя дапамагчы. На жаль, не пажадала ці папросту не зарыентавалася ў складаным неардынарным пытанні.

*Фота 3 лістапада 2018: Старыя Гавязнянскія могілкі*





Ці быў на яе ўладны ціск? Калі быў, хіба што з боку кіраўнікоў гаспадаркі (Касабуцкі, Бычко...). Мо, таму і быў, што ціха-пакорна, моўчкі выконвала тую "лінію", якую ўпарта гнулі яны, не вагаючыся ў сваім выбары. Яе ж ВЫБАР быў за ёю, Ядвігай Іванаўнай Дзмітрэнка. І калі б ён быў зроблены на карысць карэнных жыхароў мястэчка, мясцовай школы, культурнай і педагагічнай грамадскасці раёна, царквы, пэўна, мінуў бы яе лёс крымінальнай спакусы і не адсядзела б жанчына гады турмы за хабар, што прыліп да яе рук. Услед за землякамі я сёння маю права задумацца: ці не адбіўся ў тым, здрадлівым, выбары яе далейшы лёс?

На момант другой, шмат у чым паказальнай сесіі райсавета з пытаннем аб вяртанні Гавязны Ядвіга Дзмітрэнка была ўжо пад следствам.

**НЕ ДАЦЬ ЗАБЛЫТАЦЬ ПЫТАННЕ!**

**Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь**

**Кузняцову Г.І.**

12 чэрвеня 2006

Паважаны Старшыня!

Стаўбцоўскі райсавет паставіў на парадак дня чарговай сесіі разгляд пытання аб вяртанні гістарычнай назвы Гавязна населеным пунктам Вішнявец і Навапольцы на падставе рашэння Тапанімічнай камісіі ад 14 снежня 2005 года. Сесія адбудзецца 16 чэрвеня, пачатак а 10 гадзіне.

На мой погляд, і абмеркаванне пытання, і, тым больш, прыняцце рашэння "дэ-юрэ" патрабуюць глыбокага ўзаемадзеяння мясцовых органаў улады і Тапанімічнай камісіі. На жаль, ёсць небяспека, што дыскусія паміж дэпутатамі будзе "дэ-факта" скіраваная ў іншае, неканструктыўнае рэчышча, пра што яскрава сведчыць ліст на Ваша імя ад 3 лютага 2006 г., які "ад імя дэпутатаў" падпісаў і старшыня райсавета А.П.Угольнік.

Гэта дае мне падставы прадбачыць, што на сесіі будзе прадпрынята спроба дэмагагічным чынам "заблытаць" пытанне (змест ліста – поўнае таму пацвярджэнне) і аспрэчыць рэкамендацыі Тапанімічнай камісіі аб вяртанні гістарычнай назвы Гавязна населеным пунктам Вішнявец і Навапольцы.

У сувязі з гэтым і на падставе Палажэння аб Тапанімічнай камісіі пры Савеце міністраў Рэспублікі Беларусь прасіў бы накіраваць для ўдзелу ў разглядзе пытання адказнага сакратара Камісіі Наталлю Рыгораўну Аўраменка і сталага сябра Камісіі, доктара навук прафесара Валянціну Пятроўну Лемцюгову. Гэта несумненна паспрыяе канструктыўнаму і станоўчаму вырашэнню пытання на падставе закона, з улікам сучасных тэндэнцый тапанімічнай палітыкі ў краіне і свеце.

З павагай, дарадца кампаніі «За Гавязну»

*В. Дранчук*

**«ЕСЛИ ЭТО ВОЗМОЖНО, БЛАГОСЛОВИТЕ НАРОДНЫХ ИЗБРАННИКОВ НА ДУХОВНЫЙ ПОСТУПОК»**

**Обращение к высокопреосвященству Высокопреосвященнейшему Филарету Митрополиту Минскому и Слуцкому Патриаршему Экзарху Всея Беларуси**

10 июня 2006

Ваше Высокопреосвященство,

позвольте на одну минуту обратить Ваш взор на карту Беларуси: Минская область, Столбцовский район, дорога на Несвиж через Новый Свержень, где в центре местечка слева Свято-Успенская церковь, справа костел Петра и Павла. Благоговейно следуем мимо, и за Новым Свержнем на семнадцатом километре дороги открывается вид на другое местечко – это историческая Говезна (нынешний Вишневец) с уникальной святыней – Свято-Иоанна-Предтеченской церковью. Здесь и сделаем остановку. Спасибо, Ваше Высокопреосвященство.

В чем суть нашей остановки? Ранее, до 1964 года, церковь называлась Говезнянской, а само местечко – исконным топонимом Говезна (письменные упоминания с середины 16 ст.). Переименование Говезны стало следствием так называемой «топонимической революции», когда с исторической карты Беларуси исчезли также названия Могильно, Божадары, Застенки, Гаспода, Фальварак, Загалиха, Чартеж, десятки других.

Прихожане церкви - коренные жители, школа, местные краеведы не смирились с актом вандализма  и в начале 80-х годов начали писать, просить и требовать от властей вернуть старое название, считая это единст-



венно справедливым решением. Не осталась в стороне и церковь. В 1992 году батюшка Серафим высоко отозвался о публикации в районной газете, где шла речь о возвращении Говезны, зачитал ее и подчеркнул, что исконное название местечка – это и церковная реликвия. Потерять ее – значит потерять часть общей памяти, вековой истории храма. Прихожане тут же организовали сбор подписей за Говезну, а те, кто не был в тот день в храме, специально приезжали исполнить долг – собственноручно поставить свою фамилию под петицией.

Однако попытки восстановить утраченное встречали сопротивление со стороны чиновников, особенно местных партийно-хозяйственных руководителей.

14 декабря 2005 года Топонимическая комиссия при Совете Министров Республики Беларусь рассмотрела вопрос и вынесла иной вердикт – поддержать предложение о возвращении исторического названия Говезна. 16 июня 2006 г. сессия депутатов Столбцовского района должна принять, согласно закону, решение на местном уровне: принимается рекомендация Топонимической комиссии или не принимается.

Ваше Высокопреосвященство! Сердечно прошу Вас: если это возможно, благословите народных избранников на духовный поступок - защитить память и драгоценную крупицу национального историко-культурного наследия.

С уважением,
*Валерий Дранчук,*
журналист-эколог, издатель,
выпускник местной восьмилетней школы.

ДА СЕСІІ заставалася колькі тыдняў. Патэлефанавала спадарыня Лемцюгова і зашкадавала, што паехаць не зможа – не тое здароўе, любую дарогу пераносіць з цяжкасцю. Што вельмі спадзяецца на дэпутацкі корпус, які прыслухаецца да разумных довадаў калектыўнага досведу, разам з тым неяк строга перасцерагла: на яе памяці рознае, трэба чакаць усяго. «Але справіцеся, - усміхнулася. - З Вамі едзе адказны сакратар Камісіі. Гэта добра».

Падтрымку выказалі вядомыя землякі - пісьменнікі, паэты, навукоўцы – 12 важкіх подпісаў за Гавязну.

**АДКРЫТЫ ЛІСТ 12-ЦІ: “ПАСТАВІЦЬ ГОДНУЮ КРОПКУ Ў ДЫСКУСІІ ВАКОЛ ГАВЯЗНЫ”**

**Дэпутатам Стаўбцоўскага раённага Савета, старшыні выканаўчага камітэта Радзюку І.А. копія: Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь**

28 траўня 2006

ПАВАЖАНЫЯ ДЭПУТАТЫ!

ПАВАЖАНЫ ІГАР АЛЕГАВІЧ!

Мы ведаем, Тапанімічная камісія пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь вынесла свой вердыкт адносна гістарычнай назвы Гавязна і прапанавала органам мясцовай улады вярнуць вёскам Вішнявец і Навапольцы Стаўбцоўскага раёна іх ранейшую, пазначаную XVI стагоддзем, геаграфічную назву.

Радасная, прыемная вестка. Тапонім Гавязна, бясспрэчна, варты таго, каб застацца жывой часткай геаграфічнага, нацыянальна-культурнага і моўна-лінгвістычнага краявіду раёна. Рашэнне шырока абазнанага калегіяльнага органа, якім з’яўляецца Тапанімічная камісія, засведчыла, з аднаго боку, абгрунтаванае стаўленне карэнных жыхароў да страчанай назвы, а з другога – ДЗЯРЖАЎНЫ ПОГЛЯД, ЯКІ ЦАЛКАМ ПАДЗЯЛЯЕ ГРАМАДСКУЮ ПАЗІЦЫЮ МАРАЛЬНА ЗАКЛАПОЧАНАЙ “МЕНШАСЦІ”. Надзвычай істотна і тое, што гэтую пазіцыю займае мясцовая школа, педагагічная і культурная грамадскасць Стаўбцоўшчыны, а таксама шэраг грамадскіх арганізацый Беларусі, вядомых вучоных і грамадскіх дзеячоў рэспублікі, спецыялістаў акадэмічнай навуковай галіны, знаных экспертаў.

Цяжка ў такім выпадку дабраць аргументаў, каб супрацьстаяць гэтай пазіцыі, менавіта пазіцыі ШКОЛЫ, КУЛЬТУРЫ, НАВУКОВЫХ І ГРАМАДСКІХ ІНСТЫТУТАЎ, НАРЭШЦЕ, ТАПАНІМІЧНАЙ КАМІСІІ ЯК ОРГАНА, ЯКІ КААРДЫНУЕ ПЫТАННІ ТАПАНІМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ ДЗЯРЖАВЫ ЗГОДНА З ДЗЕЮЧЫМ ЗАКАНАДАЎСТВАМ. Спадзяёмся, і ў кожнага з Вас хопіць волі і разумнай перакананасці, каб паставіць годную кропку ў зацягнутай дыскусіі вакол Гавязны. Са свайго боку, МЫ, НАРОДЖАНЫЯ Ў СТАЎБЦОЎСКІМ РАЁНЕ, падпісваючы гэты ліст, не толькі падтрым-



ліваем рашэнне Тапанімічнай камісіі, але бяром на сябе маральную адказнасць за тое, што лічым гэтае рашэнне адзіна правільным і справядлівым.

Дазвольце выказаць і такую думку-прапанову. Тапонім Гавязна, калі ён вернецца на карту раёна, варты таго, каб стаць МЯСЦОВЫМ ГІСТАРЫЧНА-КУЛЬТУРНЫМ ПОМНІКАМ. І ўжо не таму, што гэтую назву згадваў у творах Уладзіслаў Сыракомля, што сядзіба Гавязна значыцца спадарожнікам Нясвіжа, што праз мястэчка шмат разоў праязджаў Якуб Колас, але і таму, што Гавязна вярнулася на свой гасцінец БОЛЬШ ЯК ПРАЗ СОРАК ГАДОЎ ФАРМАЛЬНАЙ АДСУТНАСЦІ, З НЕБЫЦЦЯ (на 2018 праз 54 гады – Аўт.). Прыклад, варты жалю - але і ўхвалы; горычы - але і пашаны; сораму - але і гонару сумлення за акт вяртання.

Просім наш ліст зачытаць падчас абмеркавання пытання і перадаць прысутным найлепшыя пажаданні ад землякоў. Загадзя ўдзячныя,

**Далідовіч Генрых,**
пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі
**Дранчук Валеры,**
журналіст, лаўрэат прэмій Генры Форда, імя Алеся Адамовіча
**Камароўскі Алесь,**
пісьменнік, выдавец
**Камейша Казімір,**
пісьменнік, лаўрэат літаратурных прэмій
**Лапко Канстанцін,**
навуковец, дацэнт Белдзяржуніверсітэта
**Маляўка Мікола,**
пісьменнік, лаўрэат літаратурных прэмій
**Міхно Ігар,**
культуролаг, сябар міжнародных рыцарскіх клубаў
**Мархель Уладзімір,**
навуковец, лаўрэат літаратурных прэмій
**Сахута Яўген,**
навуковец, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі
**Хвалей Яўген,**
пісьменнік, лаўрэат літаратурных прэмій

**Шалькевіч Франц,**
навуковец, дацэнт Белдзяржуніверсітэта
**Явід Пётр,**
географ, старшы выкладчык Белдзяржуніверсітэта

**ГЕНАДЗЬ ІОСІФАВІЧ СУПРАЦЬ. ЛІСТ МАКАВЕЦКІХ**

Крыху смешнаваты, хоць і невясёлы ды скрушны казус перад самай сесіяй. Мне сказалі, што з акадэміі навук на імя старшыні прыйшоў ліст у падтрымку Вішняўца. Маўляў, Гавязна – гэткі пережытак, ледзь не атавізм, і вяртаць гэту назву ніяк не варта. Мяне насцярожыла інфармацыя. Праз нейкі час назвалі і чалавека, які падпісаў ліст. Падпісаў не адзін, разам з братам. Абодва навукоўцы, родам з Гавязны, той, што была Гавязной 1. У прыёмнай Інстытута фізікі, куды я звярнуўся, падказалі тэлефон.

Не мог даць веры, што ліст сапраўдны. Для мяне пытанне Гавязны, яго разуменне даўно стала лакмусавай паперкай на якасць асобы, на інтэлект, культурны складнік. А тут - акадэмічны інстытут!

- Ці магу пачуць Генадзя Іосіфавіча?

- Я слушаю вас.

Называюся земляком з берагоў Гавязнянкі. Прадстаўляюся. Дадаю: журналіст, літаратар. Гавару, вядома, пабеларуску:

- Найперш хачу спытацца, ці дакладна тое, што вы з братам дасылалі на Стаўпецкі райсавет свой ліст адносна Гавязны?

- Так точна! – адрапартаваў Генадзь Іосіфавіч.

- Сумны факт. У такім выпадку, ці мог бы я з Вамі спаткацца?

- А какой смысл?

- Я шмат пішу пра вяртанне Гавязны. Мне цікава паслухаць Вас.

- Да нет, не вижу смысла.

- Якая неласкавасць з Вашага боку...

- Почему Вы сразу обзываетесь? Это моя позиция. Я имею право так думать.

- Здаецца, я нічога дрэннага не сказаў. Як жа я Вас абазваў?

- "Неласкавасць"... Что это – не обзывание?



Далей гаварыць было цяжка. Я пажадаў спадару Генадзю добрага здароўя.

Ліст Макавецкіх, у адрозненне ад нашага Адкрытага ліста "12-ці", на сесіі не зачыталі. Як ні прасіў паказаць, даць пазнаёміцца - не паказалі. На мой погляд, ён уяўляе ўсё ж пэўную цікавасць. І калі б трапіў у рукі, абавязкова змясціў бы яго зараз. Магчыма, яшчэ трапіцца, калі аўтары не забралі яго назад (каб не мець сораму за "атавізмы" ў поглядах).

Перад паседжаннем мне далі слова. Я скарыстаўся гэтай магчымасцю і ўклаўся ў 10 хвілін. Падчас выступу, па ходу, я колькі разоў пытаўся, ці бачылі дэпутаты той пакет з дакументамі. Мне адказвалі маўчаннем.

**"ТРЭБА ВЯРНУЦЬ ЗАБРАНАЕ!"**

***Выступ на сесіі раённага Савета.***

16 чэрвеня 2006

Шаноўныя землякі, дэпутаты! Шаноўны Старшыня!

Сённяшні разгляд пытання адрозніваецца ад таго, што быў два гады таму.

У 2004 годзе, таксама ў чэрвені, пытанне стаяла аб перайменаванні вёскі Вішнявец у былую, гістарычную Гавязну. Я прысутнічаў на гэтай сесіі, выступаў, але было зразумела, што пытанне да разгляду не падрыхтаванае. Як мне падалося, людзі не зарыентаваліся, што і як. Выступілі Бычко і Дзмітрэнка, ім паверылі, і пераважная большасць дэпутатаў прагаласавала за тое, каб Вішнявец пакінуць.

Сёння інакш. Прыканцы мінулага года Тапанімічная камісія пры Савеце міністраў разгледзела пытанне і сваім рашэннем рэкамендавала вярнуць назву Гавязна абодвум населеным пунктам. Менавіта гэты вердыкт Тапанімічнай камісіі і запатрабаваў перагляду пытання на сённяшняй сесіі згодна з законам.

І рашэнне, і рэкамендацыі з заключэннямі экспертаў Тапанамічная камісія накіравала ў райвыканкам яшчэ на пачатку года. Спадзяюся, вы пазнаёміліся з гэтымі матэрыяламі...

Гэта п е р ш а е .

Другое. Я ўважліва прачытаў ліст, накіраваны ў Тапанімічную камісію пасля прынятага ёй рашэння за подпісамі Бычко, Місько і старшыні райсавета Угольніка (як вы ведаеце, на месца Дзмітрэнкі прыйшла Місько). Гэта непрыхаваная спроба апратэставаць рашэнне Камісіі. Я не буду спрачацца са сваімі гарачымі апанентамі, там няма аргументаў. Зраблю, аднак, адно істотнае ўдакладненне па змесце таго ліста, якое датычыць чыстай гісторыі.

"*Деревня Вишневец,* - пішуць аўтары, - *не является правопреемником деревни Говезна".*

Не зразумела, што тут да чаго і навошта. Нейкае дзіўнае ўкідванне інфармацыі. Аўтары, падобна, не ведаюць гісторыі, не ведаюць, паводле якой адміністрацыйнай схемы ўсё будавалася.

Перада мной архіўныя выпіскі:

1870 год. 1886, 1909. Усюды чорным па белым (я цытую): "Слуцкий уезд, Говезнянская волость, волостное управление при православной церкви". Гэта значыць, Гавязна-цэнтр, на той час мястэчка, і побач вёска Гавязна, сённяшнія Навапольцы - спрадвек так было. Воласць на роўні Стаўпецкай, Мірскай, Нясвіжскай і гэтак далей. За два дзясяткі паселішчаў. І адна, і другая Гавязна пазначаныя як "важнейшие поселения Европейской России" (гэта даслоўна).

Пазней, ужо з прыходам Саветаў, калі не стала мястэчкаў, вёска Гавязна пачала называцца Гавязна 1, сённяшнія Навапольцы, а былое мястэчка - Гавязна 2, сённяшні Вішнявец. Правапераемнасць, як бачым, гістарычна празрыстая. Паводле Тапанімічнага слоўніка Жучкевіча 1984 года, Вішнявец акурат і з'яўляецца "правапераемнікам" Гавязны 2, былога мястэчка.

Вось такая даведка. Ліст Бычко і Угольніка, як мне падаецца, уносіць блытаніну на роўным месцы. Аўтары аспрэчваюць экспертаў, адцягваюць увагу ад імі прынятага вердыкта, які, дарэчы, зваротнай сілы не мае. Пытанне рыхтавалася на камісію без малога паўгода. Там памылкі, паверце, няма.



Ітрэцяе. Трэба глянуць у твар гісторыі. Вярнуць забранае. Аднавіць справядлівасць. Паглядзіце, што сёння ў школе? Краязнаўства – верацяно з калаўроткам.



## Спроба апратэставаць рашэнне Тапанімічнай камісіі выглядала на правакацыю з боку Бычко і старшыні райсавета Угольніка



*Эскіз (прапанова) герба Гавязны (да 1964 - Гавязны 1 і Гавязны 2)*

Адносіны адпаведныя. Дзеці не ведаюць гісторыі ні Гавязнянскай царквы, ні гісторыі сваіх земляў – а гэта былі землі Вялікага Княства Літоўскага, слуцкіх князёў, затым Радзівілаў, царква паўстала з клопату нясвіжскіх бенедыктынак. Густая мінуўшчына. На гэтым трэба рабіць патрыётыку, выхоўваць павагу да сваёй блізкай гісторыі, да бацькаўшчыны. Менавіта з Гавязны пачынаючы, там пачатак пачаткаў! А Вішнявец – гэта цацачная прыдумка, не больш. Шкада, што гэта не ўсе бачаць і не ўсе разумеюць.

Апошняе. Тапанімічная камісія ўлічыла думку навуковай, культурнай, педагагічнай грамадскасці, у тым ліку шматлікія просьбы карэнных жыхароў, найперш старэйшых людзей. Пералічваць усё я не буду, паважаючы працэдуру і рэгламент. Але ўлічыць гэта трэба і вам, шаноўныя дэпутаты. Вельмі спадзяюся на ваша станоўчае рашэнне. Дзякуй за ўвагу!

**ААН ЗАГАДАЕ**

**Маналог дзядзькі Алеся**

**(з-пад Перакопаўшчыны-Пагарэлага)**

Жнівень 2006

- Мясцовыя хазяява, князькі тут нашы, ну як рогам уперліся. Во, Гавязна ім, бачыце, вораг. Як нешта забрала ў іх. Гісторыя "да калгасаў" ім ня вучыцель. Яны хаваюцца яе. Баяцца, каб людзі не паразбягаліся. Ды не вярнуліся туды, дзе іх дзяды і прадзеды былі гаспадарамі, а не наёмнай рабочай сілай. Таму за Вішнявец і трымаюцца. А Гавязна – гэта гісторыя, гукні, рэха пойдзе глыбока, як у студні. Калі ня вернуць па-разумнаму,

гэтымі нашымі дэпутатамі, ААН скажа вярнуць. Нікуды ня дзенуцца, паслухаюць... Пішыце, што дзядзька Алесь казаў. З-пад Перакопаўшчыны. Не, з-пад Пагарэлага. А, няма разніцы!

**ГАВЯЗНА – СВЯТА НАШАЙ ГІСТОРЫІ**

**Улётка да вынікаў сесіі райсавета.**

16 - 22 чэрвеня 2006

ГАВЯЗНА – вельмі моцны арэшак для большасці раённых дэпутатаў і мясцовых начальнікаў. Занадта моцны, каб прыняць рашэнне на карысць культурнай і духоўнай спадчыны народа.

Але ёсць зрухі. Гэтую раённую сесію можна назваць чарговай маральнаю перамогай прыхільнікаў Гавязны. Прагучала шмат праўды і доказаў таго, што вяртанне гістарычнай назвы немінучае, і не сёння дык заўтра яно наступіць.

Гэтая праўда ў рашэнні ўрадавай Тапанімічнай камісіі аб вяртанні Гавязны двум населеным пунктам Стаўпецкага раёна – мястэчку і вёсцы, як было спакон веку аж да 1964 года.

Гэтая праўда ў звароце 18 землякоў, ураджэнцаў раёна, у якім яны далі заруку асабістай адказнасці за справядлівасць такога рашэння.

На бок Гавязны стаў і новы старшыня райвыкан-



На вагах часу і гісторыі: план мястэчка 1856 г. і сучасная панарама (дарога Нясвіж - Стоўпцы).







## *Дзецям і ўнукам сказаць: «Гавязна – свята нашай гісторыі, частка вялікай старажытнай Літвы-Беларусі. Любіце і шануйце гэтую назву!»*

кама сп.Радзюк. Ён слушна сказаў пра беражлівыя адносіны да нашай гісторыі і мінуўшчыны. "Без карэнняў - хто мы такія?", - запытаў кіраўнік, ураджэнец Случчыны, можна сказаць, наш зямляк, бо ў 16 ст. тутэйшыя землі належалі слуцкім князям, а пазней Гавязнянская воласць была ў Слуцкім павеце.

Кіраўнік гаспадаркі сп.Бычко зрабіў істотны крок насустрач Гавязне – прапанаваў вярнуць былую назву цяперашнім Навапольцам. Як варыянт часовай развязкі, прапанову можна было галасаваць. Была таксама слушная прапанова дэпутата Ч. Астроўскага (Стоўпцы) - не спяшацца, глыбей вывучыць пытанне і прыняць рашэнне тады, калі большасць будзе падрыхтаваная. Аднак і гэтая прапанова не галасавалася.

Старшыня райсавета Угольнік вёў сесію на "завал" Гавязны, на адмоўны вынік. Ён скамечыў разгорнутую дыскусію і некарэктнымі заявамі падахвоціў дэпутатаў заблакаваць вердыкт Тапанімічнай камісіі.

Што маем на сёння? Мясцовая ўлада пакуль не здольная развязаць гэты вузел, паправіць памылку. Яна прабуксоўвае, кідаецца ў нерашучасці і калі не адумаецца – будзе зганьбаваная сама сабой. Ісці супраць гісторыі, супраць назвы, якая завязалася ў глыбіні часу, супраць просьбаў і прапаноў шырокай публікі, нарэшце, супраць асэнсаванага і ўзважанага рашэння аўтарытэтнага калегіяльнага органа – Тапанімічнай камісіі – як зразумець такое?

Вішнявец – гэта назва, якую прыдумалі і ўзаконілі бяздушныя невукі і за якую сёння змагаюцца хіба што зацятыя іх нашчадкі або сляпыя ахвяры становішча.

Увекавечваць гэтую назву - злачынства.

Што трэба?

Трэба не напальваць адносіны паміж сабой, а мірна паразумецца:



*В. Дранчук. Вялік падходам! Традыцыйны святочны пірог з «касой». Графічная серыя «На бацькаўшчыне». 1995*
*Маючы сваю пякарню, мястэчка славілася выпечкай белых гатункаў хлеба. Яшчэ цёплыя, духмяныя боханы развозіліся фурманкай па вёсках у вялізнай драўлянай скрыні.*

1. Назва паселішча даецца аднойчы – як імя чалавеку. Адно праўдзівае імя ілжэ-вішняўца - ГАВЯЗНА.

2. Гісторыю трэба паважаць, а месца, у якім нарадзіўся, - шанаваць і любіць як маці.

3. Спыніць бязглуздыя "рэферэндумы", прыняць і ўзаконіць рэкамендацыю (рашэнне) урадавай камісіі ад 12 снежня 2005 года.

4. Вярнуць *Гавязнянскую* царкву, *Гавязнянскую* ікону Маці Божай, *Гавязнянскі* кірмаш, *Гавязнянскую* бальніцу (тое, што ад яе засталося), *Гавязнянскую* школу, *Гавязнянскі* сельскі савет і інш. Заснаваць гербавы знак Гавязны, распачаць збор музея гістарычнага мястэчка і яго наваколля.

5. Дома дзецям і ўнукам сказаць: "Гавязна – свята нашай гісторыі, частка вялікай старажытнай Літвы-Беларусі. Любіце і шануйце гэтую назву!"

Шчыра Ваш, *В. Дранчук*



# Пасляслоўе

**Нязломны код Гавязны – Трэба рупіцца! - Калі загаворыць камень? - Баршчэўнік Вішняўца - Больш Беларусі! - Вам, хто сталее духам - Чытайце, рабіце высновы - І ўдзячна азірнуся**

БОЛЬШ ЯК дзесяць гадоў я не вяртаўся да тэмы. Папку, ёмістую, шматаблічную ў сваіх старонкавых "палімпсестах", загарнуў і паклаў на паліцу. То была паўза стомленай хады, перадых пасля зацятых спрэчак і дамаганняў справядлівасці, выпраўлення памылкі. Разам з тым быў і момант маральнага задавальнення: рашэнне Тапанімічнай камісіі не мае зваротнай сілы. Вердыкт, з якім трэба лічыцца і сёння, і заўтра. Мясцовы гонар, нязломны код Гавязны, навуковы, нацыянальна-культурны патэнцыял грамадства далі станоўчы вынік. У гэтым была несумненная перамога. Наша перамога.

Я ведаў, што годам раней ці пазней вярнуся да тэмы. Адгарну папку з матэрыяламі, якія хоць і не маюць ходу назад, але не зрушацца наперад, пакуль ізноў не даць ім пачуццёвай энергіі, не зарадзіць думкай і мэтай - значыць, прыйшоў час рушыць далей, да апошняй кропкі? Я не ведаю, будзе яна пастаўлена гэты раз ці не, але перакананы: рупіцца трэба, спяшацца трэба.

Гады тры-чатыры як у цэнтры Вішняўца, побач з будынкам адміністрацыі, на развілцы дарог – галоўнай, з Нясвіжа на Стоўпцы, і ў напрамку Пагарэлага – паставілі прыгожы вялікі камень, як падаецца, *памятны*, дзеля сваіх і падарожных: глядзі і памятай, зважай і ведай. Аднак надпісу на ім дагэтуль няма. Момант сімвалічны.

Я рады з'яўленню каменя. Як знаку ісціны, калі думаць пра сэнс і сумленную справу. І таксама задаўся



## Веру адной вялікай верай - што назвы мястэчка і вёскі вернуцца на еўрапейскі гасцінец



*Фота 3 лістапада 2018: Камень на ўвекавечанне гісторыі вёскі*

пытаннем: што можа быць на ім, якія словы? Год заснавання? Першыя згадкі ў летапісах? З'яўленне на мапе? Але там няма ніякага Вішняўца. Там ёсць ГАВЯЗНА, якую мусім памятаць і тым ганарыцца. Не так сабе сказала незабыўная даследніца "мовы зямлі", сябар нашай ініцыятывы прафесарка Валянціна Лемцюгова: "Гавязна знаходзіцца ў зоне перспектыўнага турызму. І дэманстраваць старажытнасці матэрыяльнай культуры на фоне сцёртых помнікаў духоўнай культуры нікуды не варта".

Ведаю людзей, якія доўга шукалі гэты камень. Але шукалі і словы, каб напісаць іх на цвёрдай старонцы. Адказныя людзі. Магчыма, у пошуку "слоў" мы зразумеем, што камень гэты прывезены з краявіду на ўвекавечанне гісторыі і годнасці, што без адвечнага знаку - назвы гэтай зямлі - ён бязмоўны. Прыйдзем нарэшце да ісціны, з той



мудрай падказкі мясцовых айцоў: «Бо што такое назва? Гэта корань мясцовасці. Пачатак нашых пачаткаў”. Магчыма, і напісаць так, як ёсць: “Гавязна. Пачатак нашых пачаткаў…”.

Станам багавейлівай памяці і светлага смутку назваў бы я дні і гадзіны збірання гэтае кнігі як своеасаблівага дзённіка. Не так напісанага, як сабранага з напісанага раней. Хада часу няўмольна сцірае сляды нашых памкненняў, аддаленыя хронікі падзей робяцца невыразнымі, часам незапатрабаванымі. Ратуюць захаваныя рукапісы-палімпсесты, якія пад пэўным вуглом зроку робяцца і выразнымі, і запатрабавана-неабходнымі.

Колькі чаго давялося ўспомніць! Якія імёны, якія вобразы, якая светлая людская рака! Вось ён – код Гавязны. Сотні гадоў таму бенедыктынкі не толькі скарысталіся скарбамі, дараванымі ім Радзвілаўскай фундацыяй, але пакінулі на гэтай зямлі зярняты сваёй школы, што несумненна ўзбагаціла будучыя ўсходы. Колас Гавязны буяў на ўсю моц і красу, манашкі былі ў захапленні ад назвы і вымаўлялі кожны яе склад з асаблівай пяшчотай, рабілі чамусьці акцэнт на апошнія тры літары: HoveZNA. Баршчэўнік Вішняўца яшчэ ані не пагражаў экспансіяй з далёкага мора…

Веру адной верай – продкаў і дзядоў-прадзедаў – што назвы мястэчка і вёскі вернуцца на еўрапейскі гасцінец. Можа, яшчэ таму ў гэта веру, што дзесяць-пятнаццаць апошніх гадоў зрабілі нас іншымі. Дзякуй Богу, не такімі абыякавымі да жыцця, як можа падацца. Больш патрыётыкі, больш Беларусі, больш шкадавання аб згубленым, больш гонару за мінулае, больш чалавечай шчырасці і разумення. Хай сабе - больш тэарэтычна, чым практычна.

“Мы ўжо старыя людзі, і разумеем, што пасля нас не будзе каму…” – рэхам даносяцца словы. Яшчэ не адтуль, дзе канчаюцца нашы зямныя дарогі. Яшчэ ў пажоўклым восеньскім садзе, поўным спелых чырвоных яблык. Я слухаю скрушны, раздумліва-звонкі голас паважанай Мікалаеўкі, Яўгеніі Платун, маёй настаўніцы і старэйшай сяброўкі… светлая памяць! Словы мудрай перасцярогі, а

ўслухаешся – і надзеі... Адрасую іх тым, хто сёння сталее, набіраецца розуму, мацнее духам.

Пакаленні, што нарадзіліся ў Вішняўцы, не павінны застацца закладнікамі памылкі, падмены і фейку, нівеляванне мінулага і супрацьстаянне гісторыі. Клопат апошніх гадоў, які хай і не даў пакуль канчатковага выніку, - ці не жывы найлепшы прыклад для іх? Імёны і дакументы, думкі і дзеянні, заявы і водгукі, што выкладзеныя тут, - своеасаблівая справаздача перад будучыняй: чытайце, рабіце высновы, не будзьце староннімі.

Скажу адмыслова для тых, хто любіць гаспадарчы разлік, хто справу Гавязны пераводзіць у практычную плашчыню. Несумненна, вяртанне сваёй гісторыі, адзінапраўдзівай гістарычнай назвы - удалы, як сёння кажуць, маркетынгавы ход, ён будзе спрыяць эканамічнаму росту. Не толькі таму, што да клопатаў пра ўраджайную ніву можна спраўна далучаць турыстычны бізнес, сыпаць у сусекі з гістарычных палеткаў, развіваць краязнаўства, - не толькі таму. Спрыянне найперш у іншым. Памятаеце, што сказала настаўніца на Круглым стале? - лёс бязродных, як і бяздомных, куды цяжэйшы, чым мы думаем...

Мне боязна і вусцішна азірнуцца. Там, на дарозе жыцця і нашага клопату я не ўбачу ўжо дзясяткаў людзей, дарагіх майму сэрцу. Але я ўдзячна азіраюся. І раблю крок наперад, на ўдачу, дзеля іх памяці і памяці пакаленняў.

Сплыве ўсё наноснае, адкінецца шалупінне. Застанецца гісторыя. Чыстая гісторыя. І тады ўспомнім пра камень на вясковай развілцы.

**PS**. ТЭМУ ГАВЯЗНЫ я маю намер працягваць. Найперш яе архіўны, гістарычны кірунак. Шмат чаго ляжыць і чакае сваіх даследаванняў - дотыку нашай памяці, зацікаўленай думкі, гіпотэзы, хронікі. Спадзяюся, наступнае выданне кнігі будзе істотна і годна дапоўнена не толькі фактамі даўніны, але і сведчаннямі жывой сучаснасці, людскіх стасункаў, нашай агульначалавечай духоўнасці.





# 2

*Ой рэчанька, рэчанька,*
*Чаму ж ты няпоўная...*

*Беларуская*
*народная песня*

## Гавязнянка хоча жыць!

**СПЫНІЦЕ «ТРЭЦЮЮ МЕЛІЯРАЦЫЮ» ГАВЯЗНЯНКІ, ПАКІНЬЦЕ РЭЧЦЫ ШАНЕЦ АДРАДЗІЦЦА!**

**Петыцыя на грамадскай інтэрнет-платформе Change.org. Падпісалася 397 удзельнікаў. Аўтар петыцыі В. Дранчук. Пераклад з рускай мовы. Арыгінал для пошуку : «Остановите третью мелиорацию Гавязнянки, оставьте речке шанс на возрождение!»**

28 кастрычніка 2017

Больш за дзесяць гадоў я выдаваў газету «Белавежская пушча», спрабуючы спыніць махавік лесанарыхтовак у запаведных кварталах Сусветнай прыроднай спадчыны. Сёння маё месца на берагах Гавязнянкі, ціхай рачулкі ў даліне Нёмана, яго прытоку ў Стаўпецкім і Нясвіжскім раёнах Мінскай вобласці.

Чаму я сёння тут? Над Гавязнянкай, несувымернай сваім статусам малой рэчкі, занесена тая ж, не менш жорсткая пагроза прыродазнішчальнай ”гаспадарчай дзейнасці”.

*Фота 23 ліпеня 2017: На галоўным рэчышчы Гавязнянкі (12-ты км ад вытоку) «рэстаўратары» меліярацыйнай сістэмы спускаюць ваду з берагоў; паказальна, што за паўвека (з 1966) рэчка выдатна рэнатуралізавалася і выйшла з глыбокага магілападобнага канала, пачала характэрна пятляць. Белае пяро скінула чапля, якая апошнія гады не пакідала гэтую мясціну.*



Калі вучыўся ў Мінску, напісаў трохрадкоўе і назваў яго паэмай дзяцінства.

*Коўш экскаватарны нада мной,*
*зматваю вудачкі -*
*меліярацыя.*

Гэта было ўспамінам балючых 60-х. І вось цяпер, на схіле майго веку, зноў загадваюць «зматваць вудачкі», забыцца на тое, што ёсць рака. Хай пакалечаная, змардаваная, цалкам каналізаваная, але ад гэтага не менш дарагая. Жывая і здольная адрадзіцца.

Мне зноў кажуць «Прэч!»

Мясцовыя жыхары, як і я, убачылі, што нічога не змянілася, меліярацыя зноў напаўзае на нашу зямлю, на тыя ж берагі, каб агаліць, прыдушыць, асушыць, пакінуць чорны след нежывой геаметрыі. Яшчэ – адмыць грошы на слязах Гавязнянкі. Вось радкі з іх Звароту да органаў выканаўчай улады, чэрвень 2016:

*«На працягу паловы стагоддзя розумам трох пакаленняў было ўвачавідкі засведчана, што асушэнне балотных участкаў і поўнае спрамленне Гавязнянкі нічога, акрамя шкоды, не дало. Былі патрачаны вялізныя сродкі, скалечана жывая рака з непаўторнымі краявідамі, загублены сотні крынічак, зведзены флора і фауна, у тым ліку іхтыяфауна (запасы рыбы), а ў бліжэйшых сельскіх дварах абмялелі і перасохлі калодзезі. Здавалася б, навошта паўтараць горкі вопыт. Ці паддаецца гэта сэнсу і розуму? Спытай у вяскоўца: што ўрэшце будзе? І ён адкажа: Сахара будзе!*

*Зусім відавочна: спусташэнне нашых біялагічных запасаў, асабліва вады і жыццёва неабходнай вільгаці, натуральных дрэва-кустарных пасадак, кучаравай расліннасці зніжае ўстойлівасць тэрыторый, пагражае катаклізмамі і катастрофай. На двары «глабальнае пацяпленне», збядненне прыродных багаццяў, экалагічны крызіс, наступствы Чарнобыля і хімічнай вайны, а нам падстаўляюць гэткі бадзёры водазнішчальны «бізнес-праект»: каціся, вада, безупынку - да самага-самага мора!»*

За апошнія 25 гадоў пасля другой асушальнай меліярацыі (не такой татальнай, як першая) адбыліся



## *«Гавязнянку ніхто не адмяняў. Яна застаецца ў нацыянальным рэестры беларускіх блакітных артэрый»*

прыкметныя змены рэчышча і поймы Гавязнянкі. Замацавалася вада, аднавілася забалочанасць там, дзе была і раней, падняўся ўласцівы рэкам хваёва-лісцевы лесаўтваральны зялёны шчыт. Дзякуючы бабровым плацінам, утварыліся беспрэцэдэнтныя аэрацыйныя (паветраабменныя, ачышчальныя) збудаванні, рэчка пачала пятляць, вяртацца да сваіх натуральных формаў, нікому і нічым не пагражаючы.

Менавіта гэтая, прыроданапаўняльная перспектыва нас задавальняе больш за ўсё, канстатавалі аўтары Звароту.

Сваімі подпісамі, заяўлялі яны, мы асуджаем практыку неабгрунтаванага ўмяшання ў прыродныя працэсы і патрабуем ад выканаўчай улады спыніць марнатраўства народных сродкаў, даць рацэ адрадзіцца пасля катастрафічных эксперыментаў.

Пад Зваротам падпісаліся дзясяткі нераўнадушных. З Перакопаўшчыны і Вішняўца, Ахрэмавіч і Петухоўшчыны, Вязаўца і Старых Навасёлак. На жаль, так ёсць - аркушы з подпісамі людзей чыноўнікі не бяруць у рукі, не разглядаюць як юрыдычны дакумент. Ён нічога для іх не значыць, каб лічыцца з думкай людзей.

Гавязнянку ніхто не адмяняў. Гэта трэба добра запомніць. Яна застаецца ў нацыянальным рэестры беларускіх блакітных артэрый (гл. «Блакітная кніга. Энцыклапедыя», Мінск, 1994). Бяздушныя маніпуляцыі паняццямі, кшталту «водапрыёмнік», «меліярацыйная сістэма», «будаўнічы праект» - наўзамен такіх як «рака», «рэчышча», «пойма» - застануцца дыягназам хворай галавы і тэхнагеннай аблуды.

Сёння Гавязнянка па-свойму стэндавае месца, як паказальны і дэструктыўны прэцэдэнт антрапагеннага бяздумнага ўмяшання. Мы бачым у дэталях, ШТО адбываецца. У цэлым гэта поўны неадэкват, які ўражвае.





*Фота 1 жніўня 2017: «Рэканструкцыя» каналаў у пойме Гавязнянкі.*

Стратэгія неадэквата: канчаткова ЗАБІЦЬ РЭЧКУ. Не пакінуць нічога. І затым заараць. Каб ніякага рэчышча, берагоў, поймы, даліны, прыбярэжнай ахоўнай зоны, сялібішчаў дзікіх жывёл, месцаў рэдкіх раслін, нярэдка чырвонакніжных – з плаўным пераходам у тактыку.

Будаўніцтва каналаў – зусім не ачышчэнне ад пустазёлу, як дэкларуюць капальнікі, а іх паглыбленне і спусташэнне рэчышча. Там, дзе былі дрэвы, кустоўе, багацце травы і кветак, зёлкавай флоры, - наўзвоч эфект уніфармізма і апустэльвання. (Заўважу, людзей заганяюць у дэпрэсію і роспач; месцамі каналы, у дватры чалавечыя росты, даходзяць да самай дарогі, літаральна ўсутычкі – становішча не толькі сумнае, але і небяспечнае).

Ідзе ні з чым не параўнальная, татальная аблава на баброў як галоўных працўнікаў і ворагаў нястомных стратэгаў. Не сакрэт, менавіта бабры аднаўляюць малыя рэкі, не кідаючы на вецер каласальныя бюджэтныя інвестыцыі, і бедалагам-каналакапальнікам нічога не застаецца, як выводзіць супраць іх каўшова-гусенічную армаду, адкрываць «шырокі фронт» работы за народныя грошы, ратаваць сваю пачварную рэпутацыю.

Стоячы на гэтым стэндавым месцы, лёгка пераканацца, што адбываецца не толькі на гэтых берагах, але

па ўсёй Беларусі, практычна на ўсіх малых рэках, што падзялілі лёс Гавязнянкі.

Нашэсце і невуцтва. Што да навукі - як казалі нашы дзяды, тут і конь не валяўся. Яна спраўна заменена «навукай» ад… меліярацыі, наборам замшэлых паняццяў, дзе няма месца прыродным каштоўнасцям. Паняцці дэпрэсіўнага уніфармізма і апустэльвання або, насуперак, біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці як найважнейшага генетычнага рэсурсу, натуральных прыбярэжных краявідаў з іх патэнцыялам адукацыйна-выхаваўчага, рэкрэацыйна-турыстычнага значэння (што выразна прапісана ў міжнародных Канвенцыях, якія падпісала Беларусь) – нават не абмяркоўваюцца.

Гэта на пачатку 90-х сам акадэмік Скарапанаў, вучоны ў галіне земляробства і меліярацыі, мог урэшце прызнаць, што «меліярацыя – справа стратная», што народныя сродкі, аддадзеныя галіне, не вярнуліся народу дадатковымі прадуктамі - «там, дзе ўкладвалася сто мільёнаў рублёў, аддача – сорак мільёнаў» (часопіс «Родная прырода», 1991, №10).

Што застаецца?

У тым выпадку, калі «рэканструкцыя меліярацыйнай сістэмы» Гавязнянкі дойдзе да самага вытоку, захапіўшы 7-8 кіламетраў вярхоўя ракі (сёння «рэканструкцыя» прыкладна на сярэдзіне), людзі ўбачаць і зразумеюць, што гэта канец, што на рэчцы ставяць тоўсты крыж… Да апошняга, на працягу некалькіх месяцаў, як мог, я пераконваў чыноўнікаў не рабіць гэтага, спыніць «будаўніцтва», не забіваць вярхоўе, змяніць праект – даць рацэ шанец. Спадзяваўся на водгук і разуменне. Аднак у адказ атрымаў кучу бяздушных адпісак, у якіх пераважаў адзін і той жа матыў: маўляў, сёння іншыя прыярытэты – кармы і пашы, харчова-прадуктовая бяспека, вытворчасць малака і мяса.

І наадварот - калі капальнікі спыняць сваю жорсткую і бессардэчную справу хоць тут, на 18-м кіламетры з 24-х, калі пашкадуюць аб учыненым і не настояць на бязлітасным забойстве надзеі, шанец застанецца, рака





***«Стоячы тут, на беразе Гавязнянкі, лёгка пераканацца, што адбываецца па ўсёй Беларусі, на ўсіх малых рэках бацькаўшчыны-Айчыны»***

яшчэ здольная адрадзіцца. Няхай не год і не два, але час будзе працаваць на яе.

Акурат месяц, як я прайшоў берагам Гавязнянкі да вытоку і назад і бяру на сябе адказнасць за свае словы: Гавязнянка будзе жыць, калі **не чапаць – паўтараю – хоць бы гэтую апошнюю, малую частку рэчышча ўлучна з поймай, не асушаючы яе.** Не ведаю, галава гэта ці сэрца, але я адчуў у іх пульс жыцця.

Пяць-шэсць кіламетраў – гэта ўсё, што застаецца ў нас, сябры, каб дапамагчы ўратаваць Гавязнянку.

ПАДПІШЫЦЕ ПЕТЫЦЫЮ!




*Фота 8 жніўня 2018: Усталяванне прыдарожнага паказальніка з надпісам «р. ГАВЯЗНЯНКА» за вёскай Старыя Навасёлкі Нясвіжскага раёна. На прапанову грамадскай ініцыятывы «Гавязнянка хоча жыць» адгукнулася ДЭУ -65 у Нясвіжы (дырэктар В. Ф. Мінкевіч). Старэйшыя жыхары вёскі прызналіся, што не памятаюць, каб такі паказальнік калі-небудзь стаяў. А выбарачная апытанка мясцовых школьнікаў паказала, што назву рачулкі ніхто з іх не чуў і не ведае.*

**РЭЧКУ ДАБІВАЮЦЬ ПАД "ДЗЯРЖЗАКАЗ"**

**Аб'яднанне "Мінскмеліяводгас",**
**Карповічу М.М.**
11 ліпеня 2016

Шаноўны Мікалай Мікалаевіч!

Накіроўваю Калектыўны ліст-зварот жыхароў населеных пунктаў, якія размешчаны на беразе рэчкі Гавязнянкі (прыток Нёмана, 24 км, Нясвіжскі і Стаўбцоўскі раёны). Вам добра вядома, што тут пачалася т. зв. рэканструкцыя меліясістэмы, праведзены работы каля вёсак Паласня, Перакопаўшчына, Крамец, Зарэчча. Людзі зразумелі, што за паўвека нічога не змянілася. Рэчку, практычна знішчаную падчас першай асушальнай меліярацыі (спрамленую ад вытока да вусця), збіраюцца пад "дзяржзаказ" канчаткова знішчыць… Пра гэта і напісана ў Калектыўным звароце.

Звяртаю Вашу ўвагу, што яшчэ нядаўна ў пойме Гавязнянкі пад асаблівай аховай знаходзіўся помнік прыроды "Хутар Гавязна", дзе адрадзіўся белакапытнік гібрыдны лекавы, які ў 70-я гады быў занесены ў Чырвоную кнігу. Тут на працягу апошніх 15 гадоў праводзіліся міжраённыя дзіцячыя экалагічныя пленэры "Маляўнічая Бацькаўшчына", дзейнічала Летняя школа экалагічнай журналістыкі. Гэтая, цэнтральная частка Гавязнянкі (ваколіцы вёсак Вішнявец і Ахрэмавічы, Стаўбцоўскі раён) значна абводнілася, біялагічна адрадзілася, забалацілася, бо заўсёды была на крыніцах. Яе, гэтую частку, як галоўны рэзервуар, як "генетычную" водарэсурсную прыродную нішу – катэгарычна нельга чапаць, а варта захаваць і асабліва ахоўваць.

Патрабуючы спыніць гвалт, людзі дамагаюцца ашчаднасці і кампрамісу. Іх патрабаванні грунтуюцца на каштоўнасцях і прынцыпах сучаснай экалагічнай палітыкі, такіх як павага да прыроды, ахова навакольнага асяроддзя, біялагічная і ландшафтная разнастайнасць, устойлівасць развіцця і інш. Збіраюцца подпісы, на сённяшні дзень 34, усе разам я давязу і перадам уласнаручна.

Прашу з увагай разгледзець ліст і не дапусціць гаспадарчага гвалту. Загадзя ўдзячны.

*В. Дранчук,* ураджэнец мясцін, журналіст-эколаг.





*Фота 26 чэрвеня 2016: У Яніны Рамановіч даўнія рахункі з мэліяратарамі. «Былі крыніцы, рэчка, луг — усё было!.. Я пры самай Гавязнянцы жыла, нарадзілася тут, як цяпер гэта помню. А дзе яно, куды падзелася?..» Спадарыня Яніна прыгадвае нават рачулку, што з-пад самае Кунасы пятляючы бегла, каб напоўніць берагі Гавязнянкі. І знаку даўно няма!..*

*Падчас інтэрв'ю Белсату. Вёска Пагарэлае, Стаўпецкі раён.*

**КАЛЕКТЫЎНЫ ЛІСТ-ЗВАРОТ ДА ВЫКАНАЎЧАЙ УЛАДЫ**

**Мы, жыхары навакольных вёсак - Пагарэлае, Перакопаўшчына, Крамец, Зарэчча, Навапольцы, Вішнявец, Ахрэмавічы, Вязавец Стаўбцоўскага, а таксама вёсак Петухоўшчына, Старыя і Новыя Навасёлкі Нясвіжскага раёнаў – выказваем нязгоду і пратэст у сувязі з аднаўленнем асушальна-меліярацыйных работ у рэчышчы і пойме рэчкі Гавязнянкі.**

На працягу цэлага паўстагоддзя вопытам трох пакаленняў мясцовых жыхароў было шматразова засведчана, што асушэнне балотных участкаў і поўнае спрамленне рэчкі нічога, апроч шкоды, не прынеслі, толькі наадварот: былі патрачаны велізарныя сродкі, панішчана жывая рэчка з непаўторным хараством прыбярэжных мясцін, загублены дзясяткі крыніц і крынічак, якія жывілі рачную хвалю і неслі ў Нёман сцюдзёна-чыстую бруістую ваду, збяднелі флора і фаўна, у тым ліку іхтыяфаўна

(запасы рыбы), а ў прылеглых вясковых дварах абмялелі і перасохлі калодзежы.

Гэта было спусташэнне прыроды і навакольнага асяроддзя. У любога ўдумлівага чалавека спытай – і тады, і цяпер, ці варта было гэта рабіць у нашым тутэйшым краі, на нашай зямлі, - ён, не задумаўшыся, скажа: "Не, не варта!"

А спытай сёння, навошта распачалі "другую" і "трэцюю" меліярацыю з тымі самымі наступствамі, што і паўстагоддзя назад, - і ніхто не скажа, бо гэта розуму не паддаецца.

Спытай у разумнага чалавека: "Што з гэтага будзе?", ён скажа: "Сахара будзе!". Бо відавочна і ўсім добра вядома - знішчэнне нашых біялагічных запасаў, першнаперш, вады і жыццяноснай вільгаці, зялёных лазнякоў і альшанікаў зніжае ўстойлівасць прылеглай тэрыторыі, пагражае катастрофай і катаклізмамі. На двары "глабальнае пацяпленне", зьбядненне прыродных багаццяў, экалагічны крызіс, наступствы Чарнобыля і хімічнай вайны, а тут нам падстаўляюць гэткі бадзёры водазнішчальны праект - каціся, вада, безупынку - да самага-самага мора!

За апошнія 10-15 гадоў адбыліся значныя змены ў рэчышчы і пойме Гавязнянкі. Замацавалася вада, аднавілася забалочанне там, дзе яно адвеку было, падняўся зялёны хвойна-лісцёвы шчыт. Дзякуючы бабрам, утварыліся своеасаблівыя аэрацыйныя збудаванні, рэчка месцамі пачала пятляць, набываючы ранейшую форму. Эколагі называюць гэта аднаўленнем экалагічнай раўнавагі, і менавіта гэты, прыроданапаўняльны экалагічны напрамак нас цалкам задавальняе, нічым не пагражаючы.

**СВАІМІ ПОДПІСАМІ пад гэтым зваротам мы асуджаем практыку неабгрунтаванага ўмяшання ў адвечныя прыродныя працэсы і патрабуем ад выканаўчай улады спыніць марнатраўства народных сродкаў, а зноў распачатыя гвалтоўныя дзеянні на тэрыторыі нашага пражывання прызнаць памылковымі і шкоднымі, даць рачулцы самой узнавіцца пасля катастрафічнай "каналізацыі" і знішчэння ў пачатку 60-х гадоў, акрыяць і вярнуць свае скарбы людзям.**

25 чэрвеня 2016



ПЕРШЫМІ паставілі подпісы пад зваротам *Іван Баярын, Сяргей Антончык, Надзея Кандрахова* з Перакопаўшчыны, *Ірына Дзявойна* з Навапольцаў, *Алена Сяржант, Ала Шчука, Яўген Чалых* з Вішняўца, *Міхаіл Вярцейка, Іван Івашка, Тадэвуш Дзявойна* з Вязаўца, *Тамара Сасноўская, Ядвіга Шавела, Іван Кохан* з Ахрэмавіч, *Казімір Урбан, Ядвіга Богдан* з Петухоўшчыны, *Георгій Салавей, Анатоль Валявач, Валянціна Яцэвіч* са Старых Навасёлак. Да іх далучыліся дзясяткі аднавяскоўцаў.

Белсатаўцы *Вольга Чайчыц* і *Андрусь Козел* падрыхтавалі некалькі перадач-рэпартажаў з берагоў Гавязнянкі. Удзел бралі **Георгій Салавей**, **Іван Дзявойна**, **Сяргей Антончык, Яніна Рамановіч** і **Надзея Кандрахова**. Іх выказванні дапаўнялі зварот, надавалі пытанню сацыяльнай вастрыні, вагі і надзённасці, тым больш, што і заказчыкі, і выканаўцы-падрадчыкі праігнаравалі працэдуру грамадскіх слуханняў, што з"яўляецца абавязковай умовай такіх маштабных і непрадказальных для прыроды праектаў. Тым самым наўзвоч прымяншалася месца чалавека на сваёй зямлі - яго не бралі ў разлік, з ім не раіліся, яго абмежавалі прысядзібнай гаспадаркай і аўталаўкай з Еўраопта (у лепшым выпадку).

Ліст жыхароў надрукавала газета «СН плюс». Пазней падборка публікацый на абарону Гавязнянкі з"явілася і на старонках «Народнай волі».

Тым часам 9 жніўня 2016 Зварот быў перададзены ў раённую пракуратуру ў Стоўпцах. Спраўдзіць законнасць дзеянняў на Гавязнянцы (у яе стаўпецкай частцы), аб чым я выразна прасіў пракуратуру, тут не палічылі за свой абавязак, спраўна перакінулі ліст жыхароў у райінспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя (як да ладу кожнае слоўца, ці не праўда?), аднак праз месяц з прыродаахоўнай раённай структуры прыйшоў адказ, што... «факты не пацвердзіліся».

Нічога дзіўнага. Гавязнянку здалі на разарванне менавіта тут, у раёне, і вырашальным подпісам пад паперамі аб адвядзенні зямлі пад прыродазнішчальны, нерэнтабельны і карупцыйны вытворчы праект - «у пойме ракі Гавязнянкі» - быў подпіс начальніка райінспекцыі. Ён, дакладна, не чакаў супраціву і гэтага пратэстнага ліста.

**ВЯРНІЦЕ РЭЧЦЫ ШАНЕЦ ЖЫЦЬ!**

**Аб прыпыненні прыродазнішчальных і неабгрунтаваных дзеянняў на аб"екце рэканструкцыі меліярацыйнай сістэмы ў Стаўбцоўскім і Нясвіжскім раёнах.**

**Ліст у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя**

27 ліпеня 2017

Некалькі дзён таму быў зроблены наш сумесны грамадскі і дэпутацкі рэйд на аб'ект "рэканструкцыі" меліярацыйнай сістэмы ў пойме рэчкі Гавязнянкі, левага прытоку Нёмана (24 км, Нясвіжскі і Стаўбцоўскі раёны).

Гэтае наведанне мела свае падставы. Пасля перапынку на Гавязнянку зноў прыйшла меліярацыйная тэхніка, мясцовыя жыхары пачалі дазнавацца пра пагражальныя планы распачатай "трэцяй меліярацыі".

Сёння, на 4-м дзесяцігоддзі пасля "другой" (80-я гады; "першая" была закончана ў 1969-м) рэчка дала рады часткова ўзнавіцца, па ўсім рэчышчы засяліліся бабры (каскаднае будаўніцтва плацін), узняліся цэлыя ўрочышчы і лесаўтваральныя арэалы, фруктова-ягадныя дрэвы, кусты. У асобных нішах пойменных тэрыторый заўважаны зайцы, казулі, лісы, ласі, з птушак – белая і шэрая чаплі, балотны шуляк, чырвонакніжныя расліны.

Асабліва біялагічна напоўненым з'яўляецца ўчастак Гавязнянкі ад вёскі Навапольцы да вёскі Петухоўшчына (на памежжы двух раёнаў, Стаўбцоўскага і Нясвіжскага) – прыкладна 2,5 – 3 км рэчышча або 25 - 30 гектараў з поймай.

Апошнія дні засведчаны факты грубага ўмяшання ў прыроду. Ідзе несумяшчальнае з гуманнымі адносінамі разбурэнне бабровых сялібішчаў, птушыных гнёздаў, прыбярэжнай зоны – флоры, дрэў і кустоўя. І гэта адбываецца ў час буяння прыроды, на вачах жыхароў, у тым ліку дзяцей. Ёсць таксама сведчанні папярэдняй зачысткі – масавага адстрэлу бабра.

Год назад у аб'яднанне "Мінскмеліявадгас" быў накіраваны Калектыўны зварот жыхароў населеных пунктаў, што размешчаны на беразе рэчкі. На той час былі праведзены работы каля вёсак Паласня, Перакопаў-



шчына, Крамец, Зарэчча (Стаўбцоўскі раён), і людзі ўбачылі, што больш як за паўвека нічога не змянілася ў практыцы прыродакарыстання, рэчку хочуць канчаткова даканаць за народныя грошы пад дзяржзаказ (ліст-зварот прыкладаецца разам з подпісамі).

**Наш сумесны рэйд паказаў, што ўсё напісанае год таму ад першай да апошняй кропкі застаецца актуальным і сёння.**

Будаўніцтва, якое зараз вядзецца ў Стаўбцоўскім раёне (ААТ Вішнявецкі-агра), неадэкватнае здароваму сэнсу і патрабуе самай пільнай увагі дзяржаўных кантралюючых органаў. Мала таго, што брутальна губім, нішчым прыроду свайго краю (гэта відавочна і гэта найперш, бо маем справу з АБ'ЕКТАМ ПРЫРОДЫ, рэнатуралізацыяй асяроддзя), - мы пускаем вялікія дзяржаўныя сродкі на няведама што. Нават замякка сказаць "неабгрунтаваная меліярацыя" – гэта выглядае на меліярацыйнае лобі пад інтарэсы пэўнай групы людзей, што цягне на прыкметы карупцыі.

Грамадскасць, выбаршчыкі Стаўбцоўскай акругі, якія звярнуліся ў аб'яднанне "Мінскмеліяводгас" (генеральны дырэктар М.М.Карповіч), як і год таму, настойваюць на спыненні т. зв. рэканструкцыі, па-ранейшаму хочуць ведаць, з якіх патрэб паўстала вострая неабходнасць "трэцяй меліярацыі" Гавязнянкі, якія яе далейшыя планы, колькі каштуюць/каштавалі работы (у тым ліку праектныя), які тэрмін іх акупнасці. Гэтыя пытанні стаяць асобна ад першачарговага патрабавання – СПЫНІЦЬ НЕАБГРУНТАВАНУЮ МЕЛІЯРАЦЫЮ як марнатраўства прыродных рэсурсаў і дзяржаўных грошай, але патрабуюць БЕЗУМОЎНАГА ДАЛЕЙШАГА АДКАЗУ аўтараў праекта перад грамадскасцю, найлепей, як таго патрабуе



***«Замякка сказаць "неабгрунтаваная меліярацыя" – гэта выглядае на меліярацыйнае лобі пад інтарэсы пэўнай групы людзей, што цягне на прыкметы карупцыі»***

закон, грамадскіх слуханняў з захаваннем усёй адпаведнай працэдуры абмеркавання і прыняцця рашэння.

Патрабуючы спыніць ПЛАНАВАНЫ гвалт, людзі дамагаюцца ад улады перш-наперш беражлівасці і ашчаднасці. Але іх патрабаванні грунтуюцца і на каштоўнасцях і прынцыпах сучаснай экалагічнай палітыкі, такіх як **павага да прыроды, ахова навакольнага асяроддзя, біялагічная і ландшафтная разнастайнасць, устойлівасць развіцця** ды інш.

Мы цалкам падзяляем такі падыход і гэтыя патрабаванні, ставім перад ініцыятарамі "трэцяй меліярацыі" тыя ж самыя пытанні.

Зараз, калі мы пішам гэты ліст, у Фэйсбуку на нашых старонках ідзе актыўнае абмеркаванне сітуацыі на Гавязнянцы. Розныя людзі выказваюць не толькі свой знак падтрымкі, горычы і абурэння, але актыўна дзеляцца нашай публікацыяй сярод сваіх сяброў. Гэта паказчык грамадзянскага водгуку і чулых адносін да прыроднага наваколля.

Разам з тым, мы робім сустрэчную прапанову адпаведным органам улады, якія ў стане прымаць рашэнні. З аднаго боку, мы прапануем унесці неадкладныя карэктывы ў праект – спыніць на астатнім адрэзку рэчышча (ад вёскі Вішнявец - да вытоку) асушэнне і біялагічнае спусташэнне Гавязнянкі, пакінуць рэчку і яе пойму ў ранейшым рэжыме "прыродакарыстання", прывесці ў парадак і годны стан масты і пераходы (большасць з іх аварыйныя); з другога боку, ажыццявіць наступны крок – накласці мараторый на т.зв. "рэканструкцыю", зрабіць пойму Гавязнянкі ў раёне вёсак Вішнявец, Ахрэмавічы, Петухоўшчына зонай экалагічнага турызму і выхавання, рыбалкі і актыўнага адпачынку. Магчыма, асобныя тэрыторыі, якія інтэнсіўна зарастаюць лесам, **перадаць мясцовым лясным гаспадаркам, дзе можна развіваць альтэрнатыўныя віды гаспадарання – пчалярства, збор лекавых траў, рыбагадоўлю,** інш.

Дарэчы прыгадаць, што яшчэ нядаўна ў пойме Гавязнянкі пад асаблівай аховай знаходзіўся помнік прыроды, дзе адрадзіўся белакапытнік гібрыдны лекавы, які ў 70-я гады трапіў у Чырвоную кнігу. Тут штогадова





*Фота 29 жніўня 2017: Запэўніцца ў неадэкватных дзеяннях на аб"екце «рэканструкцыі меліярацыйнай сістэмы» ў пойме Гавязнянкі я запрасіў дэпутата парламента па Стаўпецкай акрузе Алену Анісім (згодна з яе перадвыбарнымі дэкларацыямі). Планавалася вынесці на парламенцкі ўзровень пытанне неабгрунтаванай/стратнай меліярацыі і адмывання бюджэтных выдаткаў...*

праводзіліся дзіцячыя экалагічныя пленэры "Маляўнічая Бацькаўшчына".

Рэчку Гавязнянку яшчэ ніхто афіцыйна не адмяняў і не спісваў з рахункаў. Яна застаецца ў энцыклапедыях, геаграфічных даведніках, нягледзячы на тое, ШТО з ёй сталася ў выніку тэхнагенных эксперыментаў. Яна яшчэ ўсё (!) **абъект прыроды,** яна яшчэ ўсё (!) **прыток Нёмана** - з усім сваім біялагічным складам: **поймай, вільготным лугам, дрэвамі, паплавамі, жывёльным светам.** Іх таксама ніхто не адмяняў, каб ізноў, у трэці раз, няшчадна рэзаць на кавалкі, зводзіць яе адвечны біялагічны рэсурс на прыдатак вузкаутылітарных гаспадарчых бізнэс-патрэб, у вялікай долі сумнеўных і цьмяных.

Разам са мной ліст падпісала і **Алена Анісім**, дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Стаўпецкая акруга.

**ВАМ НЕ СЮДЫ!**

**Мінпрыроды не ўбачыла ў дзеяннях прыродазнішчэння і апустэльвання рачной поймы парушэнняў экалагічнага заканадаўства**

Ніводная пазіцыя на ахову і зберажэнне прыроднага рэсурсу – біялагічнай разнастайнасці, водных багаццяў, захавання краявідаў - не была падтрыманая міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Катэгарычная, пад кальку форма адказаў сведчыла пра адно: вам не сюды.

"Мы прасілі б міністэрства яшчэ раз узважыць МЭТАЗГОДНАСЦЬ РАБОТ НА АБ'ЕКЦЕ, задзейнічаць дзеля гэтага максімальны рэсурс структурных падраздзяленняў, – звярталіся мы зноў да намесніка міністра І. Малкінай (яна часова выконвала абавязкі міністра). - Мы перакананыя ў тым, што дзеянні ў пойме Гавязнянкі эканамічна і экалагічна не абгрунтаваныя і не адпавядаюць Дзяржаўнай праграме развіцця аграрнага бізнесу ў Рэспубліцы Беларусь".

1 лістапада 2018 я быў першым наведнікам у дзень асабістага прыёму новага міністра Андрэя Худыка. "Хачу Вам сказаць, – пачаў я, – што сёння ў Беларусі няма каму бараніць прыроду, дзяржава і ваша прыродаахоўнае ведамства не бароняць, а нават дапамагаюць зводзіць прыродныя багацці". "Ну чаму ж, не ўсё так…" – мякка запярэчыў новы міністр. Я коратка аргументаваў сваю выснову сітуацыяй на Гавязнянцы.

"Уратаваць рэчку, ці канчаткова паглынуць яе, падвесці да поўнага скону – не адно і тое ж, праўда? – сказаў я. – Аднак сёння Мінпрыроды займае цалкам пранеліярацыйную пазіцыю, лабіруе інтарэсы вытворцаў, – сказаў я і спаслаўся на практыку нядаўна рэфармаванай службы экалагічнай экспертызы. – Падобна, маем папяровую і паразітуючую структуру. Эксперты не бачылі аб'ект, як кажуць, ногі не мачылі і падпісалі смяротны прысуд маёй рэчцы. Затое "меліяратары" ім праплацілі значную суму. І гэта сумленная практыка?".

Я папрасіў міністра вярнуцца да экалагічнай экспертызы праекта і хоць бы не чапаць вярхоўе ракі, не бяёдаць апошняе і не асушаць пойму (на гэты час больш за дзве трацiны рэчкі былі па-жывому выграбаныя і выпатрашаныя








*Фота 19 кастрычніка 2017: Дзякуючы бабрам каналы за паўстагоддзя ператварыліся ў раскошныя сажалкі, паспелі рэнатуралізавацца і зарыбіцца. У мяне на далоні паднятыя з-пад каўша экскаватара прадстаўнікі трох відаў мясцовай іхтыяфауны.*

– грошы асвойваліся ў надзвычайным тэмпе і да блізкіх халадоў). Худык нічога не паабяцаў. Але, падалося, экспертызай – структурай міністэрства – зацікавіўся.

Праз дзень мне адтуль патэлефанавалі і прапанавалі выехаць на месца. Я згадзіўся. Вынік – рэчышча ў вярхоўі не чапалі, аднак пойму ўлучна з водаахоўнай зонай спаласавалі каналамі, ды так, каб ні кроплі вільгаці не засталося, каб дашчэнту ўходаліся крыніцы, а пойма ракі ператварылася ў пыл. Лета і восень адсюль не сыходзіла тэхніка; здавалася, яна брала ў сілкі рэшткі ўсяго жывога. Я бачыў, як на паверхню выходзіў пясок і ўсцяж на адвалах бялеў глей. Бязлітасна і метадычна. Але ад д”ябла.

## ДАЖЫЦЬ ДА ТРЭЦЯЙ МЭЛІЯРАЦЫІ. ХРОНІКА ЗЬНІШЧЭНЬНЯ АДНОЙ РАКІ

**Эканататкі зь месяца «рэканструкцыі мэліярацыйнай сыстэмы» ракі Гавязьнянкі, што на Стаўпеччыне**

**Радыё Свабода (друкуецца на мове арыгінала).**

13 студзеня 2018

Лесаўтваральны пяцігектарны арэал восеньскай нерушы ў поймавай забалаці — пад нож, пад нішто! Дый баброў... — куды? — а туды ж!..

Пакуль я гэта пішу, седзячы перад наўтбукам за пісьмовым сталом, недзе там у прырэчнай забалаці падаюць долу дрэва за дрэвам, мэтр за мэтрам агаляецца вусьціш затульнай мясьціны. Яшчэ месяц таму яна зачароўвала вока полымем жаўталісьця, бярозавым беластвольлем. Застаецца трава, вербалозьзе ды забуялы высокі трысьнёг. Затым прыйдуць гусенічныя карчавальнікі, магутныя бульдозэры, трактары, у бабровую затоку боўтне каўшом экскаватар, — зрэшты, што будзе далей, нават самі рабочыя цьмяна сабе ўяўляюць.

«Лепш было ўсё пакінуць, чым рабіць» — кажа адзін.

«На марны дзень! Тут нічога ня вырасьце» — дадае другі.

«Нашто было лезьці? Дарма патрачаныя грошы!..» — мяркуе трэці.

...Заўчора, калі стаяў і глядзеў, было нашмат цяжэй. Асабліва калі вось так: наўзвоч гэта бачыш і ведаеш пэўна — прафанацыя й фальш, ад невуцтва і дурноты, за сьляпыя казённыя грошы, ня вартыя ані жаднай травіны, што вырасьце тут дзеля мітычнае «сенажаці», каб гэтак намарна зводзіць гектары адроджанай поймы, гэтак пачорнаму рэзаць, глуміць жыцьцяносныя водаахоўныя краявіды.

**«Бог вам судзьдзя, пустадомкі і барбары!»**

Гэта мой вэрдыкт-пажаданьне ўсім, хто спрычыніўся да Гавязьнянкі, хто яе моцна пакрыўдзіў, як крыўдзяць дзяцей ці нямоглых старых.

І тым, хто падпісаў вынішчальны прысуд гэтаму арэалу восеньскай нерушы, я таксама пасылаю свой гнеўны вэрдыкт. Бо разумею месца пад сонцам як





*БЫЛО...*
*Фота 10 ліпеня 2016: водаахоўны краявід у пойме Гавязнянкі, які, дзякуючы адвечным крыніцам, узнавіўся пасля першай знішчальнай меліярацыі і ўяўляў сабой лесаўтваральны аазіс*

абавязак яго бараніць. Мне Бог не даруе, калі не заступлюся, калі адседжуся моўчкі...

Рака Гавязьнянка была панявечана першай асушальнай мэліярацыяй 60-х. Яе каналізавалі цалкам — ад вытоку ў лясным урочышчы пад Нясьвіжам, дзе вёскі Завітая і Стрыхараўшчына ды на шашы Старыя Навасёлкі, аж да самага вусьця насупраць Коласавай Мікалаеўшчыны на Стаўпеччыне. Яе перасякалі дзясяткі ці сотні



*...І СТАЛА.*
*Фота 11 кастрычніка 2017: 10-гектарны лесаўтваральны арэал у водаахоўнай зоне Гавязнянкі пушчаны пад нож. Яму і сёння, праз год, не могуць даць рады: абшар спрэс на крыніцах.*

разоў Уладзіслаў Сыракомля і Канстанцін Міцкевіч (Якуб Колас)... Усяго 24 кілямэтры, зь якіх сьмела адкідаем сёньня два: вярхоўе з году ў год перасыхае, сьцёку амаль не відаць. Аднак ніжай рачулка пачынае жвава пятляць, ашывацца, утвараць перакаты ды так званыя мэандры, сям-там — неглыбокія міні-затокі. Гэта вельмі цікава назіраць: як рэчка адраджаецца, вяртае людзям свае маленькія чары, а ўлоньне робіцца вабнейшым ды весялейшым.

Далёка ня ўсім вядома, як, якім коштам гэта рацэ даецца — пятляць-ашывацца, утвараць затокі ды лукі... Першая «мэліярацыя» кінула рэчку на павольную сьмерць. Трох-пяцімэтровыя схілы-адхоны каналаў схавалі ня толькі былую красу, але паралізавалі адвечны рух, асалоду плыць, даваць схоў і прытулак флёры і фаўне, быць багатай на рыбу.

Яе паклалі ў труну, зааралі берагі, выкарчавалі прыбярэжныя дрэвы, агалілі ды асушылі пойму.

Разьлік рабіўся на хуткі канец. Але рака хацела жыць.

**Задача нумар адзін — дашчэнту зьвесьці бабра**

Мне ўдалося прасачыць ці не галоўную задачу цяперашніх «мэліяратараў». Бадай, уся стратэгія і тактыка іхніх парываньняў палягае на гэтай «звышзадачы» — выкурыць бабра, і каб ніякіх шанцаў вярнуцца назад яму не пакінуць. Ачыстка каналаў — гэта ачыстка іх ад бабровай прысутнасьці. Выбіць, зьнішчыць дарэшты. Разбурыць плаціны, берагавыя сховішчы, хаты, атокі расьліннасьці, што ідуць на пракорм, — усё даастатку. Каб духу яго не засталося. Яму тут ня месца — і справе канец!

Калі ў спрэчках даходзіла да гэтай, бабровай, тэмы — я хутка пачынаў цяміць, што вобраз ворага знойдзены. І калі спрабаваў запярэчыць, на мяне ўжо глядзелі зусім безнадзейна: маўляў, з табою ўсё зразумела.

Тады я выстаўляў нечаканы і малавядомы факт. Называў краіну, дзе бабра ў вялікай колькасьці экспартавалі дзеля ажыўленьня і ачышчэньня малых забруджаных рэчак і ручаёў. Маўляў, бабры — выратавальнікі панішчаных водных артэрыяў, а ня ворагі нам, і не выцірайце аб іх ногі, ня біце па галаве, не пускайце на





**На справу баброў прыходзілі паглядзець старыя і малыя, плаціна ўяўляла досыць мудрагелістае збудаваньне шырынёй каля 50 метраў і выклікала павагу, нават захапленне**



*Фота 24 ліпеня 2011: на галоўным рэчышчы Гавязнянкі (12-ты км ад вытоку)*

марнае мяса. Маліцеся! Прамаўляйце словы мэдытацый. Вучыцеся жыць з прыродай, рабіце яе партнэрам, а не хапайцеся за палку. Ня сьмешкі ж — рэальная, жывая і эфэктыўная, аэрацыя! І ні капейкі зь бюджэту!.. Мае апанэнты на час прымаўкалі. Факт, як-ніяк, азадачваў.

Прыгадваю, як на раздольнай поймавай лугавіне, бліжэй да вёскі Вішнявец (мястэчка Гавязна), бабры стварылі возера памерам з гектар. Яно пашыралася, хутка і хораша зарастала ў берагах, сюды ехалі рыбакі ажно з Клецку, Дзяржынску і Капыля, а мясцовыя жыхары сьпяшаліся набыць гумова-надзіманую лодку. На справу баброў прыходзілі паглядзець старыя і малыя, плаціна

ўяўляла досыць мудрагелістае збудаваньне шырынёй каля 50 мэтраў і выклікала павагу, нават захапленьне.

Неўзабаве на Гавязьнянцы зьявіліся праектанты зь Менску. Пэўна, гэта ім і надало імпэту менавіта тут, на галоўным рэзэрвуары ракі, запраектаваць, а затым мэліяратарам бліжэйшых ПМК (зь Нясьвіжа ды Налібакаў) разгарнуць у гэтай «геніяльнай мясьціне» зь яе водарэсурсавым біянапаўненьнем ці ня самы шырокі фронт работ. Больш дакладна — не пакінуць жывога месца, расьцерці ў пясок, укрыжаваць.

### Хочаш зьнішчыць прыроду — ствары монстра, або Вялікі звод вады

Пасьля таго як першая інстанцыя — Мінпрыроды — не пакідала мне ніякіх шанцаў адстойваць аб'ект прыроды ў галоўным прыродаахоўным ведамстве і сьведчыла пра адно: *вам не сюды*, я напісаў зварот у Дзяржкантроль. Злосны ліст, з гранатай у руцэ.

*«...З гледзішча экалёгіі, прыродаахovы — пісаў я, — гэта неадэкватны жорсткі праект (уходаньне рэчкі, зьнішчэньне рэкрэацыі, уніфармізм і біягенацыд); з гледзішча эканомікі і мясцовага маркетынгу — цалкам*




*Фота 18 кастрычніка 2017: танкі «меліярацыі» - на Гавязнянку!*





**«Панарама бітвы і ўсё, што тут адбываецца, — даводзіў я старшыні Дзяржкантролю, — заслугоўвае і маральнай ацэнкі. Гэта не проста шкодніцтва, аплочанае казною. Гэта злачынства і здрада Радзіме»**

*стратныя працы, закопваньне грошай намарна. Тое, што тут адбываецца, неабходна рахункаваць і абліч-ваць; дзяржпраграма, пэўна ж, разьлічаная на тое, што капейка будзе ўкладзена ў патрэбнае месца... Аддачу зямлі, дзеля чаго ўкладваюцца вялізныя сродкі, уявіць немагчыма. Ветах сена, вобразна кажучы. А што далей? Дзе бізнэс? Ніякага бізнэсу ня будзе. Гэта вам скажа шараговы пастух. Зь ім пагодзіцца мясцовы аграном. Гатовы пацьвердзіць і я, нераўнадушны назіральнік з 60-гадовым стажам... Панарама бітвы і ўсё, што тут адбываецца, — даводзіў я старшыні Анфімаву, — заслугоўвае і маральнай ацэнкі. На мой погляд, гэта ня проста шкодніцтва, неабачна аплочанае казною. Буду блізкі да ісьціны: гэта злачынства, здрада Радзіме. Бо ўсе — ад заказчыка, праектанта, дзяржаўца мясцовай улады да апошняга выканаўца — павінны былі разумець, якімі каштоўнасьцямі рызыкуюць. Ляндшафт, пэйзаж, расьлінны і жывёльны сьвет, прырода ў сваёй разна-стайнасьці — генэтычны рэсурс краіны, найгалоўныя складнікі паняцьця Радзіма. Так разбураць, апустэль-ваць, зьбядняць, перайначваць вобраз роднай зямлі, не дапамагаючы прыродзе, а выбіваючы, гвалтуючы яе, заганяючы мясцовых жыхароў у роспач і дэпрэсію ад выгляду на ваколіцы, можа толькі вырадакі запраданец...»*

Да ліста я прыклаў неабходныя паперы і дзесяць фотаздымкаў.

На што я мог разьлічваць? На свой голас і розгалас. Магчыма, на дзясятак ключавых словаў, на фотададатак, які пацьвярджаў мае словы. Збольшага я не памыліўся:

мой ліст і ўся папярэдняя перапіска па Гавязьнянцы ўжо назаўтра ляжалі на стале аднаго з намесьнікаў кіраўніка менскай абласной структуры дзяржкантролю, куды я завітаў у той дзень на прыём...

Што б мы ні казалі, тлумачыў я, трэцяя мэліярацыя, якая зноў балюча ўдырылася ў Гавязьнянку, — гэта рэальная вайна супраць прыроды, гэта брутальны захоп і звод вады (даўно і змрочна жартую, што аб'яднаньне-заказчык мэліярэканструкцый «Белводгас» заслугоўвае іншай назвы — «БелЗВОДгас»). Паглядзіце, хваля ў Гавязьнянцы ператварылася ў горны ручай. Бяжыць вада ў чужы далёкі сьвет — у мора і за мора — замест таго, каб насычаць родныя нетры, акумулявацца ў прасторы, фільтраваць каштоўныя запасы.

Хіба не злачынства супраць нацыі, калі мець на ўвазе той факт, што сёньня назіраем чарговае падзеньне грунтовых водаў? Мы бачым глыбозныя каналы, часам па дватры поруч — на два чалавечыя росты, руйнаваньне ацалелых крынічак, разбурэньне гнёздаў прыбярэжнай зоны, генацыд жывых арганізмаў. Сетка каналаў па берагах разьлягаецца да самых грудкоў і пагоркаў, мяжуе з полем. Тое, што называлася лугам, поплавам, поймай, ператварылася ў вобраз цела, блізкі да патолягаанатамічнага...

**Хто адкажа за «кожны гектар»?**

Добра памятаю, як гадоў дзесяць таму Аляксандар Лукашэнка даваў даручэньне навесьці парадак на землях, якія зь недагляду зарасьлі, але маглі б стаць карыснымі для сельскай гаспадаркі. Здавалася б, што кепскага? Але пагроза адчувалася ў тым, што парадак можа абярнуцца супраць прыроды, біялягічных запасаў, паплавоў ды маляўнічых забалацяў.

Прайшло часу, і ў Столінскім раёне, што на Палесьсі, Лукашэнка літаральна заявіў, гледзячы ў бок Сумара (цытую з афіцыйных крыніц, без перакладу): «А ты сам считал лично себестоимость их работ? Они же сами себе считают, сами сметы рисуют, сами выполняют и в итоге приходят к тебе за деньгами. У нас же нет независимых бухгалтеров и счётчиков. Нам надо обязательно создать группу специалистов и посчитать их себестоимость». І





## «... што наперадзе, што далей? Самаакупнасць праз сем гадоў, якую абяцае «група спецыялістаў» з Мінсельхарчу?»

тут жа ў бок кіраўніка Брэсцкай аблмэліярацыі: «Не дай бог, он не сдаст хоть один гектар». Гэта пры ўмове, што мэліяратары атрымаюць стоадсоткавае фінансаваньне.

Яны яго атрымалі.

А сёньня ў мяне ёсьць падставы спытаць у прэзыдэнта: «Хто адкажа за кожны гектар зьведзенага з твару зямлі адвечнага айчыннага краявіду?.. І за кожны бяз дай рацыі патрачаны беларускі рубель?..»

Расчыстка рэчышча Гавязьнянкі, пры якой паўстаюць, быццам зь пекла, нежывыя адхоны-каналы з вывернутым дном, якое за два-тры дзясяткі гадоў пасьпела (дало рады!) умацавацца, аднавіць сваю жыцьцяносную разнастайнасьць, нарасьціць нораў, рэнатуралізавацца, — ня голы прыклад. Можна сказаць, стэндавае месца: што наперадзе, што далей? Самаакупнасьць празь сем гадоў, якую абяцае «група спэцыялістаў» зь Мінсельхарчу?

Шматлікія дасьледаваньні паказалі: рэчышчы пасьля такой «ачысткі» (тэрмін вельмі ўстойлівы ў папераззвароце мэліярацыйных службаў) даволі хутка, на працягу 7–10 гадоў, ушчэнт заглейваюцца і... Не хацелася б думаць! Ня стане сьцёку вады, пойма-поплаў-луг перасохнуць, і нават бяз выкліку «паталягаанатама» (з тых, д’яблавых службаў) «мэліярацыйную сыстэму «Гавязьнянка» заруць вялізнымі глыбокімі плугамі.

То бок, я — пра рэчку, якую ніхто не адмяняў. Ні берагоў яе, ні поймы. Ні прырэчных алешнікаў, ні мокрых балацінак, ні кветак у лузе. Ні права яе рэчкай звацца... Гавязьнянка застаецца ў Блакітнай кнізе Беларусі (Мінск, 1994).

У Пагарэлым, вёсцы на Гавязьнянцы, я нядаўна распытваў пра вадзяны млын, які з даўняга часу стаяў наводшыбе, нікому не замінаў і якога раптам за ноч ня стала — разабралі на дровы ацепліць мясцовую фэрму.

Жанчыны, што гэта распавялі, выціралі хусткамі сьлёзы: «Як мы яго шкадуем, вам не перадаць! Такога ж ужо ня будзе. Унукі прыяжджаюць і пытаюцца: нашто вы яго аддалі?.. Гэта ж, кажуць, быў брэнд вашай вёскі... Цяпер за Гавязьнянку во ўзяліся. Зноў прыгналі гэтую сьмерць, канавы кругом капаюць, глянуць няма куды...»

«Няўжо тут нечага не дабралі?» — задаў я рытарычнае пытаньне. Ці не дабеглі і сьпяшаюцца каго дагнаць, дацягнуцца да ўзораў-вычварэнстваў той нечалавечай цывілізацыі, якую называюць тэхнагеннай? А мо ўсё нашмат прасьцей — каб у нейкіх ПМК нумар 73 ці 84 не прастойвала бульдозэрна-каўшовая тэхніка?

**«Не чапайце хоць вы!»**

Ішлі ад вусьця, ад самага Нёмана, дзе Мікалаеўшчына, Паласьня, Пагарэлае, Крамец, Зарэчча... Намарна зьелі дзьве трацiны рэчкі.

«Гэта ўжо трагедыя Гавязьнянкі. Таму ня рушце хоць вы на сваім баку, у вярхоўі, — сказаў я ў Нясьвіскім райвыканкаме кіраўніку «вэртыкалі» Крупку. — Пакіньце гэтую адну трацiну з вытокам — мінімум вашае чалавечнасьці, калі ня сьпісваць рачулку з рахункаў дарэшты».

Старшыня паабяцаў прыгледзецца да праекту, па магчымасьці не чапаць рэчышча, правесьці грамадзкія слуханьні, «абавязкова» запрасіць мяне як аўтара пэтыцыі на *Change.org* і журналіста-абаронцу.

Бадай, гэта лепшае, што ён мог мне сказаць, гледзячы ў вочы. Шкада. Ад сказанага ўжо не засталося, бадай, аніводнага слова праўды.

**«Родная прырода»-1992: «штучна ствараць плёсы і перакаты...»**

*«І не хапае месца для буслоў цыбатых / На нашых перасохлых паплавах»*, — праўдзівыя радкі Пімена Панчанкі з далекаватых 70-х я заўсёды любіў цытаваць. Пераважна для самога сябе. Як мэмарандум аб каштоўнасьці беларускай прыроды. Нашых лугоў і поймавых краявідаў, нашых балотаў і рэк, прырэчных лясоў і крыніц. Дзякуй, паэт! Лірычны вобраз дацягваў да пляката, лёзунга, канстатаваў сумны вынік, заступаўся ня толькі за маю Гавязьнянку, але за сотні-тысячы малых рэчак і рэк, што склалі 80 адсоткаў (!) ад усёй іхнай колькасьці — тое значыць, падзялілі цяжкі лёс укрыжаваных пакутніц.





*Фота 8 траўня 2008: памятка лепшых дзён Гавязнянкі - вадзяны млын у вёсцы Пагарэлае.*

Толькі ўдумацца ў лічбу, што люструе трагедыю беларускай прыроды: 80 адсоткаў!..

Заўжды сумняваўся ў шчырасьці адносін уладных структур да міжнародных экалягічных дакумэнтаў, што падпісвае і ратыфікуе Беларусь, — усё адно нейкая дуля з кішэні тырчыць. Сёньня, калі трэцяя мэліярацыя ў нас за акном, я зноў пра тое ж. Падпісаны за дзясятак дакумэнтаў, найперш *Канвэнцыі аб біялягічнай разнастайнасьці, па барацьбе з апустыньваньнем, Рамсарская, дзе выразна актуалізаваныя перадусім такія паняцьці, як вада і вільгаць.* А тут асушэньне парэшткаў! Нашых водных артэрыяў! Трэцім навaратам! Нягледзячы ні на што!

Нарэшце, хоць з даўніны, чую ратаўнічы водгук, словы ў падтрымку прыроды: «Умела выкарыстоўваючы законы прыроды, тэхніку, якой раней спрамлялі рэчышчы (...), трэба штучна ствараць плёсы і перакаты... Такім чынам можна выратаваць тыя ручаіны, дзе яшчэ захаваўся маленькі сьцёк». Так напісаў пра неабходнасьць дапамагаць «мэліяраваным» рэкам часопіс «Родная прырода» (1992, № 10).

25 гадоў таму... Надзея ці безнадзейнасьць?

**Валер Дранчук. Радыё «Свабода».**



## *«Праз сотні гадоў з адроджаных балот па Беларусі зноў пацякуць, запятляюць адроджаныя звілістыя рэчкі... Ці пабяжыць, пятляючы, Гавязнянка?»*

*Фота 2003: Сябры клуба «Сьвятаяньнік» Вішнявецкай школы любуюцца на вусце Гавязнянкі з процілеглага берага Нёмана. Ваколіцы вёскі Мікалаеўшчына, Стаўпецкі раён.*



# Замест пасляслоўя

**Іншая цана – Хто «мякка сцеле»: развагі кліматолага – Мой адказ Мінсельхарчу – Грамадская ініцыятыва – Наша «не!» разбурэнню плацін – Перакаты, плёсы, затокі**

НАДЗЕЯ ці безнадзейнасць? Гэтым несуцяшальным пытаннем я закончыў эканататкі з месца «рэканструкцыі меліярацыйнай сістэмы» с в а ё й рэчкі Гавязнянкі. Так, рэчка мне стала с в а ё й з таго часу, калі я пачаў сябе ўсведамляць, калі ўбачыў над ёй вечаровы туман і як сонца скрозь вербы кладзе свае першыя промні на роўнядзь вады... Таму словы «рэканструкцыя», «меліярацыйнай», «сістэмы» бяру ў двукоссе. Бо ведаю ім іншую цану, кожнаму паасобку...

Дваццаць з лішнім гадоў таму, калі выдаваў сваю аўтарскую газету «Белавежская пушча», мне давялося сустрэцца з вядучым беларускім кліматолагам прафесарам Уладзімірам Логінавым. Быў 1997 год, па цэнтральнай Міншчыне пранёсся разбуральны чэрвеньскі ўраган. Я спытаў у вучонага, якія складнікі біялагічнай структуры нашых ваколічных асяродкаў найперш спараджаюць або стрымліваюць развіццё экстрэмальных з”яў. Кліматолаг не быў катэгарычны. Але тое, што гаспадарчая дзейнасць чалавека можа стымуляваць узнікненне анамалій, падкрэсліў ён, сумневу няма. Лепш - калі наш краявід шурпаты і маляўнічы. *«А гэта глеба, лес, рака, возера - тое, што на ўзроўні ног, рук і вачэй. І калі ў гэтым коле ці ланцугу вы нешта змянілі - напрыклад, заміж лесу пакінулі пустку, зялёны аазіс звялі на пясок - вы тым самым змянілі шурпатасць зямной паверхні, змянілі вільготнасць, колеры і адценні, што магло паўплываць на адбітак радыяцыі і*

*хуткасць ветру»*. Зразумела, у ходзе гаворкі была згадана і меліярацыя. Уражаны аргументам шурпатасці зямной паверхні з вуснаў прафесара, я спытаў пра паўторнае забалочанне меліяраваных тэрыторый, асабліва ў поймах малых рэк, раней багатых на біялагічную разнастайнасць (шурпатасць) той самай паверхні: ці можна спадзявацца на ўстойлівасць клімату, калі не ісці туды зноў з экскаватарамі і бульдозерамі?

Вось што адказаў мне вучоны-кліматолаг: *«Узнаўленне балот павінна працаваць на біясферу, на нашу трываласць і ўстойлівасць. Не варта шукаць у гэтых тэрыторыях прыкметы запушчанасці - яны вяртаюцца ў свой ранейшы «працаздольны» стан. Далей прырода пастараецца сама, толькі не трэба ёй перашкаджаць...»*.

**Значыць, падумаў я, і Гавязнянка запятляе праз сотню гадоў, калі сёння на яе не йсці плугамі...**

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання (меліярацыя - галіна Мінсельхарчу), адказваючы на мае лісты, у якасці галоўнага аргумента, навошта асушаецца Гавязнянка, назвала размяшчэнне на яе берагах двух буйных жывёлагадоўчых комплексаў. Маўляў, пашы, кармы, харчовая бяспека - вы што, не разумееце? забудзьцеся пра мілыя сэрцу пейзажы, не замінайце аграбізнесу! І г.д., і г.д. Але ж я ведаю, што на тых самых берагах размешчаны і дзве школы. І на ўсіх падставах я таксама магу сказаць: не замінайце выхаванню пачуццяў да «малой радзімы», не калечце дзіцячыя душы, ваша «эстэтыка» прыгнятае, схамяніцеся - які бізнес!.. І дадам, што Гавязнянка - векавая калыска цэлага дзесятка вёсак з іх жыхарамі. Вока прашчура даўно налілося гневам: што зрабілі з Гавязнянкай!

І працягваюць рабіць - вось дзе штука!

У лютым 2018-га мы, група добраахвотнікаў, сабраліся ў ціхім месцы былога мястэчка, каб дамовіцца, як дапамагчы рачулцы вярнуць сілу і нораў, не даць ёй сканаць у смяротных абдымках. А чужакам перагарадзіць дарогу: прэч з нашых берагоў, лагчын і балотцаў!

Сваю грамадскую ініцыятыву мы назвалі *«Гавязнянка хоча жыць»*. Ініцыятыве няма і года. Экспедыцыі, візіты, перапіска - тое, што паспелася. Наша першае *«не!»* - меліярацыйнай сістэме на рацэ Гавязнянцы, разбурэнню



бабровых плацін, разворванню берагавой водаахоўнай зоны. Мы ставім задачы: там, дзе магчыма, ствараць перакаты, плёсы, затокі і паглыбленні. З часам рэчка зробіць гэта сама, але сёння ёй трэба дапамагчы. Варта ўсяляк спрыяць залясенню берагоў: вясной, напрыклад, уторкваць у глебу галінкі лазы, вярбы, таполі - тое, што лёгка прыжываецца. Дый проста рабіць падсадкі: няхай там будуць хвойкі, елкі, алешынкі... І не стамляцца фатаграфаваць рачулку, збіраць свой даследчы архіў, размяшчаць фатаграфіі ў сацыяльных сетках.

Сённяшняя публікацыя не прэтэндуе на вычарпальнасць. Хутчэй, гэта частка, фрагмент асобнай кнігі пра Гавязнянку і яе лёс, над якой я зараз працую, - з развагамі, дзённікамі, ліставаннем, сустрэчамі і назіраннямі, аўтарскай фотахронікай. Адзнята 8 гігабайтаў матэрыялу па тэме. Шмат чаго яшчэ трэба ўбачыць, запэўніцца, дачакацца, каб зрабіць высновы і параўнанні.

Такім чынам, я не развітваюся.
Сутрэнемся на Гавязнянцы!



## Змест

Ад аўтара. 3
«У гэтым мястэчку...». 5
Як мур, як родная сцяна. 8
Няхай ваша вернецца да вас! 15
Радаводны прыярытэт. 30
Вердыкт, які звароту не мае. 63
Пасляслоўе. 81

Гавязнянка хоча жыць! 85
Замест пасляслоўя. 113

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дранчук Валер**

**ГАВЯЗНА І ГАВЯЗНЯНКА**
*Хроніка красы і змагання*

У аўтарскай рэдакцыі
Дызайн, фотаздымкі аўтара

Адказны за выпуск С. Суднік
Кампутарная вёрстка В. Данілевіч

Падпісана да друку 04.12.2018
Фармат 84 x 108 1/32
Папера афсетная
Гарнітура MS Reference Sans Serif

---

ІНШЫЯ ВЫДАННІ АЎТАРА НА ГЭТУЮ ТЭМУ

**Белавежская пушча. Рэзалюцыя SOS.**
Серыя «На мове самой прыроды».
1994

**Воблакі-лебедзі**
Серыя «Мне сонцам свецiць Наднямонне».
2004

**Мае кантрапункты. За акіянам і дома.**
Нацыянальныя паркі і ахова дзікай прыроды ў ЗША.
2007

**Кажу дзецям... Прысвячэнне Платону.**
2006

**Маляўнічая Бацькаўшчына.**
Каляндарная серыя.
2000 -2018

---

Далучайце свой голас і водгук, сябры.

Мой электронны адрас даступны для зносін:
v.dranchuk@gmail.com, тэлефон: 29) 6 566 670 (v) або 33) 3 221 444 (мтс). Мяне лёгка знайсці ў Фэйсбуку: www.facebook.com/valer.dranchuk.

**Аўтар**

